بســم الله الرحمن الرحيم

# БАЙРАМ

## ТАТАРЫ НА ЗЯМЛІ БЕЛАРУСІ

**Квартальнік**
**Беларускага згуртавання татараў-мусульман**
**"АЛЬ - КІТАБ"**

**№ 4**
**Менск 1996**

بســم الله الرحمن الرحيم

# БАЙРАМ

## ТАТАРЫ НА ЗЯМЛІ БЕЛАРУСІ

**Квартальнік**
**Беларускага згуртавання татараў-мусульман**
**“АЛЬ - КІТАБ”**

**№ 4**
**Менск 1996**

РЭДАКТАРСКАЯ ГРУПА :

Я. Гучок,
Л. Драбовіч,
І. Канапацкі,
Т. Панчанка,
В. Садыкава,
Е. Фешчанка.

Надрукавана ў Навагрудку

اعوذ با لله من الشيطان الرجيم

بسم الله الرحمن الرحيم

السلام عليكم ورحمة الله وبركاته

## Ассаляму алейкум, спадарыні і спадары, супляменнікі-татары, усе мусульмане !

Вялікую палёгку, радасць адчулі ўсе татары, усе мусульмане, усе добрыя людзі на свеце, калі спыніліся баявыя дзеянні ў Чэчні -- Ічкерыі. Па волі Аллага знайшліся сярод рускіх людзей тыя, хто спыніў " зачысткі ", калі артылерыя, авіяцыя, усюдыходы і танкі уціхаміравалі неразумных, нерускамоўных жыхароў тых мясцін. Пры гэтым генерал Лебедзь усё ж прапанаваў абгарадзіць Ічкерыю калючым дротам.

Радасць мясцовага значэння -- адкрыццё мячэці ў гарадскім пасёлку Смілавічы Чэрвеньскага раёна Менскай вобласці. На джума-намаз сюды могуць прыехаць мусульмане, а таксама тыя, якія прыехалі часова па справах у Беларусь. Вядома, дзверы мячэці адчыняцца і ў іншыя дні, калі чалавеку вельмі трэба пабыць у мусульманскім храме.

Беларускія татары вельмі ўдзячны ўсім тым, хто асабістай працай, матэрыяльнымі сродкамі дапамог і дапамагае для мусульман-вернікаў. Ну а хто дапамог, аб гэтым ведае Аллаг.

Нашу Беларусь, якая знаходзіцца ў цэнтры Еўропы, не надта многія ведаюць у свеце, але гэта віна тых, хто яе не ведае. У царскай Расіі Беларусь называлі " Северо-Западный край ", затым Беларусь падзялілі згодна Рыжскай дамовы 1921 г. паміж Польшчай і Расіяй, а каб беларусам не было вельмі балюча, калі іх Бацькаўшчыну рэзалі, то нікога з Беларусі на гэту падзею не запрасілі, а то раптам Бог начуе беларускую мову. У час Другой сусветнай вайны тут загінула больш за 2 мільёны людзей. За вялікі ўклад беларускага народа ў барацьбе з германскім фашызмам, Беларусь зрабілі членам Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Толькі прадстаўнікі гэтай дзяржавы ў ААН не размаўлялі па-беларуску, найлепш думалі па-руску, бо вялікія ідэі ў галаве беларуса даспяваюць на рускай, або на англійскай мове.

Наш першы Прэзідэнт, уступаючы на пасад, даваў прысягу на Канстытуцыі на вернасць Радзіме. Але Канстытуцыя гэта была не дасканалай, аб чым і выказалася большасць яе грамадзян па Рэферэндуме 1996 г. І цяпер недасведчаныя людзі ўпэўнена не могуць сказаць, у якой палаце знаходзіцца іх дэпутат, якога яны выбралі. Нават саромяцца запытаць пра яго, бо і прозвішча дэпутата забылі, і нумар акругі недзе загубіўся. Але гэта дробязі, абы чалавек ён быў добры.

Дык працуйма, сябры, шчыра. Дбайце пра сваіх блізкіх, а ў выніку будзе ўсё добра. Адсвяткуем у 1997 г. 600-годдзе пасялення татараў на землях Беларуска-Літоўскай Дзяржавы. Наперадзе шчаслівыя гады, калі пажадае Аллаг.

**Мір вам і міласць Аллага !** السلام عليكم ورحمة الله

---

Пішыце лісты на адрас па-руску :

**220119, г. Минск, ул. Тикоцкого, д. 2, кв. 167.**
**" Аль-Китаб "**

---

## Віншаванне з Амерыкі

Вясёлых святаў !
Шчасьлівага 1997 г.

SEASON'S GREETINGS AND GOOD
WISHES FOR THE COMING YEAR.

Зычым Вам і ўсёй татарскай грамадзе здароўя, пасьпяховага жыцьця ў 1997 г. Непакояць нас падзеі ў Беларусі. Спадзяёмся, што грамадзянскай вайны ня будзе, што беларускі народ перажыве ўладу дыктатара і адвае сваболу, нацыянальную сымболіку і будзе дэмакратычнай, прававой дзяржавай.

Тамара і Міхась Белямукі.

# КУР'АН

## Сура Аль-Араф — Кручы ( працяг )

146. І напісалі на Скрыжалях напамінанне пра кожны прадмет і тлумачэнне кожнай рэчы. Таму трымай іх моцна і загадай народу твайму трымаць тое, што найдаражэйшае для іх. Я вам пакажу неўзабаве прыстанішча для бязбожнікаў.

147. Адсуну ад Маіх знаменняў тых, которыя на зямлі паводзяць сябе з пыхаю. І нават калі ўсе знаменні Мае яны ўбачаць, у іх яны не павераць. І калі ўбачаць яны шлях правільны, не прымуць яго яны як шлях для сябе, але калі бачаць яны шлях памылковы, то прымуць яны яго як шлях для сябе. Будзе гэта так, бо прынялі яны знаменні Нашы як абман і зусім не дбалі аб іх.

148. А справы тых, якія за ману палічылі Нашы знаменні і сустрэчу з Будучым Жыццём, будуць дрэнныя. Ці ж атрымаюць яны ўзнагароду за што іншае, як не за справы іх ?

149. І зрабілі людзі Мусы ў яго адсутнасць з залатых упрыгожанняў сваіх цяльца як сапраўднага, які мычаў. Ці ж яны не бачылі, што гэты цялец не гаварыў з імі і не накіроўваў ні на які шлях ? Яны ўзялі яго сабе, бо былі несправядлівымі.

150. А калі ўсвядомілі сваю памылку, пашкадавалі, убачылі, што заблудзілі і сказалі : " Калі наш Гасподзь не злітуецца над намі і не прабачыць нам, то, напэўна, будзем сярод тых, хто страціў ! "

151. І калі Муса вярнуўся да свайго народа разгневаны і засмучаны, ён сказаў : " Зло ёсць тое, што зрабілі вы ў час маёй адсутнасці. Ці вы хочаце паскорыць загад вашага Уладыкі ? " І ён паклаў на зямлю Скрыжалі і схапіў брата свайго за шыю, прыцягваючы яго да сябе. Сказаў ( Мусе ) : " Сыне маёй маці ! Сапраўды, палічыў мяне народ слабым і амаль не забіў мяне. Таму не дай ворагам маім насміхацца нада мной і не пастаў мяне з несправядлівымі ".

152. Ён ( Муса ) сказаў : " Уладыка мой, прабач мне і майму брату і прымі нас у міласць Тваю, і Ты Самы Міласэрны з міласэрных ! "

153. Сапраўды, тых, якія ўзялі сабе цяльца, спасцігне іх гнеў Гасподні і паніжэнне ў цяперашнім жыцці. Так плацім тым, якія выдумляюць ману !

**154.** Сапраўды, для тых, якія рабілі дрэнныя ўчынкі, але пасля раскаяліся і ўверавалі, твой Гасподзь прабачыць і будзе літасцівы !

**155.** А калі Муса сцішыў свой гнеў, узяў Скрыжалі, на якіх была запісана простая дарога і міласэрнасць для тых, якія баяцца свайго Уладыку.

**156.** І выбраў Муса з народа свайго семдзесят чалавек, каб суправаджалі яны яго ў прызначанае Намі месца. Але, калі спасціг іх землятрус, ён сказаў : " Уладыка мой, калі б было патрэбна, мог бы Ты знішчыць іх да гэтага, і мяне таксама. Ці Ты нас загубіш за тое, што ўчынілі гэтыя неразумныя сярод нас ? Ці гэта нішто іншае як выпрабаванне ад Цябе, праз якое Ты зводзіш нас з дарогі, каго хочаш, і вядзеш дарогай простай, каго хочаш. Ты — Абаронца наш ; прабач нам і злітуйся над намі, і Ты — найлепшы з тых, хто прабачае.

**157.** І дары нам дабро, як на гэтым свеце, так і ў свеце будучым ; звярнуліся мы да Цябе з раскаяннем ". Аллаг адказаў : " Я дастану Маей карай, каго хачу, а Мая міласэрнасць ахоплівае кожную рэч. Я акажу яе тым, каторыя чыняць добрыя справы, плацяць закят і вераць у знаменні Нашы —

**158.** Тым, хто ідзе за Пасланнікам, Пракокам беззаганным, упамінанне аб кім знойдуць яны ў Торы, і ў Інджыле ( Евангеллі ) ; ён іх заклікае да дабра і забараняе зло і робіць добрае законным для іх, а нядобрае забароненым для іх, і здымае з іх цяжар і путы, якія скоўвалі іх. А тым, каторыя вераць у яго, і будуць ганараваць і падтрымліваць яго, і дапамагаць яму, і ісці за святлом, пасланым з ім — тыя будуць шчаслівымі ".

**159.** Скажы : " О род чалавечы, сапраўды, я Пасланнік усім вам ад Аллага, Каму належыць царства на небе і на зямлі. Няма Бога, акрамя Яго. Ён дорыць жыццё і Ён пасылае смерць. Верце ж у Бога і Яго пасланніка, Прарока беззаганнага, які верыць у Бога і Яго словы ! І ідзіце за ім, і быць можа будзеце ісці дарогай простай ! "

**160.** Сярод народа Мусы ёсць абшчына, якая кіруецца праўдай і паводле якой кіруецца ў сваіх справах.

**161.** І Мы падзялілі іх на дванаццаць плямён — асобных народаў. І Мы паслалі адкравенне Мусе, калі народ яго прасіў даць вады. Мы сказалі : " Стукні сваім кіем па скале ". І прабіліся з яе дванаццаць крыніц : кожнае племя ведала свой вадаём. І Мы паслалі воблакі прыцяніць іх, і Мы паслалі ім манну і перапёлак : " Ешце ад таго дабра, якое прыгатавалі Мы для вас ". Яны не прычынілі нам шкоды, але прычынілі сабе самім шкоду.

**162.** І ўспомніце, як Мы сказалі вам : " Вы ў гэтым горадзе сяліціся і спажывайце там, што пажадаеце, але скажыце : " Прабачэння ( прашу ў Бога ) і аблягчэння ( ад правіннасцей ) і ў вароты яго ўступіце, адбіваючы

وَإِذَا قُرِئَ الْقُرْآنُ فَاسْتَمِعُوا لَهُ وَأَنْصِتُوا لَعَلَّكُمْ
تُرْحَمُونَ ﴿٢٠٥﴾

وَاذْكُرْ رَبَّكَ فِي نَفْسِكَ تَضَرُّعًا وَخِيفَةً وَدُونَ الْجَهْرِ
مِنَ الْقَوْلِ بِالْغُدُوِّ وَالْآصَالِ وَلَا تَكُنْ مِنَ الْغَافِلِينَ ﴿٢٠٦﴾

إِنَّ الَّذِينَ عِنْدَ رَبِّكَ لَا يَسْتَكْبِرُونَ عَنْ عِبَادَتِهِ
وَيُسَبِّحُونَهُ وَلَهُ يَسْجُدُونَ ﴿٢٠٧﴾ السجدة

Кур'ан. Сура Аль-Араф, аяты 205, 206, 207.

паклоны, а Мы прабачым вам вашыя грахі. І павялічым долю тым, хто чыніць дабро ".

**163.** А тыя, каторыя чынілі несправядлівасць, указаннае слова замянілі, паслалі Мы на іх пакаранне з неба за тое, што былі яны вераломнымі.

**164.** І запытай іх пра горад, які знаходзіўся паблізу мора. Яны парушылі Суботу, і калі рыба іх усплывала на паверхню вады ў дзень Суботы ; але ў дзень, калі яны не шанавалі Суботу, яна не прыплывала да іх. Такім чынам Мы выпрабавалі іх за тое, што яны былі несправядлівымі.

**165.** І калі некаторыя з іх сказалі : " Чаму вы чытаеце настаўленні тым, якія будуць пагублены Аллагам ці будуць сурова пакараны ? " Яны сказалі : " Каб паслужыла гэта апраўданнем перад Аллагам. Быць можа, яны будуць баяцца Бога ! "

**166.** А калі яны забылі аб тым, што ім напамінана, Мы выратавалі тых, каторыя адступілі ад зла, а тых, каторыя былі несправядлівымі, падверглі Мы цяжкай кары за тое, што былі нечасцівымі.

**167.** І калі пачалі яны з пагардай дзейнічаць так, што было ім забаронена, Мы сказалі : " Будзьце ж ганарыстымі малпамі ".

**168.** І вось тады Гасподзь ім аб'явіў, што супроць іх паставіць тых, хто будзе прычыняць ім цяжкія мукі да дня Божага Суда. Гасподзь твой у пакаранні не марудзіць. Але Ён, сапраўды, Усёдаравальны і Міласэрны.

**169.** І Мы падзялілі іх на асобныя народы на зямлі : паміж імі ёсць праведныя і ёсць няправедныя. І Мы выпрабоўваем іх і дабром і злом, быць можа, яны вернуцца.

**170.** І засталіся пасля іх нашчадкі, якія атрымалі ў спадчыну Кнігу. Яны выбіраюць толькі выпадковыя і сумніўныя даброты гэтага свету і кажуць : " Нам прабачаць ". І калі б зноў падобныя дары ім трапіліся, яны б без сумнення ўзялі іх. Няўжо ж з іх не быў узяты запавет Кнігі аб гэтым, каб яны гаварылі толькі праўду ? І яны чыталі напісанае ў Кнізе. І жыллё Будучага Жыцця лепшае для праведных. Няўжо вы не зразумееце ?

**171.** Што ж датычыццада тых, якія моцна трымаюцца Кнігі і Малітвы, сапраўды, не дапусцім Мы, каб праведныя не атрымалі сваей узнагароды.

**172.** І калі Мы патраслі гару над імі, нібыта была яна коўдрай, і яны падумалі, што яна абрынецца на іх, Мы сказалі : " Моцна трымайце тое, што Мы вам далі, і памятайце змест яе, каб маглі вы ўратавацца ".

**173.** І калі Уладыка твой утварае ад сыноў Адама — з плоці іх — нашчадкаў, і ставіць іх сведкамі супроць саміх сябе, гаворачы : " Ці ж не

Уладыка Я ваш ? " Яны адказваюць : " Так, мы сведчым аб гэтым ". Чыніць Ён гэта, каб не сказалі вы ў Дзень Уваскрашэння : " Сапраўды, не ведалі мы аб гэтым ".

**174.** Альбо каб не сказалі : " Толькі нашы бацькі ў мінулым прыдавалі роўнага Богу, мы ж з'яўляемся толькі іх нашчадкамі. Няўжо Ты пагубіш нас за тое, што чынілі ілгуны ? "

**175.** Так выразна тлумачым Мы знаменні, быць можа, звернуцца яны ( да Бога ).

**176.** І раскажы ім аповесць пра тое, каму далі Мы знаменні Нашы : але ён адступіўся ад іх, тады пайшоў за ім шайтан і зрабіўся адным з тых, хто зблудзіў.

**177.** І каб Мы таго жадалі, Мы б узвысілі яго Сваім знаменнем, але ён пацягнуўся да зямной прынады і аддаўся сваім жаданням. І ён падобны да сабакі : калі рушыш на яго — гыркае, а калі пакінеш яго ў спакою — таксама гыркае. Падобна паводзяць сябе і людзі, якія маной палічылі знаменні Нашы. Паведай ім апісанне гэта, каб навяло яно іх на роздум.

**178.** Дрэнны ёсць прыклад для тых людзей, якія за ману палічылі Нашы знаменні : прычыняюць яны шкоду самім сабе.

**179.** Той, каго накіроўгае Аллаг, стаіць на простай дарозе. Але тыя, якія, на думку Яго, заблудзілі — будуць мець цяжкую страту.

**180.** Стварылі Мы для Геены ( пекла ) многіх сярод джынаў і людзей : яны маюць сэрцы, якімі не разумеюць ; яны маюць вушы, якімі не чуюць ! Яны падобныя да быдла, а нават яшчэ больш заблудзіўшымі, — бо застаюцца яны бесклапотнымі ( да павучэнняў прарокаў ).

**181.** Богу належаць найлепшыя імёны. Звяртайцеся да Яго з гэтымі імёнамі і пазбягайце тых, хто апаганьвае гэтыя імёны. Яны неўзабаве атрымаюць адплату за тое, што чынілі.

**182.** І сярод тых, каго Мы стварылі, ёсць людзі, якія ідуць дарогай простай, кіруючыся праўдай, і дзякуючы ёй паступаюць справядліва.

**183.** А тых, якія адкідваюць знаменні Нашы, прывядзём Мы да пагібелі крок за крокам невядомым ім шляхам.

**184.** Я дам адтэрміноўку ім. Сапраўды, Мая задума пэўная !

**185.** Няўжо не ўцямілі яны, што няма аблуканасці ў іх сабрата ? Ён толькі перасцерагае іх.

**186.** Ці ж не бачылі яны царства нябёсаў і зямлі і ўсё тое, што стварыў Аллаг ? Няўжо ж не бачаць яны, што, магчыма, ужо блізкі Час. Тады , у якое ж Пасланне паверацъ яны ?

**187.** I не будзе настаўленне для тых, каго асудзіць Аллаг. Пакіне Ён такіх разгублена блукаць у беззаконні іх.

**188.** Яны пытаюць цябе пра Час : " Калі прызначана яму адбыцца ? " Скажы : " Уладыка мой адзін ведае аб гэтым. Ніхто, акрамя Яго, не можа абвясціць уласцівы Час, ніхто іншы, як толькі Ён. I цяжкім было бы бярэмя ( веданне таго Часу ) на нябёсах і на зямлі.

**189.** Скажы : " Не маю я магчымасці ні добрае прызначыць, ні адхіліць ад сябе дрэннае, калі Аллаг таго не пажадае. Калі б ведаў тое, што скрытае, памножыў бы сабе дабро і не кранула бы мяне зло. Я толькі асцерагаю вас і прыношу добрую вестку вернікам.

**190.** Ён ёсць Тым, які стварыў нас з адной істоты, а з яе стварыў сяброўку, каб мог чалавек адпачываць пры ёй. I калі ён пазнаў яе, яна пачала насіць лёгкі цяжар, з якім лёгка хадзіла. А калі зрабіўся ён цяжкім, яны абое маліліся Аллагу, Уладыку іх, гаворачы : " Калі Ты нам дасі праведнага сына, сапраўды, мы будзем удзячны Табе ".

**191.** Калі ж Ён даў ім праведнага сына, яны прыдумалі памочнікаў Яму ў сувязі з тым, што Ён адарыў. Недасягальна вялікі Бог, каб у саўдзельнікі Яму яны іншых ( грахоўна ) дадавалі.

**192.** Няўжо дадаюць яны Яму тых, якія не твораць нічога, а самі былі створаны ?

**193.** I не могуць яны дапамагчы ім, і не могуць дапамагчы самім сабе.

**194.** А калі вы іх заклікаце да простай дарогі, яны не ідуць за вамі. Будзе ім абыякава, ці вы будзеце заклікаць, ці вы будзеце маўчаць.

**195.** Сапраўды, тыя, да каго вы звяртаецеся паміма Аллага, толькі слугі Яго, падобныя вам. Вы паклічце іх, і няхай яны адкажуць вам, калі яны праўдзівыя.

**196.** Ці маюць яны ногі, якімі ступаюць, або рукі, якімі трымаюць, або вочы, якімі бачаць, або вушы, якімі чуюць ? Скажы : " Склічце вашых саўдзельнікаў, якіх прыдаеце вы Богу. Затым рабіце падкоп супроць мяне і не давайце мне супакою ".

**197.** Сапраўды, апекуном маім з'яўляецца Аллаг, які даў Кнігу. Ён абараняе праведных.

**198.** А тых, якіх вы прызываеце акрамя Бога, не здольны дапамагчы ні вам, ні самім сабе.

**199.** І калі вы на дарогу простую заклікаеце іх, яны і слухаць вас не жадаюць. І бачыш ты, як глядзяць яны на цябе, але не бачаць.

**200.** Будзь цярпліва-даравальным да такіх, заклікай такіх да міласэрнасці і аддаляйся ад несвядомых.

**201.** І калі спакушае цябе шайтан, то шукай прыстанішча ў Аллага ; сапраўды, чуе Ён і ведае аб усім.

**202.** А тыя, якія праведныя, калі дасягае іх спакуса шайтана, яны імя Аллага прызываюць і пачынаюць бачыць усё правільна.

**203.** А браты іх ( якія нечасціўцы ) зводзяць у блуд яшчэ глыбей, і намаганні іх пры гэтым не слабеюць.

**204.** І калі ты ім знаменне ( Кур'ана ) доўга не прыносіш, то кажуць яны: " Чаму не падробіш ты яго ? " Скажы : " Я іду толькі за тым, што мне загадана было маім Уладыкам. Гэта ёсць сведчанне ад вашага Уладыкі, і настаўленне і міласць для вернікаў ".

**205.** І калі чытаецца Кур'ан, слухайце яго моўчкі, каб была аказана вам міласць.

**206.** І ўспамінай Уладыку твайго ў думках з пакорай і страхам, і без гучных слоў, зранку і ўвечар ; і не будзь сярод нядбайных.

**207.** Сапраўды, блізкія да Уладыкі твайго не пыхлівыя, каб Яму не служыць. Яны Яго праслаўляюць і адбіваюць Яму зямныя паклоны.

# ЛАСАСНЯНСКІЯ ТАТАРЫ - КАЗАКІ

Паводле даных перапісу 1989 года на тэрыторыі Беларусі жыло 12,5 тысяч татараў. У залежнасці ад таго, дзе жывуць татары, іх называюць беларускімі, польскімі ці літоўскімі. Але гавораць яны амаль ўсе пабеларуску. На Беларусі ўсе татары беларускую мову лічаць сваей роднай, матчынай мовай.

Узаемаадносіны паміж беларускімі татарамі і беларусамі заўсёды былі мірнымі. Беларускія татары настолькі зжыліся з мясцовым насельніцтвам, што часта нават яны выступалі супроць сваіх адзінаверцаў — крымскіх татараў. У актах Літоўскай Метрыкі знаходзім цікавы адказ беларускіх татар, які быў дадзены імі сваім аднаверцам, што чынілі тады рабункі на граніцах : " Ні Бог, ні прарок, — пісалі яны, — не прадпісваў вам грабіць, а нам быць няўдзячнымі. Мы лічым вас, як драпежнікаў, і шаблямі нашымі паражаем рабаўнікоў, а не братоў нашых... "

З'яўленне ў Вялікім княстве Літоўскім цюркска-татарскага насельніцтва стала вынікам безупынных і разнастайных зносін у мінулым з Залатой Ардой. Як адзначае прафесар А. Мухлінскі, татарскае насельніцтва ўзнікла ў Беларусі з трох элементаў : аселых наёмнікаў і саюзных воінаў татарскіх орд, з улусаў, што трапілі ў палон і выхадцаў з Залатой Арды і Крыма, што, стаміўшыся ад нязгоды і смутаў у сваей дзяржаве, самі дабравольна перасяліліся ў Вялікае княства Літоўскае.

У выніку першай сусветнай вайны адзіны народ, беларускія татары, былі разарваныя. Частка, каля шасці тысяч аказалася ў межах Польшчы, каля трох тысяч — у Литве і больш за чатыры тысячы засталося ў межах Савецкай Беларусі.

Татараў пасялялі ў Вялікім княстве Літоўскім таму, што яго правіцелі цанілі іх ваенны вопыт, баявыя якасці, імкнуліся прыцягнуць спрытных, лоўкіх стэпавых коннікаў да сябе на службу. Яшчэ да князя Вітаўта існавалі пасяленні татар, але самай бліскучай эпохай для беларускіх татар з'яўляецца эпоха княжэння слаўнейшага з усіх тагачасных кіраўнікоў дзяржаў у Паўночнай Еўропе князя Вітаўта. Адораны геніем, ваенным духам, вопытам, князь Вітаўт стаў грозным для ўсіх суседніх дзяржаў. Ён здолеў зрабіць моцны ўплыў на справы Рускай зямлі, Ордэна і Залатой Арды. Вітаўт, надзяліўшы татар шырокімі правамі і прывілеямі, забяспечыўшы ім будучыню, як быццам прыцягнуў іх да сябе, і выкарыстоўваў у бітвах са сваімі ворагамі.

Татар надзялялі зямлёй, плацілі грошы, прываблівалі падарункамі, якія ўдзельнікі розных паходаў атрымлівалі ад сваіх князёў. Татары дапамагалі абараняць дзяржаву ад лютых ворагаў, асабліва ад крыжакоў, у тым ліку і татары-казакі, якія размяшчаліся ў розных ваколіцах нашай краіны, мелі сваіх атаманаў і падпарадкоўваліся харунжым. Цюркскае слова " казак " азначала ў ардзе людей, што, парваўшы сувязь са сваім родам і ўласным князем, займаліся ваеннай справай. Яны знаходзіліся нібы за рамкамі феадальна-уласнай структуры ардынскай супольнасці. У іх ат-

радах не толькі былі простыя воіны, але і выхадцы са знаці, царэвічы, якія дзейнічалі самастойна, на свой страх і рызыку, рабілі набегі. У Попісах войска татарскага 1528 — 1567 гадоў упамінаюцца атаманы, якія ўзначаль- валі слаўныя сцягі Ласаснянскіх татар-казакоў.

Татарскіх пасяленняў ў басейне ракі Ласаснянкі і яе прытоках было многа. Гэта былі пасяленні ў асноўным хутарскага тыпу, на адну-дзве сям'і. Усе землі ўваходзілі ў Гарадзенскую каралеўскую эканомію. У тыя часы да пасяленняў хутарскага тыпу адносіліся : Кульбакаўшчына, Абердоўшчына, Багдаўшчына, Качаноўшчына, Казакоўшчына, Жыдоўшчына, Ласосна Алінская і іншыя. Недалёка ад ракі Ласаснянкі знаходзіліся і татарскія вёскі : Дайлідкі, на левым прытоку ракі Нурэц, зараз Татаркі, вёскі Караліно, Тарусічы ( зараз Баранавіцкага с/сав. ) і вёска Гневеншчызна ( зараз Каробчыцкі с/сав. ). Найбольш старымі татарскімі пасяленнямі на тэрыторыі сённяшнега Гродзенскага раёна былі вёскі Чортэк і Кадыш на рацэ Чорчая Ганча і вёска Малое Дзімідкаво, недалёка ракі Ласаснянкі, а таксама Свяцк ( Савоцкінскага сельсавета ).

У архіўных паперах значацца і прозвішчы татараў, былых жыхароў паселішчаў : Ізмаіл Сехновіч, Кульзіман Аразовіч, Кульзіман Касімовіч, Джанчук Фатлыгодзіч, Асан Бузіновіч, Урус Алан і іншыя. Значацца прозвішчы князёў, якія занімалі адказныя пасады. У тым ліку мусульманскіх святароў, мулаў былой Ласаснянскай мечэці, якія паходзілі з прадстаўнікоў княжацкага роду — Фатлагодзічаў і Бузуловічаў.

Пасля князёў, ніжэйшыя пасады занімалі " Уланы ", у тым ліку : Ахмет Улан Асанчуковічы, Чымбай Улан Малошыцкія і Дзімідаўскія.

Размяшчаліся яны ў ваколіцах цяперашняй вёскі Ласосна Баранавіцкага сельсавета Гродзенскага павета, у басейне ракі Ласаснянкі і яе прытокаў. З правага боку — Прорвы, Падліпкі, Каменкі. З левага боку — Круцішкі і Татаркі з Нуркай, або Папіліяй. Даўжыня ракі Ласаснянкі з яе прытокамі — 45 км. На ўсёй гэтай вялікай тэрыторыі, пакрытай лесам, некалі размяшчаліся і жылі татары-казакі, якія былі прыпісаныя да Уланскага харунжаства. У 1631 годзе ўзначальваў іх славуты атаман казацкі Ясінскі Кульзіманавіч. Найбольш слаўнымі з гэтага роду былі князі Уланы-Асанчуковічы, нашчадкі князя Асанчука-Улана. Да 1440 года значная частка зямлі іх сцягоў знаходзілася ў Гродзенскім павеце. Паводле некаторых звестак гродзенскія татары-казакі складалі і асобны сцяг, якім у 1546 годзе даводзіў атаман Мількуман Місковіч. А харунжаства ўзначальваў князь Ахмет Ваймутковіч.

У тыя часы ў татар-казакоў адзінкай вымярэння служылых быў " конь ", гэта значыць, што надзел зямлі, або маёнтак, з якога ўладальнік, у адпаведнасці з тагачаснымі нормамі мусіў выстаўляць аднаго конніка. Памеры участкаў не былі дакладна вызначаны, асабліва ў ваколіцах ракі Ласаснянкі. Першыя зямельныя дараванні татар-казакоў адносяцца да часоў славутага князя Вітаўта. Зямля давалася татарам цэлым групам. Тады і ўзніклі татарскія казацкія ваколіцы. Зямельныя надзелы іх даходзілі на захадзе да вёсак : Дземіткава, Міцкенікі, Путна, Саломенкі і Іванаўчаў.

Ласаснянскія татары-казакі ў асноўным займаліся земляробствам, конегадоўляй, кушнерствам, агародніцтвам і гадоўляй рыбы, асабліва

ласося і ўстарэўшай назвы рыбы лох — фарэль ( адсюль назва рэчак і населеных пунктаў — Лоша, Лаша ). Для іадоўлі пароды гэтых рыб адпавядалі ўмовы, вада ракі Ласасянкі і яе прытокаў была чыстая, крынічная.

Апрача гэтага асобныя з татар-казакоў служылі ў тыя часы ў канцылярыях вялікіх князёў талмачамі, татарскімі пісарамі, ездзілі ў Вялікую Арду і Крым. Выконвалі адказныя даручэнні.

Але праходзілі гады, змяняліся ўмовы іх жыцця. І ўжо ў сярэдзіне 16 стагоддзя беларускія татары, у тым ліку і ласасянскія татары-казакі, не маглі размаўляць па-татарску, сталі ведаць і карыстацца іншымі мовамі, у асноўным беларускай мовай і польскай. Яны ўжо не маглі размаўляць з жыхарамі мусульманскіх краін. Адбыліся працэсы моўнай асіміляцыі татар па прычыне таго, што гэтаму паспрыялі галоўным чынам мяшаныя шлюбы, у многіх татар не было сваіх жанчын, а жаніліся на беларусках. Але ўсёж, нягледзячы на гэта, беларускія татары, у тым ліку і татары-казакі Ласасянскія яшчэ доўгі час зберагалі свае спецыфічныя рысы, не знікалі ў агульнай масе насельніцтва Вялікага княства Літоўскага, таму што прадаўжалі вызнаваць Іслам.

Беларускія татары, далёкія продкі каторых у асноўным добраволіна пасяліліся ў нашых краях 600 гадоў таму назад, у тым ліку і ў басейне ракі Ласасянкі і яе прытоках. З'яўленню іх на нашых землях папярэднічалі добрасуседскія сувязі князя Вітаўта з Залатой Ардой. Татары да князя Вітаўта адносіліся з вялікай пашанай. Яго імя праслаўлялі ў песнях. Маліліся за яго здароўе. Лічылі яго самым моцным " найсільнейшым з усіх князёў ". Як ужо было сказана, у большасці з татар, не было з сабой жанчын, па гэтай прычыне Вялікі князь Вітаўт і яго нашчадкі дазвалялі ім жаніцца на тутэйшых дзяўчатах, з умовай, што кожны з іх павінен мець адну жонку. У выніку чаго і да сённяшняга дня ў беларускіх татараў захаваўся звычай аднашлюбнасці.

Апрача ваеннай службы, татары, што жылі ў ваколіцах Ласосны, выконвалі і іншыя функцыі. У кнізе Ю. Ядкоўскага " Гродна " ( 1928 ) указана, што татары ў 1508 годзе звярнуліся да караля з просьбай, каб ён іх вызваліў ад несення вартаўнічай службы ў Гародні, да якой іх прымушаў староста Аляксандр Юр'евіч князь Гальшанскі. Кароль задаволіў просьбу татараў, таму што яны гэтага заслужылі, пачынаючы ад часоў Кейстута. І яны карысталіся шматлікімі прывілеямі, шляхецкімі вольнасцямі.

Найбольш кампактна і прывольна жылі татары ў Гродзенскім і Лідскім паветах. Асаблівым прыстанішчам для татар быў, апрача Гародні, Ласосны, Скідаля, Лідскі замак, пабудаваны ў 1323 — 1325 гадах пры князе Гэдыміне. З дазволу князя Вітаўта з 1396 па 1399 год жыў у ім хан Залатой Арды Тахтамыш, які пасля паражэння яго войск на рацэ Церак змушаны быў збегчы ў Вялікае княства Літоўскае. З ім князь Вітаўт доўгі час рыхтаваўся да паходу на Залатую Арду, у якой у той час працягваў кіраваць хан Цімур-Кудлай з хітрым Эдыгеем.

Вялікую дапамогу татары аказалі ў бітве з крыжакамі пад Грунвальдам у 1410 годзе. Вялікае княства Літоўскае проціў крыжакоў выставіла 40 харугваў, з іх 30 на сцягах мелі Пагоню. Да гэтага

далучылася і конніца хана Джалалэдзіна, сына Тахтамыша, якая ў бітве з крыжакамі паказала мужнасць і спрыт. У нямецкіх хроніках напісана, што ў гэтай бітве вялікі крыжацкі магістар Ульрых фон Юнгінген загінуў ад рукі татарскага хана Багардзіна.

Беларускія татары — не проста народ, а нацыя, неад'емлівая частка беларускай нацыі. Унікальная этнічная група людзей. Беларускія татары стагоддзямі пражылі разам з беларусамі. Дзялілі з імі і радасць і гора. Разам з беларусамі на палях бітваў за незалежнасць аддавалі самае дарагое — сваё жыццё. Неабходна адзначыць, што ў перыяд падзей паўстання 1794 г. пад кіраўніцтвам Т. Касцюшкі на Беларусі беларускія татары прымалі самы актыўны ўдзел. У перыяд паўстання паўстанцкім корпусам камандаваў першы генерал з беларускіх татар Юзэф Беляк. Палкамі камандавалі Аляксандр Ахматавіч, Якуб Язюлевіч, Мустафа Ахматавіч.

Наш зямляк, выдатны вучоны, заснавальнік беларускага мовазнаўства і філалогіі, Я. Ф. Карскі вельмі цікавіўся беларускімі татарамі. Вывучаў іх побыт, культуру. Аналізаваў рэлігійныя кнігі, аль-кітабы. Карскі першы з беларусаў пачаў вывучаць гэтыя пісьмовыя помнікі. Ён прааналізаваў два ярлыкі хана Тахтамыша і даў характарыстыку іх пісьма. Рукапіс мулы Паўтараковіча ўпершыню быў таксама прааналізаваны акадэмікам Я. Ф. Карскім, паказаны пераклад яго і чытанне па-беларуску. У выніку і аналізу пісьмовых помнікаў, ярлыкоў хана Тахтамыша і ўрыўкаў з рукапісаў мулы Паўтараковіча, Я. Ф. Карскі паказаў : " Які вялікі ўплыў у тыя часы быў беларускай мовы на татарскае насельніцтва ". Беларускія татары, у вусна-паэтычнай творчасці вельмі блізкія да фальклору беларусаў, а такія жанры, як прыказкі, прымаўкі, песні, прыпеўкі і загадкі, наогул амаль нічым не адрозніваюцца ад беларускіх. Пакінулі свой след беларускія татары і ў тапаніміцы, дзе яны жылі і цяпер жывуць, асабліва ў назвах рэк : Жыжмарака — у значэнні — імя мангольскай дзяўчыны, Гаўя — заслуга, Шчара — жоўтая, Сула — слабая, вялая, Уса — вада. Назва гарадоў : Навагрудак — па-татарску — Ені шагры — Новы горад і іншыя.

Шматлікія прозвішчы нагадваюць нам былых татар : Шайбак, Ажгірэй, Мамай, Турбай, Хамбак, Салей і іншыя. Неабходна сказаць, што і ў маей вёсачцы Кунцаўшчына Індурскага сельсавета Гродзенскага раёна больш як палова жыхароў маюць прозвішча Салей. Можна меркаваць, што і яны далёкія нашчадкі былых татар, хаця ўсе пішуцца беларусамі.

Сёння наступнікі татарскіх пасяленняў, выхадцаў з даўно забытых ордаў, складаюць унікальны народ, які нягледзячы ні на што, жыве і працуе поплеч са сваімі братамі-беларусамі ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі, навукі і культуры. Але на вялікі жаль, шмат чаго з нацыянальнага здабытку татараў загінула. Змрочныя, цяжкія гады сталінскіх рэпрэсій парушылі ход развіцця татарскай культуры. Многія прадстаўнікі нацыі, баючыся, што іх можа напаткаць лёс крымскіх татар, пакінулі сваю радзіму Беларусь, выехалі ў іншыя краіны. Да гэтага, як вынік шматвяковай асіміляцыі з беларусамі, татар засталося нямнога, у тым ліку і ў ваколіце Ласосна, дзе ў бассейне ракі Ласасянкі і яе прытоках, на працягу 45 км суцэльнай масай жылі некалі татары-казакі. У Пошісах 1528 — 1567

гадоў упамінаюцца атаманы, якія ўзначальвалі два сцягі ласаснянскіх татар-казакоў. Упамінаецца праслаўлены атаман Ясінскі Кульзімановіч, князі Уланы-Асанчуковічы, нашчадкі князя Асанчука-Улана, Мількуман Місковіч і іншыя. Але памяць аб іх не захавалася. У Ласосне да 1915 года існавала і дзейнічала татарская мячэць. Было шмат розных татарскіх будоўляў, захоўваліся татарскія могілкі. Зараз усё гэта знікла.

17 ст. з'яўляецца самым цяжкім перыядам для Ласаснянскіх татар. Рост нецалерантнасці, актыўны ўдзел татараў у войнах першай паловы 17 ст., неурадлівыя землі па цячэнні ракі Ласасянкі і яе прытокаў, судовыя прэтэнзіі магнатаў і буйнай шляхты на татарскія землі — усё гэта выклікала масавы адцёк татар з насяленняў з раёна ракі Ласасянкі. Большая частка татараў з раёна Ласосны эміграваля ў Турцыю. Частка татар перасялілася ў іншыя месцы Вялікага Княства Літоўскага, асабліва многа выехала ў горад Слонім.

Раздзел Рэчы Паспалітай і ўвядзенне расійскай адміністрацыі яшчэ больш узмацніла складаную сітуацыю татар на Ласосне. Па гэтай прычыне многія сем'і татарскія пакінулі насежаныя прыгожыя мясціны ў раёне ракі Ласасянкі і пераехалі ў Гародню, пасяліліся ў дамах па вуліцы Баніфратэскай, якая была пазней перайменавана ў Татарскую вуліцу. Зараз яна называецца вуліцай Свердлова. Такім чынам адбылося паступовае, а затым і поўнае знікненне татар і татар-казакоў з раёна ракі Ласасянкі і яе прытокаў. У гутарцы са старажыламі вёскі Ласосна даведаўся, што ў Ласосне ў 1995 годзе жыла яшчэ адна сям'я з тых шматлікіх ласаснянскіх татараў, але і тая пакінула яе.

Пацікавіўся ў самай найстарэйшай жыхаркі вёскі Ласосны, восьмідзесяціпяці гадовай бабулі Гарасімовіч, ці яна што-небудзь ведае пра татараў, якія жылі ў басейне ракі Ласасянкі, але яна нічога пра іх не чула. Ніхто аб іх ёй не гаварыў.

Сёння, калі пачаўся працэс адраджэння нацыянальнай свядомасці, нельга мірыцца з забыццём сваей духоўнай спадчыны. Абавязак кожнага грамадзяніна — захаваць тое, што ўцалела, зберагчы для нашчадкаў. Захаваць гісторыю беларускага народа, у тым ліку і беларускіх татар.

Вясной 1996 года мусульманская суполка Гродні запланавала распачаць у лесапарку Румлёва будаўніцтва мячэці. Узнікае пытанне, а чаму ў лесапарку Румлёва будаўніцтва, а не ў Ласосне пад Гроднай, дзе да 1915 года і была мячэць. Румлёва з гісторыяй беларускіх татар нічога супольнага не мае. А на сходах прадстаўнікоў беларускіх татар ставілася пытанне захаваць нашу гісторыю для нашчадкаў. Захаваць усё тое, што было, што ўцалела.

Я, як краязнавец, член рады Гарадзенскай краязнаўчай асацыяцыі, лічу неабходным аб'явіць ваколіцы Ласосны, па цячэнні ракі Ласосны і яе прытокаў, гістарычным запаведнікам былой татаршчыны, узяць пад ахову дзяржавы, ушанаваць памяць былых людзей, чые магілы знішчаны, узвядзеннем мячэці не ў Румлёве, а ў Ласосне. Выказаць меркаванні аб

будаўніцтве ў гэтай гістарычнай зоне школы, музея, гасцёўні, нацыянальнай кавярні і іншых устаноў беларускіх татар.

**Апанас Цыхун,**
заслужаны настаўнік Рэспублікі Беларусь,
член рады Гарадзенскай краязнаўчай асацыяцыі.

---

# НЕВЯДОМЫ ЛЁС ВАРШАЎСКАГА ІМАМА.

## Дакументы і матэрыялы. *

Як і абяцалі, з гэтага нумара нашага часопіса мы إن شاء الله ( калі Аллаг дазволіць ) будзем друкаваць сапраўдныя матэрыялы следчай справы імама Алі Варановіча, якая захоўваецца ў архіве КДБ Рэспублікі Беларусь. Усе дакументы падаюцца на мове арыгінала ( г.зн. на расейскай мове ). Мяркуем, што дадзеная публікацыя выкліча цікавасць у нашых чытачоў і яны адгукнуцца на яе. Вядома, што амаль кожная татарская сям'я пацярпела ад сталінскіх рэпрэсій. Таму мы запрашаем вас да размовы па гэтай вялікай і важнай тэме. Дасылайце нам, калі ласка, свае лісты і публікацыі.

*****

## СЛЕДЧАЯ СПРАВА ВАРАНОВІЧА АЛІ САМУІЛАВІЧА

**Архив народного комиссариата внутренних дел ,**
**Барановичская область.**

Дело № 87266 по обвинению Вороновича Али Самуиловича, начато 21 января 1941 года, в одном томе, 333 листа. Архивный номер дела № 075851.

В следственном деле № 87266 по обвинению Вороновича Али Самуиловича находятся следующие документы :

| | |
|---|---|
| 1. Постановление на арест | — 1 стр. |
| 2. Об избрании меры пресечения | — 2 стр. |
| 3. Ордер на арест | — 3 стр. |
| 4. Акт | — 4 стр. |
| 5. Протокол обыска № 125 | — 5 стр. |
| 6. Копия квитанции № 3402 | — 6 стр. |
| 7. Квитанция № 3402 | — 7 стр. |
| 8. Квитанция № 3401 | — 8 стр. |
| 9. Копия квитанции № 3401 | — 9 стр. |
| 10. Анкета арестованного | — 10 - 11 стр. |
| 11. Карта дактилоскопии | — 12 стр. |
| 12. Пакет с фотокарточками | — 13 стр. |

---

* Працяг. Пачатак глядзі " Байрам ", № 3 за 1996 г.

*****

**Постановление на арест.**

г. Барановичи, 17.01. 1941 г.

Я, начальник 2 отделения 3 отдела УГБ УНКВД БССР по Барановичской области, мл. лейтенант Безопасности Голубев, рассмотрев поступившее в НКВД СССР материалы о преступной деятельности Вороновича Али Самуиловича, 1902 г. рождения, уроженца м. Ляховичи, Барановичской области, проживает в м. Клецке, Барановичской области, работает преподавателем в неполно-средней школе, нашёл, что Воронович А. С. в 1929 г. служил в бывшей польской армии капралом, в 1932 г. окончил институт восточных языков в г. Львове, с 1933 по 1936 г. по командировке бывшего польского правительства проживал в г. Каире ( Египет ), с 1936 по 1939 г. работал муллой в г. Варшаве и был членом высшей коллегии татар в бывшей Польше, являлся членом контрреволюционной белоэмигрантской организации " Идель-Урал ".

Постановил : Вороновича Али Самуиловича, проживающего в г. Клецке, по улице Толстого № 24 подвергнуть аресту и обыску.

Постановление подписано начальником 2 отделения 3 отдела УГБ УНКВД мл. лейтенантом Голубевым.
Согласен : начальник 3 отдела УГБ УНКВД по БО капитан Государственной Безопасности Зайцев.

Постановление об аресте утвердил 18 января 1941 г. начальник управления НКВД по Барановичской области, капитан госбезопасности Крысанов.

Арест санкционировал 20 января 1941 г. облпрокурор ( подпись неразборчивая ).

Дело № 075851 , лл. 1 - 2.

*****

Постановление об избрании меры пресечения

г. Барановичи, 17 января 1941 г.

Я, начальник 2 отделения 3 отдела УГБ УНКВД БССР по Барановичской области мл. лейтенант госбезопасности Голубев, рассмотрев в НКВД материалы, нашёл, что Воронович А. С. подозревается в преступлениях, предусмотренных 74 ст. УК БССР и принимая во внимание, что находясь на свободе он может уклониться от следствия и суда, постановил избрать мерой пресечения способов уклонения от следствия и суда Вороновича А. С. содержание под стражей.

Настоящее постановление объявлено Вороновичу А. С. 21 января 1941 г.

20 января 1941 г. сотруднику НКВД Огородницкому был выдан ордер на производство обыска и ареста гражданина Вороновича А. С. , проживающего в г. Клецке, ул. Толстого № 24.

л. 3

В акте Клецкого НКВД о проведении обыска сказано, что у Вороновича А. С. ( понятым был житель дома № 24 по улице Толстого Якубовский И. ) изъято :

1 польская книга, 2 пачки рукописей на польском языке — всего 3 пачки книг. Всё действо происходило 21 января 1941 г.

л. 4

Кроме того, в протоколе НКВД за № 125 от 20.01. 1941 г. сказано, что у Вороновича А. С. изъято для доставления в НКВД следующее :

1. Паспорт ;
2. Военный билет ;
3. Профсозный билет ;
4. Фотоаппарат ;
5. Фотокарточки — 32 штуки ;
6. Разная переписка и документы на польском языке на 81 листе ;
7. Разменная польская монета 9 зл. 85 грош. ;
8. Одна монета французская — 5 франков ;
9. Одна турецкая монета достоинством 1 рубля ;
10. Разменная монета царская 3 рубля ;
11. Бумажник.

лл. 5 - 9.

**Анкета арестованного**

Воронович Али Самуилович, родился в 1902 году, Барановичская область, г. Ляховичи, жил в г. Клецке, ул. Толстого д. 24, профессия —

учитель. Последнее место работы — учитель неполной средней школы, в 1932 г. окончил историко-филологический факультет Львовского университета. В 1928 — 29 гг. служил в польской армии подхорунжим ( младший командир запаса ).

Отец — Воронович Самуил Алсевич умер в 1922 году.

Мать — Шинкевич-Воронович-Смольская, 56 лет, домашняя хозяйка.

Жена — Воронович. Ева Хасеньевна, 1917 г. рождения, м. Клецк, домашняя хозяйка.

Дочь — Тагира — 1 год.

Сестра — Полторжицкая Елена Самуиловна, 39 лет, жила в деревне Ольшимово Волковысского района.

Брат — Воронович Мустафа Самуилович, 1905 г. рождения, проживал в г. Вильно, ул. Тарталал 19, кустарь-кожевник.

лл. 10 - 11.

Первый допрос Вороновича А. С. был проведён 21 января 1941 г. Начат в 22 ч. 35 минут и закончен в 23 ч. 15 минут.

**Вопрос :** Когда и в каком чине вы служили в бывшей польской армии ?

**Ответ :** Я служил с июня 1928 до октября 1929 г. В этот период закончил 9-месячную школу подхорунжих запаса, а в течение трёх месяцев служил в полку в должности подхорунжего-капрала и в 1931 г. был взят на шесть недель на повторение, после чего получил чин подхорунжего. Больше в польской армии я не служил.

**Вопрос :** С какого времени вы проживаете в Клецке ?

**Ответ :** В Клецк я прибыл девятого сентября 1939 г.

**Вопрос :** Откуда вы прибыли ?

**Ответ :** Из Варшавы.

**Вопрос :** Чем занимались в Варшаве ?

**Ответ :** В Варшаве я был муллой.

лл. 14 - 15.

24 января 1941 г. в качестве свидетеля допросили жену Вороновича — Воронович Еву Хасеневну, 1917 г. рождения, родилась в г. Таганроге, татарка, домохозяйка, из служащих, отец работал бухгалтером.

Состав семьи :

Мать — Якубовская Эмилия Амуратовна, 1883 г. рождения.

Брат — Якубовский Али Хасеневич, 1921 г.р., проживает в Клецке.

Муж — Воронович Али Самуилович — арестован.

Образование — неоконченное высшее.

**Вопрос :** С какого времени вы проживали вместе со своим мужем — Вороновичем Али ?

**Ответ :** С 28 сентября 1937 г.

**Вопрос :** С какого времени вы были с ним знакомы раньше ?

**Ответ :** Я его знаю с 1931 г. Он меня знал раньше.

**Вопрос :** Как вы его знали с 1931 г. ?

**Ответ :** Воронович Али — мой муж, является двоюродным братом моей матери. Сам он уроженец местечка Ляховичи Барановичской области. Отец его раньше работал кожевенником. Брат его Воронович Мустафа, моложе Али на 2 года, живёт где-то в Литовской ССР.

Мой муж Воронович Али до 1926 г. проживал вместе со своими родителями вначале в Ляховичах, а потом в Вильно. Не знаю, сколько они прожили в Вильно, но знаю, что мать его потом из Вильно возвратилась в Слоним. До 1922 г. мой муж Воронович Али вместе с родителями проживал в Крыму. Там окончил гимназию. В 1926 г. он поступил во Львовский университет " Яна Казимира " на факультет восточных языков, который окончил в 1933 г. В этом же году он выехал в Каир, где изучал арабский язык и получал стипендию от бывшего польского правительства. В августе 1936 г. он окончил университет в Каире и возвратился в Варшаву. Там я с ним встретилась, потому что в этот период училась в политехникуме. Прожив в Варшаве около одной недели, он выехал к матери в Слоним. В январе 1937 г. в связи с перевыборами в Варшаве муллы он вернулся из Слонима на перевыборы, был избран муллой и остался на жительство в Варшаве. После этого мы с ним договорились о замужестве. Я бросила учиться, выехала в Клецк к родителям. С Вороновичем имела переписку. Он почти каждый день присылал мне письма в Клецк. 28 октября 1937 г. мы поженились и выехали на жительство в Варшаву, где прожили до 5 сентября 1939 г. 9 сентября 1939 г. приехали в Клецк, где проживаем до настоящего времени. В Варшаве Воронович всё время работал муллой. Я жила на его иждевении. За период проживания в Варшаве мы с Вороновичем 2 раза выезжали летом отдыхать к родителям в Слоним и Клецк. В августе 1938 г. мы были у его матери в Слониме около 7 дней и дней 20 в Клецке у моей матери. В 1939 г. в конце июня были в Слониме у его матери, а в августе в Клецке у моей матери.

**Вопрос :** Проживая в г. Варшаве, куда ещё выезжал ваш муж Воронович ?

**Ответ :** Являясь муллой Воронович состоял в Высшей мусульманской коллегии по вопросам мусульманской религии, по делам этой коллегии он несколько раз в году выезжал в г. Вильно на съезды данной коллегии. В 1938 г. он ездил примерно раза 3 — 4, а также и в 1939 г. Коллегия эта состояла из 4-х человек. В неё входил мой муж Воронович, мулла по фамилии Мухля, не знаю его имени, а также не знаю в какой он парафии был муллой. Ещё в коллегию входило 2 человека из духовнослужителей — какой-то Романович и Кричинский. Но я их совершенно не знаю, поскольку Романович проживал в Вильно. Кричинский якобы в Варшаве, точно не знаю. Больше мой муж Воронович из Варшавы никуда не ездил.

**Вопрос :** Проживая в г. Варшаве, кого вы знаете из знакомых вашего мужа ?

**Ответ :** Знакомыми Вороновича по Варшаве являлись бывший до него муллой Фазилев, не знаю его имени. Торговец мясом — Ибрагим.

Торговец Эксаин Гафур и ряд других казанских татар. Муж их знает, потому что являлся муллой и встречался с ними по вопросам религии. У них же иногда бывал на квартире, потому что мечети в Варшаве не было.

**Вопрос** : Кого вы знаете из родственников вашего мужа Вороновича ?

**Ответ** : Как я уже называла, знаю его брата Вороновича Мустафу, проживает где-то в Литовской ССР, в какой-то деревне работает кожевенником. Сестра Полторжицкая Алима проживает в какой-то деревне около Волковыска. Муж её Полторжицкий занимался сельским хозяйством, а она кажется работает в прокуратуре г. Волковыска. Дядя Шинкевич Якуб, возвраст около 55 лет, проживает в г. Вильно, не знаю адреса. В 1937 г. проживал кажется по улице Метельского, работает также духовным работником — муфтием. Это старше чем мулла. Он бывал у нас в Варшаве, когда мы там проживали. Приезжал туда по вопросам мусульманской религии, а также я его видела ещё раньше в Клецке, куда он приезжал также по вопросам религии. В 1939 г. , когда я в Варшаве бросила учиться и возвратилась в Клецк, то в Вильно заходила к нему — Шинкевичу, потому что он когда бывал в Варшаве, заходил к нам.

Больше из его родственников никого не знаю.

**( Працяг будзе )**

---

## НОВАЯ МЯЧЭЦЬ : ДЗВЕРЫ АДЧЫНЕНЫЯ...

Яшчэ на адну святыню пабагацела наша зямля. 18 кастрычніка, у пятніцу — а гэта святы дзень для вернікаў-мусульман, у гарадскім пасёлку Смілавічы ўрачыста была адкрыта новая мячэць. Першая на Беларусі бажніца такога кшталту, пабудаваная ад падмурка і да паўмесяца на мінарэце за больш чым 60-гадовы перапынак.

Вядома, мячэць у Смілавічах не мае таго бляску, велічы, аздобы, якія ў мностве дзейнічаюць у ісламскіх краінах. Яна яшчэ не набыла канчатковага завершанага выгляду і " шліфоўкі ", яшчэ належыць добраўпарадкаваць тэрыторыю, зрабіць агароджу, падвесці электрычнасць, ваду і ацяпленне, штосьці пафарбаваць і атынкаваць, абсталяваць клас для вучобы дзяцей і пакой для здарожаных гасцей.

Шмат яшчэ трэба зрабіць. Але працытуем колькі радкоў з аднаго ліста. Гэтыя ці трохі іншыя словы сказаў бы ягоны аўтар, муфтэй Исмаіл Мустафавіч Александровіч, каб быў падчас адкрыцця мячэці, не так ужо і важна. Думаецца, сутнасць іх не надта памянялася б, бо па вялікім рахунку яна збіраецца і канцэнтруецца ў адной пласкіні, а выражаецца адным эмацыянальным воклічам : НАРЭШЦЕ ЗДЗЕЙСНІЛАСЯ — І ДЗЯКАВАЦЬ БОГУ ! Але спадар Александровіч быў у дарозе на канферэнцыю ў горад Стамбул, і ягоны ліст да братоў і сясцёр па веры зачытаў Ібрагім Канапацкі, віцэ-прэзідэнт Беларускага культурна-асветнага аб"яднання татар-мусульман " Аль-Кітаб ".

" Адна толькі думка пра магчымасць адкрыцця мячэці на зямлі Беларусі перапаўняе кожнага сапраўднага мусульманіна высокімі і ўдзячнымі пачуццямі вялікаму Аллагу, які дазволіў увасобіць гэтую мару ў рэальнасць. Як ні цяжка было паверыць у такое на пачатку нашага шляху па адраджэнні нацыі і рэлігіі, мы цяпер увачавідкі можам пабачыць плады нашых намаганняў і памкненняў. Гэтая мячэць — сведка таго, што мы яшчэ жывыя, што ў нас захаваліся перададзеныя нашымі продкамі традыцыі, культура, гісторыя, наша рэлігія Іслам. Для нас важна, каб з'яўленне гэтай мячэці стала стымулам для іншых мусульманскіх абшчын. Спачатку задумацца, а потым па меры магчымасцяў ажыццявіць сваю задуму і стварыць месца для малітоўнага акта. Хай сціплае, невялікае, але чыстае будзе гэс месца, бо мы перакананыя, што малітва кожнага з нас успрымаецца вялікім Аллагам незалежна ад таго, у якім — шыкоўным ці сціплым — атачэнні яна творыцца і выконваецца, а ад таго, наколькі чыстасардэчна, наколькі аддана і пераканальна чалавек прадстае перад Аллагам у малітве ".

... І вось несецца з балкона сціплага мінарэта гучны голас муэдзіна з заклікам-запрашэннем у Дом Аллага на набажэнства. Перш чым туды ступіць, мужчыны недалёка ад увахода спалоскваюць ногі чыстай вадою, пакідаюць у прыходні абутак — у свой храм мусульманін павінен заходзіць чысты.

На двары стаяць жанчыны, сціпаныя, з прасветлымі тварамі. У мячэці, леваруч, ёсць невялікі малітоўны пакой і для іх. Але я не ведаю, чаму ніводнай з іх там не было. Можа, таму, што мусульманкі-смілавічанкі з правам сапраўдных гаспадынь мусілі паклапаціцца пра спрадвечны звычай сваіх дзядоў-прадзедаў — садагу. Тут, ля мячэці, былі накрытыя сталы з пачастункам на ўсіх : печыва, садавіна, кампот, іншыя ласункі.

Звычай міласэрнасці, бадай, галоўны ў Ісламе, як, дарэчы, і ў хрысціянстве. Гэтую традыцыю па сённяшні дзень не страцілі, не згубілі за 600 гадоў знаходжання побач з іншым рэлігійным атачэннем і захавалі як святыню, як запавет беларускія татары.

На стале была невялікая скрынка для грашовых ахвяраванняў. Не самага высокага наміналу апускаліся туды асігнацыі. Што паробіш — дужа сціплыя пенсіі ў нашых спрацаваных пенсіянераў. Ды і цяперашнім рабацягам на заводзе, настаўнікам, журналістам заробкі, на жаль, выплочваюць не ў цвёрдай валюце. Але кожны, хто тут быў, колькі мог, столькі і паклаў са сваіх " кроўна зробленых ". Я упэўнена — рабіў гэта шчыра, ад душы — на святую справу. " Что ты спрятал — то пропало, что ты отдал — то твоё ...."

Можа, таму і " адарваў " ад сэрца святую кнігу — Кур'ан 1894 года выдання мусульманін з Брэста беларускі татарын Рамазан Ілліч Смольскі. На гэтай кнізе грамаце ды слову Божаму некалі вучылася яго бабуля, маці, вучыўся ён сам. У Рамазана Ілліча няма дзяцей, каб перадаць кнігу ў спадчыну, і ён падараваў яе ў будучую бібліятэку, якая, думаецца, будзе ў Смілавіцкай мячэці.

Пра адмысловы падарунак для мусульман пасёлка падумала і мінчанка Айша Александровіч, мастак па касцюмах.

— Можа, не ўсе ведаюць, а я вось падлічыла, што сёлета споўнілася 140 гадоў першай мячэці, пабудаванай у Смілавічах, — расказвала на ўрачыстасці спадарыня Айша. — Гэтую мячэць я паказала на сваім мугіры ( элемент насценнай аздобы. — **А. Т.** ). Адкрыццё мячэці — гэта і знамянальная дата, і вялікае свята. Свята для ўсіх, хто дачакаўся такога шчаслівага дня. На жаль, многія не дачакаліся, як мая маці. Вельмі набожны чалавек, яна ўмела шчыра маліцца і гэтак жыла ....

Да адкрыцця мячэці я стварыла мугір, бо мугір ёсць неад'емная частка нашага жытла і мячэці. Я магу сказаць, што натхніў мяне на гэтую працу Аллаг. Зрабіла яе за тры дні, але выношвала ў сэрцы тры гады. Тут ёсць надпіс, ён зразумелы, хоць каліграфія, вязь арабская, але напісана моваю, якая нам стала роднаю, па-беларуску : " У імя Аллага міласцівага, міласэрнага ".

Міласэрнасць, дабрыня, помач... Гэта звычайна ціхія праявы чалавечай душы, і няма, бадай, слоў, якія б спаўна, вельмі выразна і аб"ёмна паказалі іх сілу. Але ўсё гэта можна адчуць, можна пабачыць, можна ў пэўным выпадку пакратаць рукамі і, не знайшоўшы адпаведнага выказніка ўласным пачуццям, прамовіць толькі адно : дзякуй.

Дзякуй мусульманцы Нурыі з Кувейта, якая ахвяравала беларускім татарам 6 тысяч даляраў і на іх быў куплены зруб на першую мячэць ва ўсходняй Беларусі...

Дзякуй архітэктарам і будаўнікам, дзякуй мясцовым уладам, якія вылучылі пляц пад мусульманскі храм. Хацелася б тут, дарэчы, згадаць яшчэ адну, гістарычную, дэталь. 140 гадоў таму, у жніўні 1856-га, дзве жанчыны, якія жылі ў Смілавічах, сёстры славутага беларуска-польскага кампазітара Станіслава Манюшкі Паўліна і Барбара ахвяравалі пляц ( мясцовыя татары ведаюць, дзе гэта ) на пабудову мячэці ў гэтым мястэчку. Графіня Замойская, якая жыла паблізу Іўя, у свой час таксама вельмі дапамагла беларускім татарам-мусульманам — яна выдзеліла лес на пабудову Іўеўскай мячэці. Вось вам і роля жанчыны у Ісламе.

У храм, да Бога людзі прыходзяць па-рознаму. Гэта далікатная, вельмі інтымная і няпростая справа. Тым болей цяпер, пасля дзесяцігоддзяў ганенняў, пераследу і жорсткай атэістычнай прапаганды. А вось адлучэнне ад рэлігіі заўсёды ішло зверху і мэтанакіравана. Паслухаем Ісмаіла Ісмаілавіча Меметава :

— Я па нацыянальнасці крымскі татарын. Пачынаючы з далёкаўсходніх межаў прайшоў да Германіі і трыццаць з лішкам гадоў аддаў вайсковаму службы. На жаль не кожны ведае пра лёс маіх суайчыннікаў. Мой народ 18 мая 1944 года быў дэпартаваны са сваёй гістарычнай радзімы, з Крыма, у далёкія неабжытыя мясціны. Цэлыя сем'і загінулі. Маці мая, выгадаваўшы нас сіротамі, таксама памерла на чужыне. Я не магу наведаць яе магілу.

У Крыме некалі было 2700 мячэцей : усе яны разбураныя. Нашы могілкі раскіданыя і заараныя. У вёсцы, дзе я нарадзіўся, стаяла дзве мячэці — іх няма, знішчаны могілкі, на іх месцы зроблены дарогі. У 1975 годзе сваіх дарослых дзяцей ( пяць чалавек ) я павёз у родную вёску, хацеў паказаць, дзе я нарадзіўся, рос, аднак нашага дома ўжо не было. На ягоным месцы стаіць трансфарматарная будка. Што для нас цяпер галоўнае ? Наша вера.

Праўда, не кожны татарын ёсць мусульманін. Мусульманства павінна быць не вонкавае, а ў душы. І ў нашым Кур'ане, нашых малітвах, нашых дуа закладзены галоўныя чалавечыя законы, законы маралі — дабрыня і добразычлівасць. Адкрыццё бажніцы ў Смілавічах дае нам надзею...

Пытаю ў маладой дзяўчыны Аміны з Мінска :

— Як ты лічыш, ці патрэбны мячэці на Беларусі ?

— Думаю, што патрэбны, як і патрэбны і іншыя храмы — цэрквы, касцёлы. Бо гэта культура, гэта традыцыі народа. Нас не вельмі многа, мо якіх трынаццаць тысяч паводле перапісу 1989 года. Мы называем сябе беларускімі татарамі, і нейкую самабытнасць, адметнасць маем з-за таго, што захавалі рэлігію продкаў — Іслам. Мусульманскі храм дапаможа многім з нас адчуць сябе народам, нацыяй, якая не згубілася сярод іншых народаў. Храм дапаможа знайсці месца сваёй душы. На жаль, гэтую ролю для маіх супляменнікаў выконвалі ў канцы жыцця толькі мізары (могілкі). Я не ведаю, ці будзе прыязджаць сюды моладзь, скажам, з Мінска. Моладзь розная, большасцю адлучаная ад веры. И гэта не віна наша — гэта наша бяда.

Дзверы мячэці ў Смілавічах адчынены...

**Алена Трусава**

**( Газета " Культура ", № 42, 15-21 кастрычніка 1996 г. )**

---

## УРАЧЫСТАСЦЬ У МУЗЕІ

Сцяпан Хусейнавіч Александровіч — беларускі літаратуразнаўца, крытык, празаік і проста чалавек з вялікай літары, з нялёгкім жыццёвым лёсам. Татарын па нацыянальнасці, ён усё сваё жыццё прысвяціў адраджэнню нацыянальнай свядомасці беларусаў. 19 снежня 1996 года ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа адбылася канферэнцыя, прысвечаная 75-ым угодкам С. Х. Александровіча. Дарэчы, у гэтай установе пісьменнік пэўны час працаваў.

Адкрыла канферэнцыю дырэктар музея З. М. Камароўская. Ёй давялося вучыцца, пісаць дыпломную работу ў С. Х. Александровіча, і таму яна падзялілася сваімі ўспамінамі, прыгадала, якім яго запомніла, калі была студэнткай. А колькі шчырасці і сардэчнасці было ў выступленнях Брыля І. А., народнага пісьменніка, і Гілевіча Н. С. , народнага паэта Беларусі ! Эмацыянальнасцю вызначаўся даклад Яфімавай М. Б. , дацэнта БДУ, у якім яна закранула наступнае пытанне : С. Александровіч і беларуская дзіцячая літаратура. Трэба зазначыць, што ўсе даклады, якія прагучалі ў гэты дзень, былі вельмі змястоўнымі і цікавымі, а сама атмасфера, якая панавала ў памяшканні музея - - сяброўская.

Усе дакладчыкі падкрэслівалі чалавекалюбства пісьменніка, яго недапушчальнасць прыстасаванству. Як вядома, у час Вялікай Айчыннай вайны С. Х. Александровіч трапіў у палон, але ніякія выпрабаванні не

зламалі яго. Мо таму рыса чалавекалюбства, гуманнасці заўсёды была дамінантнай як у яго жыцці, так і творчасці.

Напрыканцы выступіў Канапацкі І. Б., віцэ-прэзідэнт Беларускага згуртавання татараў-мусульман " Аль-Кітаб ". Ён прачытаў памінальную малітву. Вельмі ўразіла слухачоў выступленне дзіцячага мастацкага калектыву Цэнтра нацыянальнай культуры, якія выконвалі песні на беларускай і татарскай мовах. Таксама надоўга запомніліся татарскія нацыянальныя стравы — гальма і джайма — якімі частавалі ў перапынку.

Дзякуючы канферэнцыі, наведвальнікі мелі магчымасць пачуць шмат новага і цікавага пра С. Х. Александровіча, бо, як вядома, уклад у адраджэнне беларускасці гэтага выдатнага сына сваёй Бацькаўшчыны, на вялікі жаль, не да канца зразуметы і не даследаваны.

**Л. Камароўская**
старшы навуковы супрацоўнік
Дзяржаўнага літаратурна-
мемарыяльнага музея Я. Коласа

*****

## СЛОВА-ЎСПАМІН ПРА СЦЯПАНА АЛЕКСАНДРОВІЧА

Сцяпан Хусейнавіч Александровіч, на маё разуменне, быў чалавекам і цікавым, і прываблівым. Перш за ўсё я маю на ўвазе яго іпастась грамадзяніна, навукоўца і пісьменніка. Упершыню Сцяпана Хусейнавіча ўбачыў я ў 1963 г. на філфаку. Ён адразу кінуўся мне ў вочы сваей самазасяроджанасцю і нейкім унутраным драматычным станам, якія можна было station назіраць нават пры перапынках паміж лекцыямі, калі ён задумення і самотна праходзіў калідорам.

На вялікі жаль, мне не давялося слухаць лекцыі вучонага С. Х. Александровіча з прычыны, што вучыўся я на рускім філфаку, а праз два гады перавёўся на вячэрняе аддзяленне.

Ужо працуючы ў выдавецтве " Народная асвета " ( з 1971 г. ), я пачаў актыўна цікавіцца беларусікай, г.зн. беларускай гісторыяй, культурай, літаратурай і г.д. Мой старэйшы калега і таварыш па выдавецкай рэдактарскай рабоце — зямляк В. Ф. Гапановіч, з'яўляючыся ў пэўным сэнсе для мяне лоцманам у гэтай справе, сярод мноства розных цікавых кніжак ( к прыкладу — " Матчын дар " Алеся Гаруна, " Геаграфія Беларусі " Аркадзя Смоліча і інш. ) параіў прачытаць сёе-тое, што напісаў Сцяпан Александровіч. Дарэчы, В. Ф. Гапановіч і С. Х. Александровіч, як мне стала вядома, калісьці разам вучыліся і ў пэўнай ступені сябравалі. І вось мной сёе-тое з Александровіча прачытана. Гэта было — " Незабыўнымі сцежкамі ". Названай кніжкай, асабліва яе першай паловай, быў я і ашаломлены, і зачараваны. Пасля пашлі іншыя выданні гэтага аўтара. Цэлым універсітэцкім курсам па беларусазнаўству для мяне з'явілася фундаментальная навуковая і захапляючая сваёй папулярнасцю і жывасцю выкладання сур'ёзнага матэрыялу кніга " Пуцявіны роднага слова ". З не

меншым зацікаўленнем прачытаў я кнігі С. Х. Александровіча пра народнага паэта Беларусі Якуба Коласа. Неабходна заўважыць, што фактура ўсяго напісанага С. Александровічам як правіла базуецца, і прытым трывала, на фактычным і вельмі часта ім самім адшуканым у архівах матэрыяле.

А вось у 1986 г. на мой рэдактарскі стол паступіў рукапіс выкладчыка Гродзенскага педінстытута імя Янкі Купалы Барыса Клейна " Время выбора ". На аснове архіўных дадзеных і літаратурных крыніц аўтар рукапісу імкнуўся займальна расказаць аб некаторых падзеях у жыцці такіх удзельнікаў вызвольнага руху, як І. Грынявіцкі, З. Мінейка, Б. Тарашкевіч і інш., чыя дзейнасць была цесна звязана з Беларуссю. Прадумваючы-падшукваючы ў думках рэцэнзента будучай кнігі, я адразу спыніўся на ідэі : вось зручны момант пазнаёміцца і пасупрацоўнічаць з доктарам філалогіі прафесарам Сцяпанам Хусейнавічам Александровічам. Праз колькі дзён я патэлефанаваў яму на кватэру. Як стала вядома мне пазней, Сцяпан Хусейнавіч ужо тады быў моцна хворы.

Выслухаўшы маю просьбу-прапанову, доктар Александровіч запытаўся, а на якой мове напісаны рукапіс. Калі я паведаміў, што на рускай, то адразу адчуў, што справа ўскладняецца. Тут спрацоўваў патрыятычны прынцып : калі пра Беларусь, то пажадана і пісаць пабеларуску. І ўсё ж я яго пераканаў, што яшчэ пакуль тыя, што могуць напісаць пра наш край, не зусім валодаюць нашай роднай мовай. Так мы і дасягнулі дамовы. Хачу падкрэсліць, што на прапанову прывезці рукапіс яму дамоў, доктар Александровіч сказаў, што ён сам заедзе ў выдавецтва. На мае запэўніванні, што мы ў час заплоцім рэцэнзіраванне і не горш, чым у іншых выдавецтвах гэта робіцца, Сцяпан Хусейнавіч выказаўся, што ў нас наўкол за работу плата — мізэрная, ды ў дадзеным выпадку гэта не мае вялікага значэння. Яшчэ ён пацікавіўся, для каго будзе прызначана гэта кніга. Ён заўсёды дбаў пра адрасат, дакладней пра ўзрост як сваіх, так і не зусім сваіх чытачоў.

Прыкладна дзесьці праз месяц Сцяпан Хусейнавіч патэлефанаваў мне ў рэдакцыю і паведаміў, што рэцэнзія гатова і што ў яго ёсць шмат — і прытым сур'ёзных заўваг да аўтара, і што я магу заехаць да яго дадому і забраць рукапіс і, вядома, рэцэнзію. Не стану пералічваць і апісваць характар тых глыбокіх і слушных заўваг, але скажу толькі, што аўтарам рукапісу яны былі прыняты без вялікай радасці, але з удзячнасцю.

У гэты ж дзень я і зайшоў да " майго " рэцэнзента. Сустрэў мяне сам гаспадар. Як мне падалося, ён быў вельмі стомлены і за гэты месяц вельмі здаўшым у знешнім выглядзе. Сцяпан Хусейнавіч параіў мне, на што звярнуць увагу ў далейшай маёй рабоце над будучай кнігай Б. Клейна, быць патрабавальным да аўтара і, вядома, пажадаў поспехаў. Я ў сваю чаргу паведаміў яму, калі можна будзе атрымаць ганарар за рэцэнзіраванне. Пажадаўшы адзін аднаму здароўя і дабра, мы развіталіся. Калі за мной зачыніліся дзверы, я адчуў нейкую ўнутраную разгубленасць і шкадаванне-прадчуванне, што, можа, мне ўжо больш і не давядзецца ніколі сустрэцца з гэтым цікавым — эрудзіраваным і патрыятычна да Беларусі настроеным чалавекам. Так яно, на вялікі жаль, і сталася.

Цяжкая, непераадольная хвароба не адпусціла Сцяпана Хусейнавіча. У гэтым жа годзе яго не стала.

**Яўген Гучок.**

*****

# СЫН ДВУХ БРАЦКІХ НАРОДАЎ

Напрыканцы 1996 года ў Менску прайшлі ўрачыстасці, звязаныя са знамянальнай датай : 75-годдзем з дня нараджэння вядомага беларускага пісьменніка, літаратуразнаўцы, крытыка, перакладчыка Сцяпана Хусейнавіча Александровіча. У Беларускім дзяржаўным універсітэце, дзе ён працаваў з 1963 года, адбыліся навуковыя чытанні. З уступным словам выступіў член-карэспандэнт Акадэміі навук Беларусі прафесар Алег Лойка. З дакладамі — прафесары Дзмітрый Бугаёў ( " С. Александровіч — літаратуразнаўца і крытык " ) і Вячаслаў Рагойша ( " Александровіч — перакладазнавец " ), з успамінамі — дацэнт Вольга Казлова ( " Святло нашай душы " ). Навуковая канферэнцыя адбылася і ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа, дзе Сцяпан Хусейнавіч таксама працаваў нейкі час. Як паведаміла рэдакцыі навуковы супрацоўнік музея Л. Камароўская, канферэнцыя прайшла цікава і з карысцю для прысутных. Адкрыла пасяджэнне і прыгадала юбіляра добрым словам дырэктар музея Зінаіда Камароўская, якой давялося вучыцца і пісаць дыпломную работу пад кіраўніцтвам С. Александровіча. З цікавымі ўспамінамі выступілі народныя пісьменнікі Янка Брыль і Ніл Гілевіч. Дацэнт БДУ Маргарыта Яфімава прачытала даклад на тэму : " Сцяпан Александровіч і беларуская дзіцячая літаратура ". Віцэ-прэзідэнт Беларускага згуртавання татараў-мусульман Ібрагім Канапацкі зачытаў памінальную татарскую малітву, а дзіцячы гурт Цэнтра нацыянальнай культуры выканаў песні на беларускай і татарскай мовах. Напрыканцы ўдзельнікі канферэнцыі паспрабавалі нацыянальныя татарскія стравы " гальму " і " джайму ".

Сцяпан Хусейнавіч Александровіч нарадзіўся 15 снежня 1921 г. ў старадаўнім мястэчку Капыль. Яго бацькі былі беларускімі татарамі, якія захавалі свае звычаі і абрады, але роднай мовай іх была беларуская, што паўплывала на выбар жыццёвай дарогі будучага літаратара. У сваіх аўтабіяграфічных нататках " Радзіма мая — Капыль " С. Александровіч з любоўю згадвае родныя мясціны, дзе прайшло яго " пастухоўскае " дзяцінства, расказвае пра літаратурныя традыцыі, якія склаліся ў Капылі яшчэ да рэвалюцыі і да ўтварэння якіх найбольш прычыніліся беларускія выданні ( газета " Наша ніва ", рукапісныя часопісы " Вольная думка ", " Заря ", " Голос низа " і інш. ) і дзейнасць капыляніна Цішкі Гартнага, Ігната Буйніцкага, нясвіжскіх семінарыстаў. Прыгадваючы, якім вялікім поспехам карысталася беларуская кніга ў часы яго дзяцінства, С. Александровіч пісаў : " Я чатыры гады трымаў у адной руцэ кнігу, а ў другой пугу. Чытаў многа, чытаў запоем, аддаючы перавагу беларускай

кніжцы. Па руках у мястэчку хадзілі зачытаныя да дзірак раманы " Сцежкі -дарожкі " Міхася Зарэцкага, " Сокі цаліны " Цішкі Гартнага, " Палескія аповесці " Якуба Коласа. Для мяне гэтыя кніжкі былі яшчэ недасягальнай марай, я тады яшчэ чытаў " Палескіх рабінзонаў " і " У краіне райскай птушкі " Янкі Маўра, купляў усе выпускі з серый " Бібліятэкі школьніка " і " Малады прыродазнаўца ".

У верасні 1939 г. Александровіч паступіў у БДУ, але кончыць першы курс яму не давялося — забралі ў армію. А там пачалося гітлераўскае нашэсце. 16 траўня 1942 г. дваццацігадовы юнак Сцяпан Александровіч быў паранены ( на Керчанскім паўвостраве ) і захоплены ў палон. Лагер ваеннапалонных у Крывым Рогу з яго холадам і голадам надарвалі здароўе. З палону ўдалося ўцячы і яшчэ павяяваць у партызанскім атрадзе, але ад цяжкай хваробы лёгкіх, якую набыў у палоне, не змог вылечыцца.

Важны этап у жыцці Александровіча — шматгадовая педагагічная работа ў Наваградскай сярэдняй школе, якая размяшчалася ў будынку былой Беларускай гімназіі і ў настаўніцкім калектыве якой працавала шмат выкладчыкаў гэтай гімназіі. З упэўненасцю можна сказаць, што настаўніцкі калектыў дапамог завяршыцца духоўнаму сталенню Сцяпана Хусейнавіча і знайсці сваё месца ў жыцці.

Скончыўшы завочна філфак БДУ і аспірантуру ( дысертацыю абараніў у 1958 г. ), С. Александровіч уліваецца ў шэрагі дзеячаў беларускай культуры. З-пад яго пяра выходзяць кнігі краязнаўча-біяграфічных нарысаў пра Ф. Багушэвіча, Я. Купалу, Я. Коласа, М. Багдановіча, Ц. Гартнага, М. Танка, К. Чорнага, П. Броўку, М. Лынькова, якія склалі кнігі " Незабыўныя сцежкі " ( 1959 ) і " Па слядах паэтычнай легенды " ( 1965 ). Ім таксама напісаная трылогія, прысвечаная жыццю Якуба Коласа ( " Ад роднае зямлі " ( 1962 ), " На шырокі прастор " ( 1972 ), " Крыжавыя дарогі " ( 1985 )), аповесці " Далёкія зарніцы " ( 1967), — пра подзвіг народа ў вайне, і шэраг літаратуразнаўчых прац : "Старонкі братняй дружбы " ( 1960 ), " Гісторыя і сучаснасць " ( 1968 ), " Пуцявіны роднага слова " ( 1971 ), " Слова — багацце " ( 1981 ).

Памёр Сцяпан Хусейнавіч 1 траўня 1986 года, заўчасна. Прафесар Леанід Лыч у сваім артыкуле " Татарскі класік беларускага народа " сказаў пра яго так : " Беларускі пісьменнік татарскага паходжання Сцяпан Александровіч па крыві належыць да татарскай нацыі, а па зместу, характару сваёй дзейнасці — да беларускай. Гэта, у поўным сэнсе слова, сын двух народаў ".

**Ірына Крэнь.**

---

## У МАРДОВІІ , У ЛЯМБІРЫ

У жніўні і першай палавіне верасня правялі раённыя туры мастацкай самадзейнасці дзевяць раёнаў Мардовіі, дзе ёсць татарскія сёлы. Пераможцы раённых тураў прыехалі ў Лямбір, што за 20 км ад сталіцы рэспублікі.

Тое, што фінал рэспубліканскага фестывалю адбыўся менавіта ў Лямбірскім раённым цэнтры, а не ў Саранску, ужо нікога не дзівіць. У апошнія гады Лямбір усё часцей выбіраюць для правядзення рэспубліканскіх нарад і семінараў. У траўні гэтага года ўпершыню ў гісторыі Мардовіі там была праведзена рэспубліканская школьная алімпіяда па татарскай мове і літаратуры. Кіраўніцтва раёна на чале з Кабірам Альмяшавым робіць многа для таго, каб татары Мардовіі не адчувалі сябе адарванымі ад усяго, што называецца татарскім. Наогул, лямбірцы стараюцца апраўдаць нададзены раёну пры яго ўтварэнні статус нацыянальнага татарскага раёна.

Для адкрыцця другога тура фестывалю " Вянок дружбы " слова браў Анатоль Аляксандравіч Уцешаў, старшыня Камітэта па нацыянальнай палітыцы пры ўрадзе Рэспублікі Мардовія. Ён падзякаваў усім удзельнікам і раённым аддзелам культуры за тое, што змаглі ў такі складаны і цяжкі час на высокім узроўні правесці свае раённыя туры, пажадаў канкурсантам творчых поспехаў, а гледачам добрага ўражання і прызваў іх не скупіцца на воплескі.

Затым загучала традыцыйная песня ансамбля " Чулпан " : " Без біт берге, шулсы шатлык, Аллага шэкер " — " Мы ж разам, вось ў чым радасць, дзякуй Богу ". Гэты татарскі эстрадны ансамбль з'яўляецца адзіны ў нашай рэспубліцы і цешыць публіку ўжо амаль дзесяць гадоў.

Конкурсныя выступленні пачаліся з Тарбееўскага раёна. Першымі выступілі бабулькі з фальклорнага ансамбля сяла Сургодзь, радзімы вялікага татарскага паэта Хадзі Такташа. Сярод тарбееўцаў вельмі гожа спявалі Західэ-апа Агішава і Роза Глухава. Але ўсіх гледачоў літаральна заваражыла выступленне сясцёр Равілі і Альфіі Ісхакавых.

Ельнікаўскі раён быў прадстаўлены выканаўцамі з сяла Акчэева — радзімы Каміля Тангальчэева, адзінага цяпер паэта з татар Мардовіі. Харошыя вершы Азхара Габідзі аб татарскім народзе прачытала Рэісе Шэхмамецьева. Гэтыя вершы напоўнены гордасцю за працавіты і сціплы татарскі народ. Аўтар заклікае не забываць аб слаўных сынах татарскага народа і не сароміцца напамінаць іншым, што гэта былі менавіта татары. Не ўсім вядома, што першы Сцяг Перамогі быў узняты над Рэйхстагам не Ягоравым і Кантарыем, а Газі Загітавым і Пятром Мініным, што вядомы ўсім Аляксандр Матросаў быў на самой справе Шкакірджанам Мухаммет-джанавым, што герой Брэсцкай крэпасці маёр Пётр Гаўрылаў быў хрышчоным татарынам.

Рамаданаўскі раён традыцыйна прадстаўляе самадзейнасць з сяла Алтары іх фальклорны ансамбль з 20-гадовым стажам работы " Алтын чышме " ( " Залатая крыніца " ). Але на гэты раз гледачоў чакаў сюрпрыз — на сцэну выйшлі дзяўчаты, сёстры-блізняты Алсу і Гельнара Бікбаевы з сяла Белазер'е. Пялі яны цудоўна, гледачы выклікалі іх на " біс ". " Алтын чышме " цудоўна выканаў гумарыстычную песню-сцэнку аб тым, як дзяўчыну выдавалі замуж за багатага старыка, а тая ўцякла з маладым каханым.

Найлепшай спявачкай, якая выконвае татарскія песні ў Рузаеўскім раёне, застаецца Шафіка Неясава, настаўніца Татарска-Пішлінскай

школы, якая ўдзельнічала ў мінулым годзе ў конкурсе " Татарская песня — 95 " у Казані. Шкада, цяпер яна выступала хворай і не змагла паказаць усё, на што яна здольная. Упершыню на рэспубліканскай сцэне выступіў з найгрышамі на тэмы татарскіх песень і танцаў гарманіст Равіль Кулаеў, рабочы з " Рузмаша ". Цудоўна выканаў Уладзіслаў Кашалькоў папуры з татарскай музыкі на флейце і кубызе з суправаджэннем баяніста Уладзіміра Дзяругіна. Кадокшынскі ж раён прадстаўляў вядомы ўсёй рэспубліцы Хайдар Турчаеў з Латышоўкі. Пеў ён надзвычай хораша.

Камышкінцы прывезлі чатыры нумары самадзейнасці з сяла Старое Аллагулава. Гэта сяло калісьці было вялікім і багатым, але яно было вядома тым, што там нарадзіўся адзін з найвялікшых татарскіх пісьменнікаў Абдрахман Абсалямаў.

Звычайна Качкураўскі раён у татарскіх справах не прымае ніякага ўдзелу. Але на гэты раз качкураўцы прыслалі адразу пяць маладых выканаўцаў з Татарскага Умыса. Хоць не ўсё у іх атрымалася — бо ўсё ж упершыню на вялікай сцэне, але так трымайцеся, поспехаў вам.

Цемнікаўцы былі прадстаўлены самадзейнымі артыстамі з самаго Цемнікава, Мітралаў і Ідзеева. Арыгінальнае выкананне сямейнага трыо Сюндзюковых вядомай песні " Пітрэч таласы " запомнілася ўсім гледачам.

Наступіла чарга Лямбірскага раёна. Лямбірцы, карыстаючыся правам гаспадароў, выставілі амаль столькі ж нумароў, колькі ўсе раёны разам узятыя. Выканаўчае майстэрства лямбірцаў зараз сапраўды стаіць на высокім узроўні. Працы спецыялістаў па татарскай музыцы — Фаілі Равілавай і Рафаэля Авязава, а таксама Радзіка і Галіі Яруллінай прынеслі свой плён.

Як заўсёды, добра выступілі лямбірскія ансамблі " Умырзай " і " Чулпан ", жаночы ансамбль з Свярбеевкі. Сольныя нумары Альфіі Максімавай, Фатыхі-апа Куньковай, Гузель Казаковай, Рызаны Кадзікінай і Гулі Забіравай заслужылі авацыі ўдзячных слухачоў. Хораша спявалі Венера Арыкава, Рыта Хансвярава, Галія Надзеева, Нурыя Абдрашытава, Камаль Бахметаў, дуэт Сюбкаева — Апарын.

Парадавалі публіку сваімі моцнымі і яшчэ маладымі галасамі Фатыха-апа Канькова з Чараміпава, і ансамбль з Сургодзі, Західэ-апа Агішава з Татарскіх Юнок, Халідэ-апа Седаева з Старога Аллагулава. Жывіце доўга, цешце нас сваімі песнямі.

Матэрыял у рэдакцыю " Байрама " даслаў
**Ірэк Біккінін з Лямбіра.**

---

## ВУЧОНЫ І МАРАК
### ( этапы аднаго жыцця )

Верасень 1991 года. У Ленінградскім вышэйшым інжынерна-марскім вучылішчы імя С. В. Макарава адзначалася 80-годдзе старэйшага яго работніка, загадчыка кафедры суднавых радыёнавігацыйных прылад,

ганаровага работніка марскога флоту Аляксандра Мустафавіча Байрашэўскага.

З усіх краёў краіны з'ехаліся на ўрачыстасць вучні Аляксандра Мустафавіча, многія з якіх сталі начальнікамі буйных берагавых радыёстанцый, выкладчыкамі, вучонымі. Прыехалі павіншаваць юбіляра вядомыя капітаны, якіх суднавыя радыёнавігацыйныя сістэмы не раз выручалі ў самых складаных марскіх плаваннях. Многа добрых слоў было сказана ў адрас юбіляра, але асабліва запомніліся словы аднаго буйнога марскога спецыяліста. Ён назваў Аляксандра Мустафавіча " бацькам савецкай марской радыёнавігацыі ". Чым жа заслужыў юбіляр такую высокую ацэнку ?

Нарадзіўся ён 15 лістапада 1911 года паблізу ад Вільні ў пасёлку Афіндзевічы, у сям'і чыгуначніка-тэлеграфіста. У гады Першай сусветнай вайны сям'я была эвакуіравана ў Петраград. Там юны Аляксандр скончыў школу і радыётэхнічны тэхнікум. Там жа ўпершыню адзеў марскую фуражку з " крабам ", бо ён палюбіў парусны спорт і навучыўся ўпраўляць яхтай і хадзіць на буерах ( парусніке на каньках ) па лёду Фінскага заліва.. Маладым спецыялістам пабываў ён і на берагах заліва Кара-Багаз-Гола ў Каспійскім моры. Нязвычайна пякло сонца, а ён, цяпер ужо з чалмой на галаве, удзельнічаў у мантажы і пуску першых у гэтых месцах берагавых радыёстанцый. А калі вярнуўся ў Ленінград, яго запрасілі на работу ў Ленінградскі тэхнікум.

З морам і радыётэхнікай звязана і яго далейшае жыццё. За некалькі дзён да пачатку Вялікай Айчыннай вайны пасажырскае судна, на якім Аляксандр Мустафавіч знаходзіўся як спецыяліст, ледзь паспела пакінуць Гамбургскі порт, пазбегнуць палону. А фотаплёнкі, заснятыя ім у Германіі, праявілі ўжо ў дні вайны. На фронце Аляксандр Мустафавіч забяспечваў сувяззю артылерыю. А пасля вызвалення Ленінграда ад блакады быў дэмабілізаваны і накіраваны на выкладчыцкую работу ў Ленінградскае вышэйшае мараходнае вучылішча. " Выкладчык-курсант ", нярэдка называлі яго там, бо ён і сам займаўся ў гэтым вучылішчы і на выдатна закончыў яго ў 1954 годзе.

Навука, якою з тоіі пары займаецца Аляксандр Мустафавіч Байрашэўскі, называецца марская радыёнавігацыя. Да сярэдзіны сямідзі-дзесятых гадоў ім ужо было напісана асабіста ці ў складзе розных аўтарскіх калектываў некалькі дзесяткаў кніг. Былі сярод іх і манаграфіі, і грунтоўныя даведнікі, і тыя шматлікія падручнікі, па якіх да гэтага часу рыхтуюць спецыялістаў для марскога флоту Расіі і шэрагу краін садружнасці.

Ішлі годы. Прыходзіла на марскія суды новая радыёнавігацыйная тэхніка. Мяняліся і назвы яго друкаваных прац. У ленінградскім " Доме кнігі " на Неўскім яго кнігі можна было сустрэць пад надпісам " Навінкі ", і яны не затрымліваліся на прылаўках. А такія яго падручнікі, як " Суднавая радыётэхніка " і "Суднавая радыёлакацыя" былі перакладзены на многія вядомыя замежныя мовы, у тым ліку і на кітайскі. Добрым словам успамінаюць Аляксандра Мустафавіча і на Кубе. Тут ён дапамагаў наладзіць навучальны працэс у толькі што створанай марской акадэміі

Нядаўна Аляксандру Мустафавічу Байрашэўскаму споўнілася 86 гадоў. Даюць адчуць сябе гады. Але ва ўтульнай пецярбургскай кватэры на Васільеўскім востраве працягвае стукаць машынка — Аляксандр Мустафавіч працуе. І вось ужо складзены чарговы артыкул для часопіса " Марскі флот " аб новых тэндэнцыях развіцця айчынных сістэм радыёнавігацыі. Працягваецца праца над новым раздзелам " Марскога энцыклапедычнага даведніка ", некалькі выданняў якога так хутка былі раскуплены, што самі сталі ўжо энцыклапедычнай каштоўнасцю.

М. А. Байрашэўскі. Менск.

---

## МОЖА ГЭТА ЗАЦІКАВІЦЬ ЧЫТАЧОЎ " БАЙРАМА " ?

Калі мне трапляецца ў рукі квартальнік " Байрам ", то я чытаю ўсе артыкулы. І што найбольш у ім мяне радуе дык гэта тое, што ён адыйшоў ад догм і стэрэатыпаў, навязаных грамадству зусім недалёкім і своеасаблівым часам. Я ж заўсёды стаяў і стаю за нецярпімасць думак, за рознабаковыя погляды і разважанні аб тых ці іншых падзеях. Разумны чалавек сам адбярэ з іх свае зярняткі і ўзгадуе руплівы свой ураджай.

Зусім нядаўна мне трапіўся " Казачий словарь-справочник ", які быў выдадзены ў Злучаных Штатах Амерыкі, у Каліфорніі ў 1969 г. Там ёсць сярод іншых цікавы артыкул пра Багдана Зіновія Хмяльніцкага. Зусім нядаўна ў нас пра яго існавала толькі адна афіцыйная думка, адзін афіцыйны погляд. Прыстасаваны ад навукі, як " умельцы " так " адрэдагавалі ", адшліфавалі неардынарнага чалавека, што каб ён сам прачытаў пра сябе, то разгубіўся б і адказаў тое, што запатаваў на Беларусі ў мінулым стагоддзі славуты Ян Чачот : " Мелюць языком, як цяля хвастом"... Я звярнуў увагу ў гэтым артыкуле на тое, што Хмяльніцкі быў цесна звязаны з Крымскім ханствам. Мне ўдалося зрабіць ксеракопію з часткі артыкула пра славутага палкаводца і палітычнага дзеяча, але копія атрымалася не вельмі выразная. Таму прашу рэдакцыю " Байрама " надрукаваць урывак гэтай даведкі і паўтарыць больш выразнымі літарамі, не перакладаючы яе на беларускую мову, каб не было папрокаў у тым, што гэта нейкая падробка. А ці праўду друкуе " Казачий словарь-справочник ", дык гэта я не спрабую ні сцвердзіць, ні аспрэчыць.

Міхась Маліноўскі з Баранавічаў.

**ХМЕЛЬНИЦКИЙ** Богдан Зиновий — род. в 1593 г.; Днепровский Казак, гетман Войска Запорожского и обеих сторон Днепра. Происходил из казачьего рода, получившего от польско - литовского короля шляхетское достоинство. Польский историк К. Шейхона говорит, что Х. имел право печататься значительным в геральдике гербом "Абданк". Имеются также указания, что его недалекие предки перекочевали из Крымской орды к границам Вел. кн. Литовского, будучи магометанами. Иначе говоря, его род принадлежал к тем Ордынским Казакам, которые, состоя при ханах, стали исповедывать их веру, а уйдя от них, хотя и возвратились формально в христианство, тайно оставались адептами Магомета.

Вместе с тем Х. был наделен двумя именами " Богдан Зиновий — и этот факт наводит на мысль, что он в детстве, действительно, не принадлежал к Православной Церкви, т. к. у православных обряда конфирмации не существует и обычая давать детям второе имя нет.

ХМЕЛЬНИЦКИЙ Богдан Зиновий — род. в 1593 г. ; Днепровский Казак, гетман Войска Запорожского и обеих сторон Днепра. Происходил из казачьего рода, получившего от польско-литовского короля шляхетское достоинство. Польский историк К. Шейхона говорит, что Х. имел право печататься значительным в геральдике гербом " Абданк ". Имеются также указания, что его недалёкие предки перекочевали из Крымской орды к границам Вел. кн. Литовского, будучи магометанами. Иначе говоря, его род принадлежал к тем Ордынским Казакам, которые, состоя при ханах, стали исповедовать их веру, а уйдя от них, хотя и возвратились формально в христианство, тайно оставались адептами Магомета.

Вместе с тем Х. был наделён двумя именами " Богдан Зиновий " — и этот факт наводит на мысль, что он в детстве, действительно, не принадлежал к Православной церкви, т.к. у православных обряда конфирмации не существует и обычая давать детям второе имя нет.

# КРЫМСКАТАТАРСКА-БЕЛАРУСКІ СЛОЎНІК

## 1500 СЛОЎ І СЛОВАЗЛУЧЭННЯЎ АД ДЗЯДЗЬКІ ІСМАІЛА МЕМЕТАВА

| Крымскататарскае слова | Беларускае слова |
|---|---|
| **Т** | |
| Таба | Да, у напрамку да |
| табан | падлога, пята |
| табиат | прырода, характар |
| табынув | пакланенне |
| тав | лес |
| тава | патэльня |
| тавда | у лесе |
| тавлана | дужэць, выздараўліваць, задавольніцца |
| тавус | паўлін |
| тавукъ | курыца |
| тазис | спачуванне |
| тайлакъ | каток для катання на каньках |
| таймакъ | слізгаць |
| тайын | пастаянства |
| такъсим | размеркаванне, падзел |
| такъым | зусім |
| тал | вярба |
| тала | стамляцца |
| талебе | вучань |
| талим аля | трэніруецца |
| тамам | роўна, якраз |
| тамир | рамонт, папраўка |
| тамла | капля |
| тана | падцёлак |
| тантана | урачыстасць |
| таныш | знаёмы |
| танмак | знайсці |
| тар | вузкі |
| тараф | напрамак, старана, бок |
| тарих | гісторыя |
| тарла | поле |
| тары | проса |
| тариф | тлумачэнне |
| тарышмакъ | старанца |
| тасвир | апісанне, адлюстраванне |

| | |
|---|---|
| тасвирий икяе | апісальны расказ |
| тасиль | навучанне, адукацыя |
| татам | старэйшая сястра |
| татар | татарын |
| татлы | варэнне, салодкі, соладка |
| татран | хрэн |
| тафсилятлы | падрабязна |
| тахминен | прыкладна, арыенціровачна |
| тахта | дошка |
| таш | камень |
| ташламакъ | пакласць, пакінуць |
| ташлык | камяністае месца |
| ташымакъ | насіць |
| таякъ | палка |
| тевекель | дарма ( напрасна ) |
| тевсие | рада, парада, рэкамендацыя |
| тедавий | лячэнне, выздараўленне |
| тедбир | мерапрыемства, мера |
| теджрибе | вопыт |
| тедкъикъ | даследаванне, вывучэнне |
| тез | хутка, скора |
| тездже | хутчэй |
| тек | толькі, адзікавасць |
| теке | казёл |
| тель | дрот, струна |
| темаша | відовішча, назіранне |
| темели | аснова |
| темелли | генеральны, асноўны |
| темиз | чысты |
| темсиль | сімвал, параўнанне |
| тенби | папярэджанне, настаўленне |
| тенкъид | крытыка |
| тепси | патэльня, паднос, блюдца |
| теракъкъият | прагрэс, развіццё |
| терджиме | пераклад |
| терек | дрэва |
| терен | глыбокі, глыбока |
| терзи | кравец |
| теркиб | састаў, страенне |
| теслим олмакъ | здавацца |
| техника | тэхніка |
| тешеккюр | удзячнасць, дзякуй |
| тешкилят | арганізацыя |
| тиклемек | паставіць, падняць |
| тикмек | шыць |
| тиль | мова, язык |
| тимсах | кракадзіл |

| | |
|---|---|
| тинтиле | абскубаць, абскубваць |
| титреди | задрыжэў, затросся |
| тиш | зуб |
| тобан | салома |
| тоган | родны |
| тогъай | луг, пакос |
| токмек | выліваць, высыпаць |
| токътамакъ | астанавіцца |
| токъуй | тчэ |
| токъума | тканіна, тканы |
| токъундыртмай | не дае дакрануцца |
| тола | запаўняецца |
| томалакъ | круглы |
| тонна | тона |
| топ | гармата, мяч |
| топе | верх, дах, страха |
| топламакъ | сабраць |
| топланды | сабраўся, скруціўся ў клубок ( пра вожыка ) |
| топланмакъ | збірацца |
| топлашув | сход, паседжанне |
| топракъ | зямля |
| топчы | артылерыст |
| торгъай | верабей |
| трактар | трактар |
| трамвай | трамвай |
| трышлакъ | старацца |
| туз | соль |
| тузельмек | паправіцца, паздаравець |
| тузлы | салёны, з соллю |
| тузсыз | без солі |
| тукян | крама, магазін |
| тунч | бронза |
| тур | устаць |
| турмакъ | стаць, уставаць |
| турна | жораў |
| тус | колер |
| тутмакъ | лавіць, злавіць, трымаць |
| тутукъ | зычны гук, заіка |
| тутукъ сеслер | зычныя гукі |
| тутукълар | зычныя гукі |
| тутун | тытунь, табака |
| тутушты | спахвацілца, спахваціўся |
| туфан | ураган, патоп |
| тушурмек | скінуць, здымаць |
| тушуньмек | думаць |
| тыйпакъ | запруда, лужа |

| | |
|---|---|
| тылсымлы | чарадзейны |
| тынч | ціха, ціхі |
| тынчлыкъ | цішыня, спакой |
| тырмашмакъ | карабкацца |
| тырнакъ | ногаць, кіпцюр, двукоссе |
| тытыр | вусень |
| тыятр | тэатр |
| тюбуньде | пад, унізе |
| тюбуньден | знізу, з-пад |
| тюз ер | раўніна |
| тюй | проса |
| тюклю | варсісты |
| тюп | куст |
| тюрку-йыр | песня |
| тюс | від, свет |
| тюшуньмек | падумаць |
| тюшурмек | зняць, апускаць |

## У

| | |
|---|---|
| Уджуз | Танна, танны |
| уджюм | атака, наступ, штурм |
| узакъ | далей, далёка, далёкі, замок |
| узакъ дакъы | далёкі |
| узаныл тура | выцягнулася |
| узатты | працягнуў |
| узун | доўга, доўгі, даўжэзны |
| узун бойлы | рослы, высокі |
| уйгун | зручны |
| уйдурма | выдумка, вынаходства |
| уйкен | старэйшы |
| укъукъ | права, прававы |
| укметни | дзяржаўны |
| укюмет | улада, урад |
| улакъ | казляня |
| улу | вялікі |
| ульке | край, вобласць |
| умют | надзея |
| ун | мука |
| унер | рамяство |
| унер ала | бярэ прыклад |
| унсур | элемент |
| унутымакъ | забыць, забываць |
| уп-узун | даўжэзны |
| урба | вопратка, адзенне |
| ургъу | націск |
| урист | воля, свабода |

| | |
|---|---|
| урмакъ | стукнуць, біць |
| урман | бор |
| урула | падбіты |
| уруш | бітва, бой |
| урушмакъ | біцца |
| урь | свабодны, вольны |
| урьмет | павага |
| уста | майстар, мастак, умелы |
| устаз | настаўнік |
| устол | стол |
| устю-башы | увесь, з галавы да ног |
| устюден | зверху |
| устюнде турмакъ | стаяць зверху |
| усул | метад, спосаб, прыём |
| уфукъ | гарызонт |
| уч | тры |
| уч юз | трыста |
| учансув | вадаспад |
| ух ! | ух ! |
| учкъун | іскра |
| учкуньдур | бурак |
| учмакъ | лётаць, ляцець, паляцець |
| учунджы | трэці |
| учуп кельмек | прыляцець |
| учурым | абрыў, бездань |
| ушумек | стынуць, зябнуць |
| уюта | заквашвае |

| | |
|---|---|
| Фаалиет | Дзейнасць |
| фабрыка. | фабрыка |
| фаджиа | нядоля, трагедыя |
| фаиз | працэнт, адсотак |
| факъыр | бедны |
| фахр | гордасць, слава |
| фахырланмакъ | ганарыцца |
| фашист | фашыст |
| феда | ахвяра |
| феим | кемлівасць |
| ферасет | здагадлівасць |
| ферах | радасць, суцяшэнне |
| фередже | чадра, паранджа |
| ферма | ферма |
| ферьяд | крык |
| фигъан | крык адчаю |
| финджан | сэджанец |

| | |
|---|---|
| фиилъ | дзеяслоў |
| фикир | думка, погляд |
| фикр | думка, погляд |
| фиски | лейка, палівачка |
| фукъаре | бедны |
| фурунджи | пекар |
| фуртуна | бура |
| фындыкъ | лясны арэх, ляшчынавы арэх |
| фыркъа | партыя |
| фыркъалы | партыйны |
| фырчы | пэндзаль, шчоткі для пабелкі |
| фыстыкъ | фісташка |
| фышкъын | адростак, флянс |

---

# ВОСЕНЬСКАЯ ВАНДРОЎКА

## ( Справаздача аб экспедыцыі праведзенай Беларускім згуртаваннем татараў-мусульман " Аль-Кітаб " па месцах кампактнага пражывання татар ( 5 - 10 кастрычніка 1996 г. ).

У сувязі з набліжэннем юбілею — 600-годдзя асадніцтва татараў на землях Беларуска-Літоўскай Дзяржавы ( Вялікага Княства Літоўскага ), а таксама ў мэтах падрыхтоўкі да гэтага свята, якое будзе адзначацца ў наступным ( 1997 ) годзе пры актыўнай падтрымцы Цэнтра нацыянальных культур і поўным яго фінансаванні, з 5 па 10 кастрычніка 1996 г. была праведзена экспедыцыя па татарскіх абшчынах Беларусі. У экспедыцыі ўдзельнічалі члены праўлення Згуртавання " Аль-Кітаб " Ібрагім Канапацкі, Ісмаіл Александровіч, куратар татарскіх нядзельных школ Мухамад Махмуд, карэспандэнт газеты " Культура " Алена Трусава, карэспандэнт Беларускага радыё, вядучая праграмы " Супольнасць " Лілія Коршун, аператар Цэнтра нацыянальных культур Аляксандр Шчарбінін. Меркавалася, што з намі паедзе таксама загадчык кафедры Беларускага універсітэта культуры Пётр Адамавіч Гуд, аўтар і рэжысёр вандроўнага свята " Караван-Байрам ", якое адбудзецца ( калі Бог дасць ) у наступным годзе. Такім чынам, нам прадстаяла акрамя ўсяго іншага яшчэ і вывучыць маршрут, па якім у наступным годзе павінна будзе прайсці свята " Караван-Байрам ". Агульны маршрут экспедыцыі склаў 1166 км ( гл. схему ). Ён пралягаў праз Докшыцы — Глыбокае — Браслаў — Відзы — Пастаы — Мядзел — Ашмяны — Іўе — Навагрудак — Ліда — Сандыкаўшчызна — Астрына — Гродна — Скідаль — Слонім — Баранавічы — Ляхавічы — Клецк — Капыль — Узда. Маршрут быў складзены так, каб за кароткі час ахапіць максімальную колькасць абшчын. Ва ўсіх месцах нашых сустрэч разам з прадстаўнікамі татарскай

грамадскасці, з загадчыкамі аддзелаў культуры ( гг. Докшыцы, Ліда, Навагрудак, Клецк, Узда ) абмяркоўваліся мерапрыемствы звязаныя з падрыхтоўкай і правядзеннем шэсцьсотгадовага юбілею, вывучаўся стан спраў у абшчынах, работа нядзельных школ, захаванасць помнікаў матэрыяльнай і духоўнай культуры татар. На сходах, якія праводзіліся ў татарскіх абшчынах, гаварылася пра тое, што правядзенне свята не з'яўляецца самамэтай, а сродкам для вырашэння набалеўшых праблем нацыянальнага і культурнага адраджэння самабытнага этнасу — беларускіх татар, які за апошнія 70 гадоў значна асіміляраваўся і апынуўся на мяжы знікнення. Яшчэ можна затрымаць гэты пагубны працэс. Але для гэтага неабходны сілы і даволі вялікія фінансавыя сродкі. Апошніх якраз і няма. Не можа нам дапамагчы і дзяржава — яна сама знаходзіцца ў цяжкім эканамічным становішчы. Таму ўсе нашы рашэнні на месцах прымаліся з улікам сённяшніх рэалій, нашых магчымасцей. Людзі станоўча паставіліся да ідэі правядзення свята татарскага народа. У кожным населеным пункце, дзе жывуць нашы супляменнікі, вызначаны канкрэтныя мерапрыемствы па правядзенню 600-годдзя пасялення татар на Беларусі ( у Навагрудку, гэта напрыклад, адкрыццё мячэці, у Смілавічах — сабантуй, у Мінску — навуковая канферэнцыя і т.д. ). Добра ставіліся да ідэі правядзення свята раённыя і гарадскія аддзелы культуры, якія абяцалі , пры ўмове фінансавання, сваю дапамогу і падтрымку. Ва ўсіх абшчынах, дзе мы пабывалі, была раздадзена літаратура : кнігі, часопісы, газеты, вучэбная літаратура для нядзельных школак. Ад гэтых сустрэч засталося шмат уражанняў, якія мы запісвалі на аудыё і відэакасеты. Пасля належнай апрацоўкі з гэтага матэрыялу можна будзе зрабіць добры відэафільм. Мяркую, што матэрыялы вандроўкі могуць быць выкарастаны навукоўцамі, усімі тымі, каго цікавяць праблемы гісторыі і культуры тутэйшых татар. Тым больш, што ўжо не за гарамі правядзенне III міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі на тэму " Праблемы вывучэння і захавання спадчыны татарскага народа на Беларусі ". Ініцыятарам яе правядзення выступіў Беларускі універсітэт культуры, Цэнтр нацыянальных культур, Міжнародная Акадэмія вывучэння нацыянальных меншасцей і Беларускае згуртаванне " Аль-Кітаб ".

У канцы сваёй справаздачы хацеў бы выказаць шчырую падзяку Міністэрству культуры, Цэнтру нацыянальных культур, асабіста дырэктару Цэнтра сп. Мацюшэнку В. І., дзякуючы намаганиям якіх паступова адраджаецца гісторыя і культура нашага народа, абуджаецца яго самасвядомасць. Спадзяёмся, што наша далейшае супрацоўніцтва будзе працягвацца.

Ассаляму алейкум уа рахматулла. Мір і міласць Аллага Усемагутнага. Аллаг ( хвала Яму і вялікі Ён ) заўсёды з тымі, хто творыць дабро.

11.10.1996 г.

**Ібрагім Канапацкі,**
віцэ-прэзідэнт Беларускага згуртавання
татараў мусульман " Аль-Кітаб "


Прыкладны маршрут экспедыцыі
па месцах жыхарства татар
у гонар 600-годдзя іх пасялення
на землях Беларусі
БРАСЛАЎ
40
80
ВІДЗЫ
Г.ЛЫБОКАЕ
44
30
ПАСТАВЫ
25
МЯДЗЕЛ
ДОКШЫЦЫ
АШМЯНЫ
120
135
65
40
ВАСІЛІШКІ
22
47
ЛІДА
ІЎЕ
Выезд
50
40
МІНСК
ГРОДНА
30
СКІДАЛЬ
НАВАГРУДАК
Прыезд
80
110
85
63
УЗДА
СЛОНІМ
83
54
БАРАНАВІЧЫ
17
27
КЛЕЦК
ЛЯХАВІЧЫ
Агульная даўжыня праезду
(без наведання Навагрудка) --
1100 км.
з заездам у Навагрудак і Капыль --
1166 км.

## НЕКАЛЬКІ СЛОЎ ПРА ВІНЦЭСЯ КАРАТЫНЬСКАГА

Нарадзіўся 15.06. 1831 года ў вёсцы Селішча ( зараз Карэліцкі раён на Гродзеншчыне ), памёр 7.02.1891 года ў Польшчы. Пісьменнік, падарожнік, журналіст, краязнаўца, публіцыст. Пісаў на беларускай і польскай мовах. На Беларусі ён працаваў у школах, з 1850 года быў сакратаром у самога Ул. Сыракомлі ( Людвіга Кандратовіча ). Вінцэсь Каратынскі пакінуў пасля сябе багатую спадчыну. На беларускай мове ў 1894 годзе ў выдавецтве " Мастацкая літаратура " выйшлі другім, дапоўненым выданнем яго " Творы ", укладанне іх, прадмову і каментарыі зрабіў вядомы беларускі паэт і вучоны Уладзімір Мархель, прычым ён гэта стварыў з вялікай любоўю і добрым веданнем справы, за што мы яму і кажам вялікі і шчыры дзякуй.

**Вытрымкі з падарожных запісаў В. Каратыньскага " Наваградчына і Навагрудак " у перакладзе Зміцера Саўкі.**

( ... )

Кожны прадмет кідае цень, адпаведны сваёй велічыні : так і сёлета вялікія людзі пераадолелі тысячы міль, каб напіцца моцы ля магілы Магамета...

( ... )

...у Навагрудку татары займаюцца гарбарствам...

( ... )

Направа, аж да двору Брыцянка, цягнуцца густа парослыя хмызняком пагоркі, усеяныя шматлікімі магіламі палеглых абаронцаў і захопнікаў — ліцвінаў, русінаў, татараў ды крыжакоў...

( ... )

Кім і калі быў закладзены замак, невядома ; хутчэй за ўсё, адным з князёў Русі ў 11 або 12 стагоддзі. У 1241 годзе Эрдзівіл, літоўскі князь, заняўшы безабаронны Наваградак абязлюдненыя праз татар ваколіцы, падымае з руінаў замак.

( ... )

Татарскія і крыжацкія навалы, адны з поўдня, другія з захаду, неадназова аднаўляліся. Першы паход татараў у 1271 годзе, на чале з Ярунам, зверхнікам дзікуноў і галіцкім князем, праз нязгоду ў іх стане і набліжэнне дапамогі абаронцам замка — скончыўся спаленнем прадмесця. Пазней татары, скораныя Вітаўтам, ужо доўга не наважваліся завітаць сюды.

( ... )

Калі зняслаўленыя крыжакі падтулілі хвасты, за часам Аляксандра Ягелона аднавіліся набегі татараў. З 1503 да 1506 года іх орды штогод прыносілі з сабою агонь і смерць, але ніколі не маглі захапіць замка ; толькі разгром над Клецкам паклаў канец іх рабаўніцтву ў гэтым краі.

( ... )

Вітаўт, скарыўшы татараў амаль на два стагоддзі, палонных, а верагодна, і часткова самахоць прыбылых з Крыму, пасяліў у Навагрудку і яго ваколіцах, падобна як у Троках і Вільні ды іх ваколіцах, у старых і новай сталіцы дзяржавы...

( ... )

У татараў здавён у Навагрудку ёсць свая мячэць, здаецца, заўсёды, так, як і сёння, драўляная.

( ... )

Сярод татараў адны таксама служаць, другія займаюцца агародніцтвам, гарбарствам, зарабляюць фурманкаю ; яны вылучаюцца годнасцю і працавітасцю ( падкрэслена мною. — М. М. ).

( ... )

Паводзіны насельнікаў горада, хрысціян і татараў, узорныя ; узаемаадносіны шчырыя, простыя, амаль вясковыя ; бура пачуццяў, якая стрымліваецца рэлігіяй і славянскай лагоднасцю ; прастата, ветлівасць, гасціннасць — усё гэта ўяўляецца вельмі сімпатычным.

" Наваградчына і Наваградак " упершыню
надрукаваны на польскай мове ў газеце
" Gazecie Codziennej "у №№ 306 - 308,
315, 316 за 1858 год.
Са збораў Міхася Маліноўскага.

**Міхась Маліноўскі,**
правадзейны член Геаграфічнага
таварыства, г. Баранавічы.

225320, г. Баранавічы, вул. Брэсцкая, д. 293, кор. 2, кв. 42
Маліноўскі Міхась Міхайлавіч.

---

## Неопубликованное письмо

Дорогие братья — белорусские татары, читатели нашего журнала ! Я хочу ознакомить вас с письмом, которое было послано мною своему другу детства, земляку Али в январе 1985 года. В этом письме есть изложение, похожее на сказку, но мотивы и случаи не лишены объективности и правды. Наше современное поколение молодёжи не представляют, какие страшные гонения совершались против многочисленных народов в нашей стране в период тоталитарного режима Сталина.

Мой друг детства Али, активный участник Великой Отечественной войны, был ранен и контужен под Ленинградом, командовал танковой ротой. После войны он жил в городе Горьком ( Нижнем Новгороде ). Он умер там лет 6 тому назад.

Вот что писал я ему :

Здравствуй, Али !

Дорогой друг, отдыхаем мы в настоящее время в пансионате " Свитязь ". Это здесь — в Белоруссии, 200 км от Минска, под городом Новогрудок.

Пансионат находится в сказочном лесу, на берегу озера Свитязь. Всё здесь хорошо, лес первозданный, объявлен заказником. Наблюдая лесной пейзаж, приходится удивляться красоте дремучего леса в зимнем убранстве.Здесь со мной произошёл удивительный случай, который хочу описать тебе.

Иду я это по лесу утром, около 8 часов. Совершаю утреннюю оздоровительную прогулку, прохожу по лесной чаще, любуюсь природой, глубоко дышу, думаю, как это продлить жизнь свою. Сам, один на один с природой и зимним лесным пейзажем. Двигаюсь легко по снежному покрову. Кругом вековые дубы с опавшей листвой, как громадные уродливые скелеты, далее берёзы, сосны, ели в своём снежном зимнем убранстве. Утренний рассвет, на горизонте занимается алая заря. Вдруг передо мной волк четвероногий, и обращаясь ко мне, на ясном человеческом языке говорит : " Я тебя съем ! " Я ему запинаясь говорю : " Товарищ волк, не имеешь права. Я из здешнего пансионата. Да кроме того, я ветеран войны, отставной офицер, плюс ещё — крымский татарин ". Тогда волк сделал задумчивый вид, осмыслил дело и говорит : " Да, действительно, ты в наших лесах редкий экземпляр. Вам и так досталось в период войны, особенно от своих освободителей. Прогнали вас с родных очагов. Долгие годы томились как спецпереселенцы, находясь под унизительным тюремным комендантским режимом. Ладно, живи себе на здоровье. Я волк сознательный, знаю кого съесть, не буду обижать обиженных ". Далее он говорит : " Один из моих предков съел ягнёнка, обвиняя того, что он якобы ему, волку, мутил воду, хотя ягнёнок пил воду гораздо ниже по течению реки. Когда ягнёнок пытался доказать, что он никак не может мутить ему воду, так как пьёт воду по нижнему течению, волк взял и отрезал : " Я всё равно съем тебя, потому что голоден и мне есть хочется ". И уволок бедного ягнёнка в тёмный лес.

Нечто подобное произошло с вашим народом — с крымскими татарами. Того волка до сих пор проклинают за кровожадную жестокость. Вот поэтому я не хочу с такой характеристикой и проклятьями войти в историю. Я не съем тебя. Шагай себе на здоровье ".

Вот такой диалог произошёл у меня с владыкой здешних лесов — седым волком, когда в конце января 1985 года мы с женой отдыхали в пансионате " Свитязь ". Я был удручён и удивлён сознательностью этого волка. Главное — он так хорошо понимал участь малочисленных народов, которых так сильно обижают, ........... ,(а массового изгнания с родных мест. После такого диалога я с опаской зашагал по лесной тропе, скорей в палату. И больше я сам, один, на прогулку не ходил. Кто знает, ведь всякие бывают волки.

Вот, дорогой друг, такой произошёл со мной случай, не лишённый правдивости *.

**И. Мeметов**

29.01. 1985 г., пансионат " Свитязь ".

---

* Действительно, встреча с волком была, но судьба крымских татар многим известна, начиная с 18 мая 1944 г., когда мой народ был подвергнут жестокой политике геноцида. В период депортации погибло более половины выселенных, погибли целые семьи. Кое-что об этом было нами написано в нашем сборнике " Крымские татары — 1944 - 1994 гг. ", посвещённым пятидесятилетию траура крымских татар, изгнания их из родного Крыма.

# ПРОБНЫЯ АРТЫКУЛЫ ЭНЦЫКЛАПЕДЫІ ДЛЯ БЕЛАРУСКІХ ТАТАРАЎ

**АСТРАВУМАЎ** Мікалай Пятровіч ( 15.11.1846 г., Сасава Ялацінскага павета Тамбоўскай губ. — 17.11.1930 г. ), рускі ўсходазнавец. Скончыў Казанскую духоўную акадэмію ў 1870 г. Быў дацэнтам на кафедры місіянерскіх прадметаў у Казанскай духоўнай акадэміі да 1877 г. У гэты перыяд апублікаваў шэраг прац, у тым ліку " Мухамеданский пост в месяц Рамазан ", " Первый опыт словаря народно-татарского языка по выговору крещёных татар Казанской губернии ". Пасля заваявання Сярэдняй Азіі Расіяй у 1877 г. накіраваны ў Ташкент, дзе на працягу 30 гадоў ( да 1917 г.) працаваў у сферы асветы : спачатку інспектарам народных вучылішчаў, затым дырэктарам настаўніцкай семінарыі і дырэктарам мужчынскай класічнай гімназіі. На працягу 25 гадоў Астравумаў быў рэдактарам " Туркестанскай туземнай газеты ", якая прызначалася найперш для мясцовага насельніцтва. Паэты-дэмакраты Фуркат і Мукімі ў значнай ступені абавязаны сваім станаўленнем М. П. Астравумаву, які памагаў публікавацца ў мясцовым, цэнтральным друку імперыі. Адным з першых ён выпусціў на ўзбекскай мове серыю прац асветніцкага характару па геаграфіі, гісторыі, медыцыне, сельскай гаспадарцы і інш. для пашырэння светапогляду ўзбекскага чытача. Ім жа была распачата публікацыя на ўзбекскай мове твораў А. С. Пушкіна і Л. М. Талстога і іншых рускіх пісьменнікаў.

М. П. Астравумаў выпусціў на рускай мове цэлую серыю кніг з узбекскімі казкамі , прыказкамі, прымаўкамі, загадкамі, паданнямі, прыкладамі дасціпных выразаў. Асветніцкая дзейнасць М. П. Астравумава садзейнічала ўзаемаразуменню паміж народамі Расіі і Туркестана, паміж хрысціянамі і мусульманамі. Ён быў адным з заснавальнікаў Ташкенцкага музея, у які перадаў свае шматлікія і каштоўныя экспанаты.

Значны ўклад Астравумава ў вывучэнне этнаграфіі Сярэдняй Азіі. Яго этнаграфічная праца " Сарты. Этнографические материалы. Общий очерк " была адной з першых прац падобнага тыпу. Шмат увагі аддаваў Астравумаў вывучэнню ўзбекскай мовы. Ён аўтар прац па граматыцы, этымалогіі ўзбекскай мовы, па методыцы яе выкладання. Займаўся ён і татарскай мовай. У 1892 г. выдаў у Казані грунтоўны татарска-рускі слоўнік.

У Туркестане Астравумаў апублікаваў шэраг артыкулаў і кніг па самых розных пытаннях ісламазнаўства, аб гісторыі Ісламу і сучасным яго стане, аб розных цячэннях у гэтай рэлігіі, пра прарока Мухаммеда, аб мусульманскай адукацыі і мусульманскім асветніцкім руху ў Расіі ў канцы 19 — пачатку 20 ст., аб мусульманскіх тайных пісьмёнах, аб асновах Шарыяту, сямейным і спадчынным праве, аб становішчы жанчыны, аб рэлігійна-маральным жыцці мусульман і г.д. Найбольш значныя яго працы — манаграфія " Аравия и Коран ( происхождение и характер Ислама ) " ( 1891 г. ), " Ислам и прогресс " ( 1902 г. ), " Аравия, колыбель

Ислама ", " Коран. Религиозно-законодательный кодекс мусульман ", " Шариат по школе ( мазхаб ) Абу Ханифы ", " Введение в курс исламоведения ".

Рэвалюцыю 1917 года Астравумаў як манархіст не мог прыняць. Ад выкладчыцкай працы ён быў адхілены, хоць часам як вялікі спецыяліст па гісторыі Ісламу, Туркестана ён прыцягваўся ў якасці кансультанта і лектара. Памёр ў сяле Луначарскае паблізу Ташкента.

**Стэлла Губаева.**

**БІДА** ( араб. слова б а д а а , у множным ліку б і д а ), змена, новаувядзенне. Адрозніваюць 5 катэгорый біды : уключаныя ў абавязкі, ( *фард* кіфая ), забароненыя ( *мугаррам* ), рэкамендуемыя ( *мандуб* ), ганебныя ( *макруг* ) і дазволеныя ( *мубаг*, якія не асуджаюцца, але і не падтрымліваюцца ). У навейшыя часы прадметам біды быў дазвол ужывання курэння тытуню і піццё кавы. У пачатку біда уваходзяць і новаувядзенні ў галіне навукі і тэхнікі, якія дазваляюцца нават найбольш рашучымі працаўнікамі біды ( напрыклад, здабыча і перапрацоўка нафты, без якіх было б немагчыма карыстацца сучаснымі сродкамі транспарту ).

**З розных даведнікаў.**

**БЯЛЯЎСКІ** ( Bielawski ) Юзаф ( нар. ў 1910 г. ), польскі усходазнавец. З 1968 г. прафесар Варшаўскага універсітэта. Працы па філасофіі і літаратуры арабскіх краін, Сярэдняй Азіі, Турцыі. Найважнейшыя працы : " Кніга ў ісламскім свеце " ( 1961 г. ), " Гісторыя арабскай літаратуры " ( 1968 г. ), " Новая і сучасная арабская літаратура 19 і 20 стагоддзя " ( 1978 г. , рэдактар і сааўтар ). Пераклаў на польскую мову Кур'ан, склаў каментарый да Кур'ана на 220 старонках ( 1986 г. ).

**ГАШЫМІТЫ** , Х а ш ы м і т ы , нашчадкі Гашыма бен Абд Манафа, прадзеда Мухаммеда ; род, да якога належаў Прарок. Гашыміты адыгралі значную ролю ў лёсе Мухаммеда, а пасля яго смерці — у араба-мусульманскай гісторыі.

Гашыміты сфарміравалі шэраг дынастый мусульманскіх правіцеляў. Так, з 10 ст. да 1924 г. — Гашыміты — *шарыфы* Мекکі, як правіцелі. Прадстаўнікі гэтай дынастыі ( ал - Гашым - Гашыміды ) у навейшы час правілі ў Гіджазе ( Хіджазе ) ( 1908 - 1925 гады ) і Іраку ( 1921 - 1958 гады ), з 1921 г. знаходзяцца ва ўладзе ў Іарданіі ( Іарданскім Гашыміцкім Каралеўстве ), а другая іх галіна — у Марока ( Каралеўства Марока ).

**Э. Шыманьскі**

**ГАСАН** , Х а с а н , мужчынскае мусульманскае імя. Слова арабскае حسن перакладаецца на беларускую мову — добры, прыгожы.

**ГАФІЗ**, Х а ф і з, адзін з эпітэтаў Аллага. З арабскай мовы перакладаецца на беларускую мову — той, хто ахоўвае, аберагае. Слова Гафіз ужываецца ў адносінах да высокапаставленых людзей мусульманскіх краін, а таксама да знаўцаў Кур'ана на памяць і да знаўцаў мусульманскіх паданняў.

**З розных даведнікаў.**

**ГЕРАІ**, татарская дынастыя, якая панавала ў Крымскім ханстве, гл. Г і р э і.

**ГІРЭІ**, Г е р а і, татарская дынастыя, якая панавала ў Крымскім ханстве з сярэдзіны 15 ст. да 1783 г. Першы хан Гаджы-Гірэй захапіў уладу пры падтрымцы вялікага князя ВКЛ Казіміра IV і татарскіх крымскіх князёў з роду Шырын у 1443 г. ( да гэтага часу Крымскае ханства намінальна падпарадкоўвалася хану Залатой ( Вялікай ) Арды Кічы-Мухаммеду ). Паводле польскіх крыніц, Гаджы-Гірэй нарадзіўся ў ВКЛ, у г. Трокі. Яго дзейнасць была накіравана на ўмацаванне ўлады дынастыі ў Крыме і на абарону сваіх уладанняў ад іншых прэтэндэнтаў на трон. Ён меў сяброўскія адносіны з Казімірам IV, даволі мірныя адносіны з Маскоўскай дзяржавай, імкнуўся забяспечыць сваю незалежнасць ад Турцыі. Пасля смерці Гаджы-Гірэя ў выніку працяглай барацьбы ханам стаў яго малодшы сын Менглі-Гірэй, які займаў трон з 1466 г. да 1515 г. ( з двума невялікімі перапынкамі ). З 1475 г. Крымскае ханства трапіла ў васальную залежнасць ад Турцыі. Турэцкія султаны прызначалі ханаў выключна з нашчадкаў Гірэяў. Спачатку адносіны Гірэяў з паўночнымі суседзямі былі прыязнымі, але пасля таго, як Казімір IV заключыў саюз з ханам Залатой ( Вялікай ) Арды Ахметам ( саюз фактычна не быў накіраваны супроць Крыма ), адносіны сапсаваліся і Менглі-Гірэй заключыў ваенна-палітычны саюз з Маскоўскай дзяржавай. З канца 15 ст. пачаліся частыя набегі крымскіх татараў на паўднёвыя ўладанні ВКЛ і Польскага каралеўства, а таксама на Падолле, Валынь, Кіеўскую і Ноўгарад-Северскую землі. Нягледзячы на шэраг перамір'яў з ВКЛ, крымскія татары працягвалі спусташаць беларускія землі. Асобныя татарскія загоны пранікалі на Віцебшчыну і Полаччыну, асаджалі Слуцк і Навагародак, спалілі Менск. Найбольш буйнымі былі набегі ў 1503 г., 1506 г., ( гл. *Клецкая бітва 1506 года* ), 1508 г., 1510 г., 1521 г., 1527 г. За 1497 — 1527 гг. крымскія татары зрабілі 12 набегаў. Асобныя татарскія орды не падпарадкоўваліся Гірэям. Нагайскія, дабруджынскія, даперакопскія татарскія гурты рабілі набегі на Украіну і Польшчу, не пытаючыся на гэта дазволу і згоды ў крымскага хана. У той жа час асобныя атрады падняпроўскіх і запарожскіх казакаў нападалі на турэцкіх і крымскіх паслоў і купцоў, на турэцкія і крымскія землі, што таксама абвастрала адносіны паміж дзяржавамі.

З цягам часу Гірэі зразумелі памылку арыентацыі на Маскоўскую дзяржаву, асабліва пасля таго, калі яна заваявала Казанскае, Астраханскае і Сібірскае ханствы. У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654 - 1657 гадоў

крымскія татары выступалі на баку Польшчы. Пасля ўступлення ў вайну Швецыі крымскі хан Мехмед-Гірэй стварыў пагрозу нападу на Украіну і тым самым стрымаў запарожскіх казакоў ад выступлення супраць Польшчы. У 1657 г. крымскія татары разбілі венгерскія войскі прэтэндэнта на польскі трон сяміградскага князя Ракашы. У час антыфеадальнай вайны 1648 — 1651 гадоў крымскі хан Іслам-Гірэй III спачатку падтрымліваў Б. Хмяльніцкага ( 1648 — 1649 гг. ) і быў пасрэднікам пры заключэнні Збораўскага міру 1649 года, пасля адышоў ад яго. Апошні крымскі хан з дынастыі Гірэяў Шагін-Гірэй пад прымусам расійскага ўрада ў лютым 1783 г. адмовіўся ад трона, а Крымскае ханства было далучана да Расіі.

**Ібрагім Канапацкі.**

**ГОЛАД* У 1932 - 1933 ГАДАХ .** Выклікаиы спадам вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі ва ўмовах *калектывізацыі* , жорсткай нарыхтоўчай палітыкай, значным экспартам за мяжу збожжа і інш. сельскагаспадарчых прадуктаў. Вялікія памеры голад набыў у 1933 г. на Паўночным Каўказе, Ніжняй Волзе, у Цэнтральнай Чарназёмнай вобласці, найбольшых маштабаў дасягнуў на Украіне, дзе паводле савецкай статыстыкі колькасць памерлых складала 2,9 млн. чалавек ( больш за палавіну страт ад голаду ў СССР ). Даследчыкі вызначаюць колькасць ахвяр на Украіне не менш за 4 - 4,5 млн. чалавек, а з улікам рэзкага змяншэння нараджальнасці ў гэты час — каля 6 млн.

На Беларусі голад ахапіў пераважна паўднёвы раён. Гэтаму садзейнічала палітыка ЦК КП(б)Б па выцягванні сельскагаспадарчай прадукцыі з вёскі. 2 лютага 1933 года сакратарыят ЦК КП(б)Б заслухаў пытанне аб пасылцы ў найбольш адсталыя раёны рэспублікі спецыяльных брыгад па праверцы наступлення памольнага збору. Было вырашана накіраваць брыгады з 10 чалавек у 9 раёнаў, у тым ліку ў Бабруйскі, Віцебскі, Лагойскі, Сіроцінскі і інш. Пры ЦК КП(б)Б створана таксама спецыяльная тройка, якая сачыла за ходам нарыхтовак сельскагаспадарчай прадукцыі па раёнах. У выніку з калгасаў і саўгасаў узялі ўсё, што можна было ўзяць. Вясной 1933 г. не мелі збожжа 12 раёнаў Беларусі ( Быхаўскі, Лёзненскі, Менскі, Рэчыцкі, Хойніцкі і інш. ), а ў некаторых запасы былі мізэрныя, напрыклад у Бялыніцкім — 3 ц, Асіповіцкім — 7 ц, Рагачоўскім — 20 ц. Галадалі і калгаснікі, і аднаасобнікі. Да сярэдзіны чэрвеня 1933 г. ў Ельскім раёне памерлі ад голаду 70 чалавек, у Нараўлянскім — 60, апухла 230 чалавек. У Гомельскім раёне ў сярэдзіне ліпеня 1933 г. ў 45 калгасах з 93 адсутнічалі прадукты харчавання, ад голаду памерлі 9 чалавек. Голад адзначаўся і ў цэнтральнай частцы Беларусі ( Пухавіцкі і Менскі раёны ). У цяжкім становішчы знаходзіліся саўгасы, дзе норма выдачы хлеба была скарочана, а ў 15 гаспадарках з-за адсутнасці хлеба выдача пайкоў спынілася. Жыхарам ахопленых голадам мясцовасцей аказвалася дапамога, у першую чаргу мукой. Са зборам ураджаю 1933 г. голад паступова быў пераадолены.

**Міхась Касцюк.**

**ГРАМНІЦЫ**, Стрэчанне Гасподняе, дванадзесятае свята праваслаўнай царквы і свята ў католікаў. Адзначаецца 2 лютага ( 15 лютага па старым стылі ). У Беларускім праваслаўным календары, надрукаваным у Менску ў 1993 г., пра гэта хрысціянскае свята сказана :

" У час Стрэчання Царква ўспамінае падзею зямнога жыцця Госпада нашага Ісуса Хрыста, якая стала своеасаблівай повяззю канца Старога Запавету і маючага адкрыцца Новага Запавету.

У законе Майсеевым прадпісвалася прысвячаць Богу ўсякага першынца мужчынскага полу. Таму праз сорак дзён Свайго Нараджэння Богадзіця Ісус быў прынесены ў Ерусалімскі храм, дзе Маці Божая з Іосіфам прынеслі ва ўдзячную і ачышчальную ахвяру двух галубоў. І хоць Прасвятая, якая нарадзіла Дзіця ад Духа Святога, не мела патрэбы ў ачышчэнні, аднак, будучы глыбока пакорлівай, Яна выканала прадпісанне закону.

На той час у Ерусаліме жыў праведны старац Сімяон, якому было прадказана Духам Святым, што ён не памрэ, пакуль не ўбачыць Хрыста Збавіцеля. Як паведамляюць старажытныя гісторыкі, задоўга да Нараджэння Хрыстова егіпецкі цар Пталамей II Філадэльф пажадаў дапоўніць знакамітую александрыйскую бібліятэку тэкстамі Старога Запавету. Для перакладу іх на грэцкую мову ( са старажытнагабрэйскай ) ён запрасіў з Ерусаліма 72 вучоных-кніжнікаў. Сярод іх быў і праведны Сімяон, якому давялося перакладаць кнігу прарока Ісаі. Прачытаўшы ў арыгінале словы " Вось, Дзева ў чрэве прыме і народзіць Сына " ( Кніга прарока Ісаі, глава 7, верш 14 ), ён вырашыў, што слова " Дзева " тут ужыта памылкова замест слова " жанчына ", і хацеў выправіць тэкст. У гэты момант перад ім з'явіўся анёл і ўтрымаў яго руку са словамі : " Май веру напісаным словам, ты сам пераканаешся, што яны споўняцца, бо не будзе тваёй смерці, пакуль не ўбачыш Хрыста Госпада, які народзіцца ад Чыстай і Прачыстай Дзевы ". З таго дня праведны Сімяон і стаў чакаць прышэсця Хрыста.

І вось у той самы дзень, калі Прачыстая Дзева Марыя і Іосіф павінны былі здзейсніць неабходны абрад, праведны Сімяон па намаўленні Духа Святога прыйшоў у Ерусалімскі храм і сустрэў ( " стрэчанне — азначае сустрэча ) іх на ганку. Узяўшы Богадзіця на рукі ( за што і атрымаў празванне Богапрыімца ) , старац Сімяон сказаў прарочыя словы : " Цяпер адпусці ( з гэтага жыцця ) раба твайго, Уладар, па слову твайму , з мірам ( радасным духам ), бо бачылі вочы мае выратаванне тваё, якое ты падрыхтаваў перад тварам усіх народаў, святло і асвету язычнікаў і славу народа твайго Ізраіля ". Прасвятой жа Дзеве праведны Сімяон сказаў пра Дзіця : " Вось з-за Яго будуць спрачацца ў народзе — адны ўратуюцца, другія загінуць. А Табе Самой зброя пройдзе душу ". Гэта азначала, што Божая Маці будзе перажываць вялікае гора за Свайго Сына, калі Ён будзе пакутаваць.

Тут, у храме, знаходзілася набожная ўдава Ганна-прарочыца, васьмідзесяці чатырох гадоў, якая служыла Богу постам і малітваю ўдзень і ўночы. Яна таксама пазнала Збавіцеля і, наблізіўшыся, славіла Госпада і гаварыла пра Яго ўсім у Ерусаліме, хто чакаў прышэсця на зямлю Хрыста.

**Так апошнім праведнікам адыходзячага Старога Запавету — праведнаму Сімяону і Ганне-прарочыцы было наканавана сустрэць у храме Богадзіця Ісуса — Носьбіта Новага Запавету.**

**Вызначальнасцю гэтага свята з'яўляецца асаблівы чын асвячэння стрэчанскіх свечак, якія называюцца ў народзе грамнічнымі ".**



**У 3-м томе Энцыклапедыі Гісторыі Беларусі ( Мн. , 1996 г. ) пра гэта хрысціянскае свята сказана наступнае :**

**ГРАМНІЦЫ ,** С т р э ч а н н е , зімовае свята народнага календара. Адзначаецца 2 ( 15 ) лютага. Назва, магчыма, паходзіць ад язычніцкага бога Грамаўніка ( Перуна ) — бога веснавых навальніц і дажджоў, якія спрыялі расліннасці. Другая назва — Стрэчанне — тлумачыцца як сустрэча зімы з летам : " Прыйдуць грамніцы — скідай рукавіцы ". Па стане надвор'я ў гэты дзень меркавалі, якое надвор'е будзе вясной і летам. Калі на Грамніцы вялікі мароз, лічылася, што снег праляжыць нядоўга, а лета будзе пагоднае ; мяцеліца на Грамніцы прадказвала доўгую вясну ; пацяпленне сведчыла пра ранюю вясну ( " калі на Грамніцы певень нап'ецца вадзіцы, то на Юр'я вол пад'есць травіцы " ) , аднак лета чакалася непагоднае, з невялікім ураджаем. Асноўным рытуалам на Грамніцы было асвячэнне ў царкве свечак. Грамнічныя свечкі шанавалі, іх запальвалі ў навальніцу, каб маланка не спаліла хату, іх агнём падсмальвалі валасы жаніху і нявесце на пасадзе, давалі цяжка хвораму перад смерцю, падвешвалі ў хляве ці стайні, каб нячыстая сіла не шкодзіла свойскай жывёле. Пасля грамніц сяляне пачынаў рыхтавацца да веснавых работ .

**Уладзімір Васілевіч.**

**ГРЫЦКЕВІЧ** Анатоль Пятровіч ( нар. 31.01 .1929 г., Менск ), беларускі гісторык, доктар гістарычных навук ( 1986 г. ), прафесар (1987 г.) Скончыў Менскі дзяржаўны медыцынскі інстытут ( 1950 г. ) і дзяржаўны педагагічны інстытут замежных моў ( 1955 г. ), БДУ ( 1958 г. ). Працаваў урачом. З 1959 г. ў Інстытуце гісторыі АН БССР, з 1975 г. загадчык кафедры Менскага інстытута культуры ( з 1993 г. Беларускага універсітэта культуры ). Даследуе гісторыю Беларусі перыяду феадалізму, прыватнаўладальніцкія гарады ( вызначыў іх колькасць і тыпы, узровень эканамічнага развіцця, сістэму кіравання і самакіравання, ролю іх як вайсковай апоры, сацыяльна-эканамічнага становішча мяшчанства ), гістарыяграфію. Аўтар публікацый па гісторыі шляхецкага саслоўя, генеалогіі шляхты і вызбраенцаў. Вывучае рэлігійныя праблемы ў ВКЛ, становішча праваслаўнай царквы, уніяцтва. Даследуе гісторыю ваенных і дыпламатычных узаемаадносін Літвы і Савецкай Расіі, літоўска-беларускіх дачыненняў у 1919 - 1920 гадах, гісторыю літоўскіх ( беларускіх ) татараў. Аўтар гістарычных нарысаў пра Слуцк, даследаванняў пра Слуцкае паўстанне 1920 года.

**Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта.**

**ГУЛАГ**, Галоўнае ўпраўленне папраўча-працоўных лагераў і працоўных пасяленняў НКУС СССР, сістэма канцэнтрацыйных лагераў і спецыяльных пасяленняў, што існавала ў СССР у 1920 — 1950-я гады. Бярэ пачатак з палітыкі " чырвонага тэрору " часоў грамадзянскай вайны. Паводле пастановы Прэзідыума ВЦВК ад 11.04. 1919 г. " Аб лагерах прымусовых работ " лагеры ствараліся ва ўсіх губернскіх гарадах. Са жніўня 1920 г. такі лагер існаваў у Менску. З 1929 г. вязні, асуджаныя да 3 гадоў пазбаўлення волі, адбывалі пакаранне ў сваей рэспубліцы, астатнія накіроўваліся ў лагеры АДПУ СССР, галоўным чынам у Расію. Першымі палітычнымі турмамі па прапанове Ф. Дзяржынскага сталі Паўночныя лагеры асобага прызначэння, пазней названыя Салавецкімі ( руская абрэвіятура СЛОН ), якія дзейнічалі ў 1923 — 1939 гады. 5.08. 1929 г. ў г. Сольвычагодск Архангельскай вобл. было створана Упраўленне Паўночных лагераў асобага прызначэння АДПУ, куды ўваходзіла 5 лагераў ( 33511 зняволеных ). Галоўнай задачай упраўлення было асваенне прыродных багаццяў паўночнага краю. У 1930 г. АДПУ СССР сфарміравала 6 упраўленняў папраўча-працоўных лагераў ( ППЛ ) : Паўночнага Каўказа, раёнаў Белага мора і Карэліі, Вышняга Валачка, Сібіры, Далёкага Усходу, Казахстана. 10.07.1934 г. створаны саюзна-рэспубліканскі Наркамат унутраных спраў ( НКУС ), у склад якога ўключана АДПУ ( пазней перайменаванага ў Галоўнае ўпраўленне дзяржаўнай бяспекі — ГУБД ). Існавала зладжаная сістэма судовых і пазасудовых органаў ( ваенныя калегіі, трыбуналы, суды, а таксама судовыя калегіі АДПУ, Асобыя нарады, "двойкі", "тройкі" і інш. Органы НКУС ажыццяўлялі кантроль за ўсімі без выключэння сферамі савецкага грамадства. У падпарадкаванне ГУЛАГа НКУС ( з 1946 г. МУС ) СССР перадаваліся ўсе лагеры, што на той час існавалі і былі ў распараджэнні АДПУ СССР, НКУС РСФСР і Наркамюст РСФСР і інш. саюзных рэспублік, а таксама турмы. Начальнікам ГУЛАГа быў прызначаны М. Берман. У канцы 1930-х — пачатку 1940-х гадоў створана каля 15 спецыялізаваных Галоўных упраўленняў : Дальбуд, Гідрабуд, шашэйных дарог, чыгуначнага будаўніцтва, горнай і металургічнай прамысловасці і інш., якія мелі свае лагеры на месцах. Тэрыторыя СССР умоўна была разбіта на 8 зон дыслакацыі тэрытарыяльных упраўленняў за падначаленымі ім ППЛ, турмамі, этапамі, перасыльнымі пунктамі. Існавалі лагеры : прымусовых работ, папраўча-працоўныя, асобага прызначэння, катаржныя, спецыяльныя, будаўнічыя, лагерныя НДІ, а таксама папраўча-працоўныя, выхаваўча-працоўныя, дзіцячыя і інш. калоніі. Уся краіна, у тым ліку Беларусь, была пакрыта густой сеткай турмаў і следчых ізалятараў НКУС. Яны дыслацыраваліся ва ўсіх абласных цэнтрах і сталіцах саюзных і аўтаномных рэспублік. У 1930-я гады на Беларусі было больш як 15 турмаў і ізалятараў спецыяльнага прызначэння. Перасыльныя турмы і лагеры ў Менску, Віцебску, Слуцку, Гомелі давалі магчымасць трымаць адначасова не менш як 15 — 20 тыс. чалавек. Тэрмін знаходжання ў перасыльных турмах і лагерах залежаў ад аператыўнасці адміністрацыі і мог працягвацца ад некалькіх гадзін да некалькіх месяцаў, у сярэднім 12 — 14 сутак. У час масавых рэпрэсій ,

асабліва ў 1937 - 1938 гадах, органамі НКУС БССР іншы раз у суткі арыштоўвалася да некалькіх сотняў чалавек, таму ўзнікла неабходнасць паскоранай перасылкі асуджаных і падследных да месцаў адбывання пакарання. З перасылачных турмаў і лагераў, размешчаных на Беларусі, этапіраванне ішло па наступных асноўных маршрутах : Віцебск — Ленінград — Петразаводск ; Віцебск — Волагда — Архангельск ; Менск — Віцебск — Волагда — Котлас ; Менск — Масква — Уладзімір — Кіраў — Сыктыўкар ; Магілёў — Бранск — Варонеж — Куйбышаў ; Гомель — Чарнігаў — Запарожжа ; Менск — Масква — Казань — Свярдлоўск — Варкута ; Менск — Масква — Омск — Новасібірск — Краснаярск — Нарыльск ; Менск — Масква — Чыта — Якуцк — Магадан і інш. У час масавых акцый на Беларусі эшалоны фарміраваліся пераважна ў Менску ( да 20 вагонаў, больш за 1 тыс. зняволеных ). Цягнікі ішлі па маршрутах без графіка, а шлях ад Менска на Далёкі Усход, у прыватнасці, займаў да 2 месяцаў. Зняволеных не выпускалі з вагонаў, ежу выдавалі раз у суткі ці радзей сухім пайком. Некалькі дзесяткаў тысяч раскулачаных ураджэнцаў Беларусі апынуліся ў 1930 — 1940-я гады на Крайняй Поўначы, Урале, Сібіры, Далёкім Усходзе і ў іншых раёнах СССР. Паводле даных ведамаснай статыстыкі АДПУ — НКУС , усяго па краіне ў 1930 — 1931 гадах раскулачана 569,3 тысяч гаспадарак, з іх у аддаленыя раёны адпраўлена 381 тыс. сем'яў, у тым ліку з Беларусі больш як 15 тысяч. Рэпрэсіўныя акцыі працягваліся і пасля завяршэння ў асноўным калектывізацыі. 20.04. 1933 г. СНК СССР прыняў пастанову " Аб арганізацыі працоўных пасяленняў ". Меркавалася перасяляць тых, хто абвінавачваўся за зрыў і сабатаж збожжанарыхтовак і іншых кампаній, гарадскіх жыхароў, якія адмовіліся ў сувязі з пашпартызацыяй 1932 — 1933 гадоў выязджаць з буйных гарадоў, кулакоў, што ўцяклі з вёсак, а таксама асуджаных органамі АДПУ і судамі на тэрмін ад 3 да 5 гадоў уключна. Асабліва папоўніліся ГУЛАГі пасля далучэння Заходняй Беларусі. У прыватнасці, з 1603 ураджэнцаў Вілейскай вобл., асуджаных Асобай нарадай НКУС СССР на 25.12. 1940 г. , 60 % этапіравана ў КотЛАГ , каля 15 % у СібЛАГ, не менш за 20 % дастаўлена ў АрхангелЛАГ. Значны кантынгент ГУЛАГа складалі палітычныя вязні. Паводле справаздачы НКУС СССР удзельная вага вязняў па контррэвалюцыйных справах у сістэме ГУЛАГа складала : у 1934 г. — 26,5 % , у 1937 г. — 12,8 % , у 1940 г. — 33,1 % , у 1943 г. — 35,6 % , у 1947 г. — 54,3 %; у 1930 — 1940-я гады ад 12 да 54 % вязняў ГУЛАГа адбывалі зняволенне па палітычных матывах. Органы НКУС вялі дакладную статыстыку і па нацыянальным складзе. На 1.01. 1939 г. сярод 1млн. 327 тыс. 195 зняволеных было 44785 беларусаў.

Паводле афіцыйнай статыстыкі, на 1.03. 1940 г. ГУЛАГ складаўся з 53 лагераў, 425 папраўча-працоўных калоній ( у тым ліку 170 прамысловых 83 сельскагаспадарчыя і 172 " контрагенцкія ", гэта значыць зняволеныя працавалі на будоўлях і ў гаспадарках іншых ведамстваў ) , аб'ядноўваліся абласнымі, краявымі, рэспубліканскімі аддзеламі папраўча-працоўных калоній, і 50 калоній для непаўналетніх, гэта значыць для

дзяцей "ворагаў народа ". Агульны кантынгент зняволеных у лагерах і папраўча-працоўных калоніях ГУЛАГа, паводле звестак так званага " цэнтралізаванага ўліку ", на 1.03. 1940 г. складаў 1668200 чалавек, без уліку тых, што ўтрымліваліся ў шматлікіх турмах, ізалятарах, знаходзіліся на этапах і проста былі фізічна знішчаны і нідзе не зафіксаваны. У сувязі з прыняццем у 1940 г. надзвычайных законаў сістэма ГУЛАГа была пашырана і колькасць зняволеных на 22.06.1941 г. складала 2,3 млн. чалавек. Паводле справаздач НКУС СССР за 1934 — 1937 гады ў лагерах штогод намірала ад 20 да 28 тыс. чалавек. У даваенныя і ваенныя гады смяротнасць павялічылася ; у 1938 г. загінула больш як 90 тыс., у 1941 г. — больш як 100 тыс. У 1943 г. паводле афіцыйных звестак загінула 166978 чалавек. У наступныя гады ( да 1947 г. ўключна ) смяротнасць складала ад 18 да 60 тыс. штогод.

Пасля заканчэння 2-й сусветнай вайны ГУЛАГ папоўніўся тымі, хто супрацоўнічаў з акупантамі, а таксама рэпатрыянтамі, былымі ваеннапалоннымі і інш. На 1.10. 1953 г. ў папраўча-працоўных калоніях і лагерах ГУЛАГа Міністэрства юстыцыі СССР было 2235296 чалавек, з 1 сакавіка па 1 кастрычніка 1953 г. паступіў 165961 нанава асуджаны. Па амністыі, а таксама ў сувязі з заканчэннем тэрміну пакарання вызвалена 1342979 чалавек. Фактычна ў лагерах і калоніях на 1.10. 1953 г. засталося 1058278 зняволеных. Аналіз усіх відаў крыніц інфармацыі дае магчымасць меркаваць, што праз ГУЛАГ у 1920 - 1950-я гады прайшло каля 10 млн чалавек, у тым ліку каля 600 тыс. ураджэнцаў Беларусі. Сіламі вязняў ГУЛАГа пабудаваны тысячы кіламетраў чыгунак Котлас — Варкута, Караганда — Балхаш, даваеннага БАМА ( участак Тайшэт — Лена ), ветка на Салехард, чыгункі ўздоўж фінскай і іранскай граніц, чыгунка на Сахаліне ; Куйбышаўская, Усць-Каменагорская, Ніжнетуломская, Камская электрастанцыі ; гарады Нарыльск, Дудзінка, Северадзвінск, Дубны ; Балхашскі медзеплавільны , Салікамскі папяровы, Беразнікоўскі хімічны камбінаты ; Маскоўскі дзяржаўны універсітэт імя М. В. Ламаносава, Беламорска-Балтыйскі канал, Волгаканал, Волга-Данскі суднаходны канал, аўтамагістраль Масква — Менск і інш.

**Уладзімір Адамушка, Ігар Кузняцоў.**

**ДУКАТ** ( ад лацінскага **dukatus** герцагства ), агульнаеўрапейская назва залатой манеты, якую ў 1284 г. пачала чаканіць Венецыя. У нумізматыцы лічыцца, што яна паходзіць ад апошняга ў легендзе на рэверсе манеты слова ( dukatus ), хоць яно сустракалася на буйных сярэбраных манетах Італіі яшчэ ў 12 ст. На ўзор венецыянскага дуката чаканілі залатыя манеты ў Венгрыі і Чэхіі ( каля 1325 — 1326 гг. ), Германіі ( сярэдзіна 14 ст. ), Польшчы ( 1320 г., 1528 г. ), ВКЛ ( 1562 г. ). На тэрыторыі Беларусі ў 14 — 16 ст. найбольш пашыраны венгерскі дукат, вядомы ў пісьмовых крыніцах пад назвамі " золотой ", з пачатку 16 ст. — червоный ( черленый, червлёный, чирвоный ) золотой ", " золотой в золотое", "золотой вгорский ( угорский)". У канцы 16 — 18 ст. абарачаўся

дукат Паўднёвых Нідэрландаў і Германіі. У час археалагічных раскопак выяўлены дукат галандскі ў Мсціславе і " угорскі " ў Крычаве.

Ірына Масько.

**ДУМІН** Станіслаў Уладзіміравіч ( нарадзіўся 7.10. 1952 г. , Масква ), гісторык. Кандыдат гістарычных навук ( 1981 г. ). Скончыў Маскоўскі універсітэт ( 1975 г. ), вучань М. М. Улашчыка. З 1980 г. навуковы супрацоўнік Дзяржаўнага гістарычнага музея ў Маскве. Даследуе гісторыю ВКЛ : ролю славянскага элемента ва ўтварэнні і развіцці дзяржавы ( развівае ідэю пра ВКЛ як " другую Русь " ), гісторыю беларускіх татараў як адной з катэгорый ваеннаслужылага насельніцтва ВКЛ, генеалогію шляхты, гісторыю школы і педагогікі. Старшыня Гісторыка-радаводнага таварыства ў Маскве.

*** З Энцыклапедыі Гісторыі Беларусі, т. 3, Мн. , 1996 г.**

**ДЫВАН** , тэкстыльны выраб, звычайна з шматколерным узорам, прызначаны пераважна для ўпрыгожання і ўцяплення жылля. На Беларусі дыванаткацтва мае шматвяковыя традыцыі, нацыянальны характар узораў, кампазіцыі, колераў, тэхнікі. Побач з дэкаратыўнымі посцілкамі ткалі народныя дываны, якімі ўпрыгожвалі жылыя памяшканні і інтэр'еры храмаў. Народныя бязворсавыя ткалі ў тэхніцы кіліма, закладнiня, 2-асноўнай, тыпу габелена ( напрыклад, Гродзенскія падвойныя дываны з 19 ст. ). У розных раёнах яны мелі сваю традыцыйную расфарбоўку і арнамент ( напрыклад, Гродзенскае і Слонімскае ткацтва ). Ткалі дываны з геаметрычным арнаментам, у дэкоры трапляліся выявы жывёл, чалавека, раслін. У майстэрнях гарадоў і мястэчках на заказ ткалі так званыя дворскія бязворсавыя дываны, блізкія па кампазіцыі да народных вырабаў, а часта па жаданні заказчыка пераймалі заходнееўрапейскія стылі і матывы дэкору. У 18 - 1-й палавіне 19 ст. на мануфактурах у Нясвіжы, Карэлічах, Міры, Гродне, Слоніме выраблялі і ворсавыя дываны, якія вызначаліся высокай тэхнікай ткацтва і прыгажосцю. Ворсавыя дываны машыннага вырабу ствараюцца на дывановых камбінатах у Брэсце і Віцебску. Галоўны кірунак — стварэнне дываноў з беларускім арнаментам, якія адпавядаюць сучаснаму інтэр'еру па стылявым і колеравым вырашэнні. Сучасныя народныя майстры вырабляюць і бязворсавыя дываны. Маляваныя дываны вядомы па ўсёй Беларусі з 19 ст. , развіліся на аснове багатых традыцый узорыстых тканых дываноў і посцілак. Кампазіцыя і малюнак такіх дываноў аналагічныя творам наіўна-рэалістычнага кірунку.

Дз. С. Трызна.

Паводле даследаванняў філолагаў, слова "дыван" арабскага паходжання, яно прыйшло ў арабскія краіны з Персіі, і спачатку азначала справаздачу або рэестр, напрыклад спіс усіх плямён арабаў-мусульман. У пазнейшыя часы гэтаму слову надавалася значэнне ведамства, міністэрства. У арабскай літаратуры слова дыван абазначала

зборнік паэзіі ці фрагменты вершаў аднаго паэта або паэтаў, якія належаць да аднаго племя, паэтаў, якія пішуць на адну тэму. Паэзія ўкладаецца ў дыван у алфавітным парадку ўдзельнікаў зборніка. У цюркскіх краінах арабскім словам дыван называлі вялікі пакой, упрыгожаны дыванамі, а таксама тапчаны, засланыя прыгожымі посцілкамі — дыванамі. Султан, хан склікаў у такі пакой сваіх міністраў, вырашаў дзяржаўныя пытанні ці проста бавіў час, слухаў дэкламацыю вершаў. Упрыгожаны посцілкамі тапчан, больш шырокі за звычайны, сталі называць дыванам, таксама як і вечар адпачынку з удзелам паэтаў і артыстаў-чытальнікаў.

**ДЫРХЕМ** ( арабскае **dircham** ад грэчаскага **drachma** ) , сярэбраная манета мусульманскага Усходу.

1. Манета Арабскага халіфата. Упершыню эмітавана паміж 695 — 696 гадамі. У сучаснай нумізматыцы называецца куфіцкім — па найменні арнаментальнага пісьма, што ўзнікла ў канцы 7 ст. ў г. Ал-Куфа ( Ірак ), якім выконваліся легенды на манетах халіфата. На Русі дырхемы сістэматычна з'яўляліся з пачатку 9 ст. і сталі асноўным сродкам грашовага абарачэння да канца 980-х гадоў. Старажытнаруская грашовая сістэма складалася з цэлых ( куна, нагата ) і фрагментаваных ( разана, вевярыца ) экземпляраў дырхема, пра што сведчаць скарбы 9 — 10 ст. на Беларусі. Абарачэнне куфіцкага дынара ў Кіеўскай Русі працягвалася да 12 ст.

2. Манета Залатой Арды. Абмежавана абарачалася на поўдні Беларусі ( Брэсцкая і Гомельская вобл. ) у 14 — 15 ст.

**Ірына Масько.**

**ДЭПАРТАЦЫЯ** ( лацінскае **deportatio** выгнанне, высылка ), у праве тэрмін для абазначэння асобых відаў ссылкі ; у 1920 — 1940-я гады незаконнае ( без следства і суда ) гвалтоўнае высяленне з родных мясцін у Сібір, Казахстан, раёны Крайняй Поўначы, на Урал і ў іншыя аддаленыя рэгіёны былога СССР вялікай колькасці грамадзян, якія ў класавых адносінах былі прызнаны ворагамі савецкай улады. У 1930-я гады ў час правядзення ў СССР суцэльнай *калектывізацыі* дэпартацыю зведалі сотні тысяч сялянскіх гаспадарак, што лічыліся кулацкімі. У шэрагу раёнаў краіны было раскулачана і выслана ў глыб СССР каля 10 — 15 % гаспадарак, хоць да Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г. і ў першыя гады пасля яе афіцыйна лічыліся заможнымі ( кулацкімі ) не больш як 5 % гаспадарак ( прыкладна 1250 тыс. з 25 млн. ). Дакладную лічбу дэпартаваных у той час сялян у цэлым па краіне афіцыйная савецкая статыстыка ніколі не паведамляла. Вядома, што ў 1930 г. на Беларусі было "раскулачана " і выселена каля 16 тыс. сялянскіх гаспадарак ( гл. *Раскулачванне* ). Пасля далучэння Заходняй Беларусі да БССР ( верасень 1939 г. ) у заходніх абласцях рэспублікі пачалася масавая дэпартацыя сельскага і гарадскога насельніцтва ( пераважна польскага ) , якая, паводле архіўных дакументаў, праводзілася ў 4 этапы.

**1-ы этап.** Паводле пастановы Саўнаркома СССР ад 5.12. 1939 г. з 5 заходніх абласцей Беларусі падлягала дэпартацыі ў аддаленыя раёны Савецкага Саюза 9810 гаспадарак ( 52892 чалавек ) польскіх *асаднікаў* і служачых лясной аховы. Правядзенне гэтай аперацыі ўскладалася на органы і войскі НКУС БССР , пагранічныя часці, мясцовы партыйныя і савецкі актыў. 10 — 13.02. 1940 г. фактычна было рэпрэсіраваны і пагружаны ў эшалоны 9584 гаспадаркі ( 50732 чалавек ). Асобныя члены сем'яў з 226 гаспадарак ( 2160 чалавек ) у сувязі з хваробай, адсутнасцю дома ў час правядзення аперацыі і па іншых прычынах былі ўзяты пад нагляд, пазней сабраны ў спецыяльных ізалятарах і адпраўлены да месцаў высылкі іх сем'яў. Падобная аперацыя была праведзена ў заходніх абласцях УССР. Усяго на красавік 1941 г. ў 115 спецпасяленнях ва ўсходніх і паўночных раёнах СССР знаходзілася 139596 чалавек " перасеЛеных " асаднікаў з Беларусі і Украіны. У дакументах ГУЛАГа яны лічыліся спецперасяленцамі.

**2 этап.** Праведзены органамі НКУС БССР 13.04. 1940 г. ў адносінах да членаў сем'яў ваеннапалонных, якія знаходзіліся ў лагерах і турмах, былых афіцэраў польскай арміі, што ў розны час уцяклі за мяжу або хаваліся і знаходзіліся ў вышуку, паліцэйскіх, турэмшчыкаў, жандармаў, разведчыкаў, былых памешчыкаў, фабрыкантаў, дзяржаўных служачых, удзельнікаў " контррэвалюцыйных і шпіёнскіх арганізацый ". З 8639 сем'яў ( 29699 чалавек ), якія падлягалі дэпартацыі, было рэпрэсіравана і адпраўлена на ўсход 8055 сем'яў ( 26777 чалавек ).

**3 этап.** Праведзены органамі НКУС БССР у канцы чэрвеня 1940 г. Дэпартацыі падлягалі бежанцы з акупіраванай Германіяй тэрыторыі Польшчы, якія шукалі паратунку ад гітлераўскага тэрору на суседніх беларускіх землях. Паводле няпоўных даных, іх колькасць перавышала 100 тыс. чалавек. Паводле сацыяльнага складу ў ліку іх былі купцы, фабрыканты, рабочыя, служачыя, настаўнікі, урачы, гімназісты і студэнты, паводле нацыянальнага складу — палякі, беларусы, яўрэі, рускія, украінцы. Многія бежанцы не мелі работы, жылля, расчараваліся ў савецкай рэчаіснасці і пажадалі вярнуцца ў Германію. Аднак нямецкія ўлады адмовіліся іх прымаць. Толькі нямногім удалося перайсці граніцу і вярнуцца на Захад. 29.06 1940 г. савецкімі рэпрэсіўнымі органамі было пагружана ў вагоны і адпраўлена на ўсход 7224 сям'і ( 22879 чалавек ) бежанцаў.

**4 этап.** У ноч на 20.06.1941 г. органамі НКУС БССР праведзена аперацыя па арышце ўдзельнікаў розных польскіх, беларускіх, украінскіх, яўрэйскіх "контррэвалюцыйных арганізацый і фарміраванняў", чыноўнікаў былой Польскай дзяржавы і высяленні іх сем'яў. Усяго было рэпрэсіравана 24412 чалавек і дэпартавана 22353 чалавек. Арышты і дэпартацыя " ненадзейных " у палітычных адносінах элементаў у заходніх абласцях Беларусі працягваліся да самага пачатку нямецка-фашысцкай акупацыі. З кастрычніка 1939 г. да 22.06. 1941 г. органамі НКУС - НКДБ БССР у заходніх абласцях Беларусі было рэпрэсіравана больш за 135 тыс. чалавек ( пераважна палякаў ), з іх выслана ў глыб СССР больш за 120 тысяч. У час Вялікай Айчыннай вайны па волі І. В. Сталіна былі дэпарта-

ваны некаторыя народы ( крымскія татары, калмыкі, карачаеўцы, інгушы, немцы Паволжа, чэчэнцы і інш. ). У 2-й пал. 1950 - 1980-х гадах большасць бязвінных ахвяр сталінізму рэабілітаваны, а выселеныя народы вернуты на сваю радзіму. Рэабілітацыю, якая працягваецца на Беларусі і ў наш час, ажыццяўляюць спецыяльныя камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь і мясцовых Саветаў, органы КДБ, МУС, суды і пракуратура.

**Аляксандр Хацкевіч.**

**" ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ "**, патрыятычны заклік-дэвіз, народжаны беларускім вызваленча-адраджэнскай ідэяй і практыкай. Скіраваны на абуджэнне нацыянальна-грамадзянскіх пачуццяў, кансалідацыю народа Беларусі ў абарону свабоды, незалежнасці сваёй краіны, роднай мовы, усёй нацыянальнай культуры. Бярэ вытокі ад паўстанцкага руху 1863 — 1864 гадоў, дзейнасці яго кіраўніка К. Каліноўскага, нелегальнага пароля паўстанцаў " Люблю Беларусь. — Так узаемна ". Канчатковую ідэйна-мастацкую лапідарную завершанасць набывае ў вершы Я. Купалы " Гэта крык, што жыве Беларусь " ( 1905 — 1907 ), вар'іруецца і замацоўваецца ў паэтычных і публіцыстычных творах многіх іншых пісьменнікаў-нашаніўцаў, ідэолагаў нацыянальнага руху . У рэдакцыйнай нататцы " Нашай нівы " ( 1911, № 9 — 10 ) сцвярджалася : " Расце беларускі нацыянальны рух, будзяцца да новага, уласнага жыцця забытыя усімі ўбогія беларускія вёскі, будзяцца і пачынаюць пазнаваць сваё нацыянальнае імя нашы мястэчкі і гарады. Будзіцца аграмадны крывіцкі абшар родных гоняў, лугоў і лясоў, і ў песнях народных песняроў грымне, што " жыве Беларусь ! " Гэты ж заклік-дэвіз у мадыфікаваным , разгорнутым выглядзе — " Няхай жыве вольная Беларусь ! " — прагучаў на Усебеларускім з'ездзе 1917 года, атрымаў пашырэнне ў грамадска-палітычным жыцці БНР, потым у саветызаванай форме ў БССР ( " Няхай жыве Савецкая Беларусь !" і інш. ). У час 2-й сусветнай вайны і акупацыі беларускіх зямель нямецкімі войскамі заклік " Жыве Беларусь ! " широка выкарыстоўваўся калабарацыйным друкам, арганізацыямі Беларускай краёвай абароны, Саюза беларускай моладзі ( выдаваўся яго часопіс " Жыве Беларусь ! " ) і інш. ; стаў прыкметным, неад'емным элементам палітычнага і духоўнага жыцця беларускай пасляваеннай эміграцыі на Захадзе. На Беларусі аднаўленне, грамадская легітымнасць гэтага выразу абумоўлены развіццём руху Беларускага народнага фронту " Адраджэнне ", іншых грамадскіх арганізацый . Пад дэвізам " Жыве Беларусь ! " выходзіць " Народная газета " — орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

**Аляксей Каўка.**

**ЖУПАН , 1.** Доўгае, з вузкімі рукавамі, абціслае спераду, з фалдамі ззаду, падпяразанае паяском верхняе адзенне беларусаў, палякаў, габрэяў, татараў ( паводле меркавання Шыпавай, назва гэтай вопраткі цюркскага паходжання ), літоўцаў, рускіх. У 16 — 18 ст. жупан — вопратка магнатаў, шляхты, гарадской знаці , у 18 — 19 ст. — рамеснікаў, мяшчан, заможных

сялян. Каштоўныя жупаны шылі з сукна ярка-чырвонага ( кармазінавага ) колеру высакаякаснага гатунку, за што такую шляхту называлі " кармазінавай ". Шляхта сярэдняга дастатку насіла жупаны з нефарбаванага дамотканага сукна шэрага колеру ( адсюль назва " шарачковая шляхта " ). У Панямонні і Цэнтральнай Беларусі жупаны былі з ільняной тканіны або з натуральнай воўны. Спераду жупан зашпільвалі на часта прышытыя гузікі. Каўнер да 17 ст. быў прыўзняты ззаду, пазней — нізкі па ўсёй шыі.

**2.** Назва прадстаўнікоў улады, якім даравалі ганаровую вопратку — жупан, пазней — шляхты, заможных людзей, што насілі жупан. Упершыню ўпамінаецца ў літаратурных крыніцах у 12 — 13 ст. Многія славянскія народы жупанамі называлі суддзяў, солтысаў, старостаў, войтаў. У 1589 г. жупан сустракаецца ў цэнніках, прызначаных краўцамі.

**Міхась Раманюк.**

**ЗАЖЫНКІ** , старадаўні земляробчы звычай, звязаны з пачаткам жніва. Меў абрадавы характар, быў скіраваны на тое, каб забяспечыць добры збор ураджаю. У зажынкавых абрадах і звычаях адлюстравана пашана селяніна да *хлеба* , своеасаблівы яго культ. У абрадзе 1-га снапа ( " гаспадара " ) бачны элементы анімістычнага светапогляду, земляробчай магіі, заклінання. На Беларусі зажынкам уласцівы рэгіянальныя асаблівасці. Звычайна іх спраўлялі ў суботу вечарам. Перад тым прыбіралі хату і двор, стол засцілалі белым абрусам, клалі бохан хлеба і ставілі соль. Зажынальніцай выбіралася жанчына " лёгкая на руку ", каб усё жніво прайшло спраўна. Часцей зажынала гаспадыня з дочкамі або нявесткамі, часам на ніву адпраўляліся адны дзяўчаты, бралі з сабою хлеб і свежы сыр. Зажынальніца віталася з нівай : " Добры дзень, ніўка, ядронае жыта ! " Потым зажынала некалькі сцяблін, скручвала перавясла і падпяразвалася ім, а 1-ы сноп жыта ставіла са словамі " Стаўлю сноп на сто коп, на тысячу мерак ", клала пад яго хлеб і сыр. У 1-ы выхад на ніву пажыналі невялікі сноп жыта, перавязвалі яго чырвонай стужкай, неслі дахаты і ставілі на покуці ; зерне з яго пасля дамешвалі да насення. У дзень зажынак рыхтавалася святочная вячэра, у час якой сям'я з'ядала хлеб і сыр, прынесеныя з нівы. За сталом спявалі зажынкавыя песні, у якіх чулася скарга збажыны за тое, што ёй падакучыла " ў полі стаяці, коласам махаці ", гучалі заклінальныя матывы на добры ўраджай.

У некаторых вёсках спраўляюць калгасныя зажынкі.

**А. С. Ліс.**

**ЗАЛАТАЯ АРДА ,** Улус Джучы , дзяржава, якая існавала ў 13 — 15 ст. Узнікла ў пачатку 1240-х гадоў. Займала тэрыторыю Заходняй Сібіры, Паўночнага Харэзма, Волжскай Булгарыі, Паўночнага Каўказа, Крыма, стэпаў ад Волгі да Дуная. У васальнай залежнасці трымала рускія землі. Напачатку займала заходнюю частку імперыі Чынгіс-хана — тэрыторыю ўдзельнага княства ( улуса ) яго сына Джучы ( адсюль адна з назваў Залатой Арды ). Самастойнай дзяржава стала пры Батыі, сыне

Джучы. Арабскія гісторыкі называлі яшчэ Залатую Арду Дэшт - і - Кіпчак ( Кіпчацкая Арда ). Усходняя частка ўлуса Джучы ( Заходняя Сібір ) атрымала пазней назву Блакітнай Арды. Батый у выніку паходаў 1236 — 1240 гадоў далучыў да сваіх уладанняў Паволжа, кіпчацкія стэпы, Паўночный Каўказ, Крым, Харэзм, скарыў рускія княствы. У сярэдзіне 13 ст. хан Берке ( 1256 - 1266 гады ) прыняў Іслам і не стаў прызнаваць вярхоўнай улады мангольскага хана. Першапачатковая сталіца Залатой Арды г. Сарай-Бату ( каля сучаснай Астрахані ) з 1-й палавіны 14 ст. перанесена ў г. Сарай-Берке ( каля сучаснага Валгаграда ). Абператварэнні Залатой Арды ў самастойную дзяржаву сведчыць чаканка манеты з імем пятага хана Менгу Цімура ( правіў у 1267 — 1280 гады ). Пасля яго смерці ў выніку міжусобнай вайны перамогу атрымала частка арыстакратыі мусульманскага веравызнання. Яна вылучыла на ханскі пасад Узбека ( правіў у 1313 — 1342 гады ), унука Менгу Цімура. Пры Узбеку і яго сыне Джанібеку ( правіў у 1342 — 1357 гадах ) Залатая Арда ператварылася ў адну з вялікіх дзяржаў сярэднявечча. На працягу 45-гадовага праўлення яны цвёрда трымалі ўладу ў сваіх руках, бязлітасна душылі праяўленне самастойнасці васалаў. У выніку прыдворных змоў і смут у канцы 1350-х гадоў былі забіты многія царэвічы з роду Узбека, на працягу 1357 — 1380 гадоў на пасадзе перабывала 20 ханаў. У 1370-я гады ў выніку феадальнага драблення Залатая Арда фактычна распалася на 2 часткі : у раёнах на захад ад Волгі правіў цемнік Мамай, ва ўсходніх раёнах — Урус-хан. Унутранае бязладдзе скарысталі маскоўскія князі. У 1380 г. адбылася бітва на Куліковым полі, дзе войскі Мамая пацярпелі паражэнне. Часовае аднаўленне адзінства Залатой Арды адбылося пры хане Тахтамышы, які ў 1380 г. разбіў Мамая на р. Калка, а праз 2 гады заняў і спаліў Маскву. Але правіцель Сярэдняй Азіі Тамерлан ( Цімур ) у 1391 г. і 1395 г. разбіў войскі Тахтамыша, разрабаваў сталіцу. На гэтым скончылася адзінства Залатой Арды. Апошнюю спробу аб'яднаць дзяржаву зрабіў Едыгей ( памёр у 1419 г. ).

Складаныя працэсы феадальнага драблення прывялі ў 2-й палавіне 15 ст. да распаду Залатой Арды на Казанскае і Астраханскае ханствы, Нагайскую Арду, уласна Вялікую Арду і Крымскае ханства.

На працягу больш як 2,5 стагоддзя Вялікае Княства Літоўскае было ў складаных адносінах з Залатой Ардой. Вясной 1238 г. мангола-татары пагражалі з усходу. Але ў выніку гераічнай барацьбы насельніцтва Смаленскага княства з войскамі чужаземцаў іх прасоўванне на захад спынілася. У жніўні 1242 г. татары зноў спрабавалі ўзяць Смаленск, але былі адбіты. У канцы 1246 г. мангола-татары ўварваліся на тэрыторыю Вялікага Княства Літоўскага з поўдня, зрабілі вялікія спусташэнні. У 1258 г., 1275 г., 1277 г. разам з ардынскімі войскамі ў паходах на ВКЛ удзельнічалі і дружыны галіцка-валынскіх князёў, але былі адбіты. Дайшлі летапісныя звесткі аб жорсткіх бітвах з татарамі, пра ўшчэнт разбітага ворага дружынамі з Пінска, Слоніма, Наваградка, Турава Друцка і іншых гарадоў. Сыны наваградскага князя Карыята ( Юрый, Аляксандр, Канстанцін, Фёдар ) пры падтрымцы князя Альгерда вызвалілі Малое Падолле ад татарскага іга. Упартая працяглая барацьба і гераічная

абарона сваіх зямель насельніцтвам ВКЛ аслабіла і падарвала сілы заваёўнікаў і дазволіла пазбегнуць ардынскага ярма. Князі ВКЛ не толькі абаранілі свае землі, але і наладзілі саюз з ханамі Залатой Арды супраць агульных праціўнікаў. Разгром сіламі ВКЛ ардынцаў у бітве каля Сініх вод 1362 года задоўга да бітвы на Куліковым полі быў першым буйным паражэннем Арды і даў магчымасць пашырыць уладанні ВКЛ па поўдзень да вусця Дняпра і Днястра, устанавіць уладу Гедымінавічаў над Кіеўскім і Валынскім княствамі, Падоліяй, Чарнігаўшчынай і Северщчынай. У выніку Арда страціла кантроль над значнымі тэрыторыямі, якія складалі некалі ядро Кіеўскай Русі. Вялікі князь Гедзімін, Вітаўт і іншыя запрашалі татараў Залатой Арды і выкарыстоўвалі іх у барацьбе з Тэўтонскім ордэнам. Татары ўдзельнічалі ў вайне Гедзіміна з крыжакамі яшчэ ў 1319 г., у 1350 г. ардынскія атрады ўдзельнічалі ў паходзе вялікага князя Кейстута ў Польшчу. У ВКЛ знаходзілі прытулак збеглыя ханы і прэтэндэнты на ханскі пасад. У сакавіку 1395 г. пасля паражэння ад Цімура на тэрыторыю ВКЛ адступіў вялікі хан Тахтамыш са сваёй дружынай, жыў у Лідзе ў асобным доме, які доўга называлі Тахтамышавым дваром.

ВКЛ сярод цюркскіх народаў мела славу надзейнага прытулішча ; група мурзаў на чале з Мансурам Кіятам Мамаевічам эмігрыравала сюды пасля бітвы на Куліковым полі. Лекса Мансуравіч атрымаў Глінскую і Палтаўскую воласці на ўсход ад Дняпра і даў пачатак роду Г л і н с к і х. Вітаўт, скарыстаўшы з'яўленне скінутага ардынскага ўладара, вырашыў з дапамогаю Тахтамыша дабіцца, у прыватнасці, кантролю над Уладзімірскім княствам, якое ўсё яшчэ лічылася васалам Арды. У выніку іх сумеснага паходу пад Азоў у канцы 1397 г. яны прывялі шмат татараў, што былі пасяленыя каля Вільні, у Ашмянскім, Берасцейскім, Лідскім, Наваградскім паветах. Бітва на Ворскле 1399 года завяршылася паражэннем войскаў Вітаўта і Тахтамыша, які пасля ўцёкаў апынуўся ў Сібіры, спрабаваў самастойна захапіць ханскі пасад, але быў забіты. Кантакты ВКЛ з Залатой Ардой захоўваліся, нашчадкі Тахтамыша разлічвалі на саюз з ёю ў барацьбе за адраджэнне сваёй улады над " улусам Джучы ". У 1409 г. да Вітаўта прыбыў з 30-тысячным войскам сын Тахтамыша царэвіч Джэлал-эд-Дзін, які прымаў удзел у *Грунвальдскай бітве 1410 года* супраць Тэўтонскага ордэна. У ордэнскіх хроніках адзначаецца, што галоўнакамандуючы ордэнскім войскам вялікі магістр Ульрых фон Юнгінген загінуў у бітве ад рукі татарскага воіна Багардзіна. Пасля Грунвальда татары ўдзельнічалі ў ваенных дзеяннях да падпісання Торунскага міру 1411 года. Летам 1411 года пры падтрымцы Вітаўта Джэлал-эд-Дзін авалодаў Крымам, вясною 1412 г. захапіў пасад у Залатой Ардзе. У жніўні 1412 г. даўні вораг Вітаўта эмір Едыгей арганізаваў забойства Джэлал-эд-Дзіна і на пасад прызначыў яго брата Керыма Берды. Але Вітаўт у 1413 г. ў Вільні вылучыў ханам Залатой Арды Бетсуб-Улана, малодшага сына Тахтамыша. Упершыню ў гісторыі Залатой Арды яе правіцель быў каранаваны ў сталіцы ВКЛ і прыняў ханскую шапку з рук вялікага князя літоўскага. Бетсуб-Улан прымаў удзел у вайне з ордэнам. У канцы 1414 г. яго паход на Залатую Арду скончыўся паражэннем, сам

хан загінуў у сутычцы з войскам Едыгея. Пачаўся заняпад Залатой Арды, уладанні апошніх ханаў называлі Вялікай Ардой, часам Заволжскай Ардой. Адносіны ВКЛ з Ардой абвастрыліся. У 1416 г. войскі Едыгея спустошылі землі Украіны, захапілі Кіеў. Вітаўт выставіў новым кандыдатам на ханскі пасад Ерымфердэна, сына Тахтамыша, які таксама быў каранаваны ў ВКЛ і на кароткі час захапіў уладу ў Ардзе. Керым Берды быў забіты, таму Едыгей узвёў на пасад Дэрвіш-хана, скінуўшы Ерымфердэна. У 1420 г. саюзнікі Вітаўта — мурзы улуса Шырын — здзейснілі новы пераварот, у выніку якога Дэрвіш-хан і Едыгей былі забіты. У 1422 г. сталіца Арды дасталася прыхільніку ВКЛ хану Дэўлет Берды. Але пасля сваркі з вялікім князем літоўскім хан вымушаны быў шукаць прытулак у Крыме. З прэтэнзіяй на пасад выступіў Улуг Мухаммед, сын Джэлал-эд-Дзіна. У 1423 ён звярнуўся за дапамогай да вялікага князя і ў 1424 г. з дапамогай Вітаўта павёў жорсткую барацьбу з іншымі прэтэндэнтамі ( у 1425 г. іх было 6 ) і толькі ў 1429 г. перамог. У 1433 г. хан падтрымаў у барацьбе за вялікакняжацкі пасад князя Баляслава Свідрыгайлу, але вясной 1434 г. выслаў свае атрады на дапамогу яго саперніку князю Жыгімонту Кейстутавічу. Свідрыгайла ў сваю чаргу падтрымаў саперніка хана Кічы Мухаммеда. Пасад у Ардзе дастаўся трэцяму іх праціўніку — Сеід Ахмеду. Улуг Мухаммед быў пасалены са сваім акружэннем на Севершчыне. Адтуль ён перасяліўся ў Ніжні Ноўгарад, потым у Казань і стаў там заснавальнікам ханскай дынастыі. Адзін з яго сыноў стаў першым ханам васальнага ад Маскоўскага княства Касімаўскага царства. Сеід Ахмед прымаў актыўны ўдзел у *Свідрыгайлы паўстанні 1432 - 1439 гадах* на баку Свідрыгайлы, потым Міхаіла, сына Жыгімонта Кейстутавіча. Новы вялікі князь Казімір Ягайлавіч і яго саветнікі падтрымалі Гаджы ( Хаджы ) Гірэя, другога праціўніка Сеід Ахмеда. Пры падтрымцы войскаў Радзівіла і князёў Шырынскіх Гірэй захапіў Крым і стаў заснавальнікам дынастыі *Гірэяў*. Легенда, запісаная ў 16 ст., сведчыць, што гэты хан нарадзіўся ў ВКЛ пасля разгрому Гаджы Гірэем войскаў Сеід Гірэя, апошні ўцёк у Кіеў, перавезены ў Вільню, пазней паселены ў Ковенскі замак, дзе і памёр. У 1476 г. ў ВКЛ знайшлі прытулак сыны Гаджы Гірэя ( Даўлет і Айдар ) пасля паражэння ў барацьбе за крымскі пасад, у пачатку 1480 г. яны пераехалі ў Маскву. У 1502 г., пасля разгрому войскаў Вялікай Арды крымскім ханам Менглі Гірэем апошні яе хан Шэйх Ахмед ( Шах-Ахмад ) з братамі, сынамі і прыдворнымі схаваўся ў ВКЛ . Там ён быў на становішчы ганаровага палоннага, хоць тытулаваўся " царом Заволжскім " і суправаджаў Жыгімонта Старога ў некаторых урачыстых выхадах. Вясной 1527 г. па просьбе нагайскіх татараў ён быў адпушчаны ў Арду.

**Ібрагім Канапацкі.**

**ЗАХОДНЯЯ БЕЛАРУСЬ** , частка тэрыторыі Беларусі, якая ў выніку *савецка-польскай вайны 1920 года* захоплена Польшчай і паводле *Рыжскага мірнага дагавора 1921 года* знаходзілася ў яе складзе да верасня 1939 года. Паводле адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу Польшчы

гэта тэрыторыя была падзелена на 29 паветаў, што ўваходзілі ў склад 4 ваяводстваў : Беластоцкага ( Беластоцкі, Ваўкавыскі, Гродзенскі, Аўгустоўскі, Сакольскі паветы ), Віленскага ( Ашмянскі, Браслаўскі, Вілейскі, Дзісенскі, Маладзечанскі, Пастаўскі, Свянцянскі, Вілейска-Трокскі паветы ), Навагрудскага ( Баранавіцкі, Валожынскі, Лідскі, Навагрудскі, Нясвіжскі, Слонімскі, Стаўбцоўскі, Шчучынскі паветы ), Палескага ( Брэсцкі, Драгічынскі, Кобрынскі, Косаўскі, Лунінецкі, Пінскі, Пружанскі, Столінскі паветы ). Агульная плошча Заходняй Беларусі складала 113 тыс. кв. км , насельніцтва — 4,6 млн. чалавек ( 1931 г. ). Найбуйнейшыя гарады : Вільня, Гродна, Брэст, Беласток, Слонім, Ліда, Навагрудак, Пінск, Лунінец, Кобрын, Пружаны, Ваўкавыск, Баранавічы, Маладзечна, Вілейка. Галоўным горадам краю, яго культурным і навуковым цэнтрам была Вільня. У прамысловых адносінах найбольш развіта Беластоцкая акруга.

Заходняя Беларусь была адносна адсталай аграрнай ускраінай Польшчы і выкарыстоўвалася апошняй пераважна як крыніца сыравіны і таннай рабочай сілы, як рынак збыту для яе прамысловасці. У эканоміцы Заходняй Беларусі назіраўся застой. Працоўныя тут пакутвалі і ад эксплуатацыі, і ад нацыянальнага ўціску. Разбураная войнамі прамысловасць аднаўлялася марудна, новыя прадпрыемствы амаль не будаваліся, прыродныя багацці краю ( асабліва лясы ) няшчадна рабаваліся, часта распрадаваліся замежным фірмам. Многія галіны прамысловасці так і не дасягнулі ўзроўню 1913 года. У 1928 г. ў Заходняй Беларусі дзейнічала каля 2 тыс. прадпрыемстваў, але на 80 % з іх працавала ад 5 да 20 чалавек. У гады эканамічнага крызісу ( 1929 — 1933 гг. ) тут часова спынілі работу каля 230 прадпрыемстваў. Складаючы 24 % тэрыторыі і 13 % насельніцтва Польшчы, удзельная вага прамысловасці Заходняй Беларусі ледзь перавышала 3 % . У прамысловасці, на транспарце і лесараспрацоўках было занята каля 100 тыс. чалавек ( амаль 5 % рабочых Польшчы ); налічвалася амаль 50 тыс. рамеснікаў. Беспрацоўе ў Заходняй Беларусі было хранічнае ( больш за 25 тыс. беспрацоўных у 1936 г. ), рабочы дзень дасягаў 10 — 12 гадзін, зарплата была больш нізкая, чым у карэннай Польшчы. Больш за 80 % насельніцтва Заходняй Беларусі займалася сельскай гаспадаркай. Сяляне пакутавалі ад малазямелля, перажыткаў прыгонніцтва ( адработкі, шарваркі ), цяжкіх падаткаў, высокіх цэн на прамысловыя тавары шырокага ўжытку ( запалкі, соль, газа, тытунь ) і нізкіх цэн на сельскагаспадарчыя прадукты, запазычанасці банкам, самаўпраўства чыноўнікаў і паліцыі. У 1920-я гады памешчыкі, складаючы 1,7 % землеўладальнікаў, валодалі амаль паловай прыватнаўладальніцкай зямлі. На памешчыцкі маёнтак у сярэднім прыпадала каля 500 га зямлі, на сялянскі двор — каля 7 га ; амаль 55 тыс. гаспадарак мелі надзел менш за 1 га. Каля 90 тыс. парабкаў былі зусім беззямельныя. У выніку зямельных рэформаў 1920 — 1930-х гадоў ( парцэляцыя, ліквідацыя сервітутаў, камасацыя, пасяленне асаднікаў ) зямельныя ўладанні памешчыкаў былі значна паменшаны, хоць зусім не ліквідаваны. Рэформы садзейнічалі ўмацаванню сялянскіх гаспадарак, рассяленню сялян на хутары ( да 1939 г. на хутары расселена каля 70 % сялянскіх гаспадарак ). Паказчыкі

прадукцыйнасці сельскай гаспадаркі ў 1930-я гады значна выраслі : ураджайнасць збожжавых дасягнула ўзроўню Францыі, а па многіх культурах перасягнула фермераў ЗША. Адсутнасць радыкальных пераўтварэнняў у аграрным сектары Заходняй Беларусі ( у адрозненне ад масавай калектывізацыі ў БССР ) спрыяла захаванню ў сялянскіх сем'ях традыцыйнага ўкладу, працоўнай маралі, нацыянальнай культуры і беларускай мовы. Але перанаселеная вёска не мела адтоку ў прамысловасць, таму ў пошуках работы сяляне часта эмігрыравалі ў краіны Заходняй Еўропы і Амерыкі. Абеззямельванне, аграрнае перанасяленне і малазямелле сялян не здымала з парадку дня неабходнасць далейшага землеўпарадкавання, што было адной з прычын рэвалюцыйнай актыўнасці сялян.

У адносінах да беларусаў польскія ўлады праводзілі палітыку прымусовай паланізацыі і асіміляцыі. Яны забаранялі беларускія школы, абмяжоўвалі прыём з беларускіх школ у ВНУ, не дазвалялі карыстацца роднай мовай у дзяржаўных установах, не прызнавалі тэрміна " Заходняя Беларусь " і ў афіцыйных дакументах называлі яе " крэсы ўсходне " ( " усходнія ўскраіны " ), або Белапольшчай. Мэтам паскоранай паланізацыі беларускага насельніцтва служылі дзяржаўны апарат, шавіністычны друк, польскія школы і каталіцкая царква. З 400 беларускіх школ, што існавалі на тэрыторыі Заходняй Беларусі да польскай акупацыі, у 1928 г. засталося 29 беларускіх і 49 мяшаных польска-беларускіх школ, у 1934 г. — толькі 16, у 1939 г. не засталося ніводнай. Былі закрыты 2 настаўніцкія семінарыі ( у Барунах і Свіслачы ), 8 беларускіх гімназій ( у Будславе, Гродне, Грудку, Клецку, Маладзечне, Навагрудку, Нясвіжы, Радашковічах ). Каля 35 % насельніцтва Заходняй Беларусі заставалася непісьменным ( 1939 г. ).

У выключна прыгнечаным стане знаходзілася беларуская інтэлігенцыя. Беларускіх настаўнікаў, як правіла, адхілялі ад работы ў Заходняй Беларусі і замянялі польскімі. Жорстка праследавалася беларуская прэса, асабліва рэвалюцыйнага кірунку. Беларускія газеты і часопісы часта забараняліся і канфіскоўваліся, штрафаваліся друкарні, у якіх яны выдаваліся. З-за рэпрэсій назвы газет часта мяняліся. Калі ў 1927 г. легальна выдаваліся 23 беларускія газеты і часопісы, то ў 1930 г. іх стала 12, а ў 1932 г. — 8 ; да 1937 г. асталіся толькі прапольскія і клерыкальныя выданні. У Заходняй Беларусі не было беларускіх тэатраў і музычных устаноў, улады вышуквалі розныя прычыны, каб закрываць беларускія выдавецтвы, бібліятэкі, клубы, хаты-чытальні. Галоўным метадам кіравання польскага ўрада ў Заходняй Беларусі быў прымус, а часам і тэрор. Турмы і Бяроза-Картузскі канцэнтрацыйны лагер, створаны для ізаляцыі " грамадска-небяспечных элементаў ", былі перапоўнены палітычнымі вязнямі, часта праводзіліся судовыя палітычныя працэсы. Звычайнай з'явай былі масавыя рэпрэсіі паліцыі ў адносінах да насельніцтва ў час карных экспедыцый па ўціхамірванню сялянскіх выступленняў. Бяспраўе і нацыянальны прыгнёт абвастралі супярэчнасці, стваралі ўмовы для ўзмацнення нацыянальна-вызваленчага руху. На ўзмацненне ўрадавай дыктатуры прапоўная Заходняй Беларусі часта

адказвалі ўздымам барацьбы за сваё нацыянальнае і сацыяльнае вызваленне. Гэта барацьба ў розныя часы прымала розныя формы, але не спынялася на працягу ўсіх гадоў акупацыі. Рабочыя найчасцей вялі забастовачную барацьбу ; іх эканамічныя выступленні часта суправаджаліся антыўрадавымі дэманстрацыямі, мітынгамі, сутычкамі з паліцыяй. Шырокі размах і найбольш вострыя формы гэты выбух набыў у гады сусветнага эканамічнага крызісу ( 1929 — 1933 гады ) і ў перыяд стварэння адзінага антыфашысцкага народнага фронту ( 1935 г. ). Найбуйнейшыя антыўрадавыя выступленні сялян — Косаўскае, Асташынскае, Кобрынскае, Ляплёўскае. Важнай падзеяй у грамадска-палітычным жыцці быў Антыфашысцкі кангрэс дзеячаў культуры 1936 г., які адбыўся ў Львове.

Нягледзячы на абмежаванні, пэўныя канстытуцыйныя гарантыі давалі магчымасць дэпутатам-беларусам весці парламенцкую барацьбу ў складзе Беларускага пасольскага клуба.

У 1925 — 1927 гадах на ўсю моц разгарнулася дзейнасць магутнай нацыянальна-вызваленчай арганізацыі Беларуская сялянска-работніцкая грамада ( БСРГ ; больш за 2 тыс. яе гурткоў аб'ядноўвалі каля 120 тыс. членаў ), у 1927 — 1930 гадах — " Змаганне ". Узмацненне аўтарытарных тэндэнцый у Польшчы прывяло да разгрому левага крыла вызваленчага руху Заходняй Беларусі. Аднак працягвалі легальную дзейнасць цэнтрысцкія і кансерватыўныя нацыянальна-дэмакратычныя партыі і культурна-асветныя арганізацыі. На працягу 1921 — 1937 гадоў у ліку вядучых культурна-асветных арганізацый было таварыства беларускай школы ( ТБШ ). Прыкметнай была дзейнасць Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры ( 1926 - 1937 гады ) і паланафільскага Таварыства беларускай асветы. Разгортванне культурна-дзяржаўнага будаўніцтва ў БССР у 1920-я гады садзейнічала ажыўленню і радыкалізацыі рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі. У 1921 — 1923 гадах яго ўзначальвала Беларуская рэвалюцыйная арганізацыя ( БРА ), у 1923 — 1938 гадах — адна з найбольш радыкальных партый — Камуністычная партыя Заходняй Беларусі ( КПЗБ ; аб'ядноўвала на 1933 год каля 4 тысяч членаў ). Спалучаючы легальныя і нелегальныя формы барацьбы, КПЗБ часам удавалася скіроўваць нацыянальна-вызваленчы рух у рэчышча класавай барацьбы. З гэтай мэтай яна выкарыстоўвала папулярныя ў народа заклікі да самавызначэння Заходняй Беларусі, падтрымлівала надзённыя патрэбы працоўных, папулярызавала ў перабольшаным і прыхарошаным выглядзе дасягненні ў Савецкай Беларусі. Але змена нацыянальнай палітыкі ў СССР узмацніла нацыянальны нігілізм КПЗБ , абумовіла яе дэструктыўную ролю ў нацыянальна-вызваленчым руху Заходняй Беларусі.

Пад кіраўніцтвам КПЗБ Камуністычны саюз моладзі Заходняй Беларусі ( КСМЗБ ; створаны ў 1924 г., на 1932 г. аб'ядноўваў 3,4 тыс. камсамольцаў ), Чырвоная дапамога ( МОПР Заходняй Беларусі ), левыя ( чырвоныя ) прафсаюзы, студэнцкая лявіца " Фронт ", КПЗБ у сваіх падпольных друкарнях ( 2 у Вільні і 1 у Беластоку, друкарскія станкі ў Гродне, Брэсце і інш. ) выдавала газету " Чырвоны сцяг ", часопіс " Бальшавік " і інш. перыядычныя выданні на беларускай, польскай,

рускай, літоўскай і габрэйскай мовах. Свае газеты і часопісы выдавалі БРА, БСРГ, " Змаганне ", ТБШ, " Фронт ", КСМЗБ, Чырвоная дапамога. У 1926 — 1928 гадах у Заходняй Беларусі выдаваўся прагрэсіўны сатырычны часопіс " Маланка ", у 1934 г. — " Асва ". Гэтыя выданні шмат увагі аддавалі нацыянальна-вызваленчаму руху, шырока асвятлялі пытанні культурнага жыцця Заходняй Беларусі. Сялянскія і хрысціянска-дэмакратычныя беларускія партыі адхілялі рэвалюцыйны рух як крайнюю і экстрэмісцкую форму барацьбы, найчасцей вялі памяркоўную палітыку. Беларуская хрысціянская дэмакратыя ( БХД ; вядучая партыя Заходняй Беларусі ў 1930-я гады ), Беларускі сялянскі Саюз ( БСС ), Цэнтральны саюз культурных і гаспадарчых арганізацый ( Цэнтрасаюз ), Беларуская санацыя і іншыя партыі і арганізацыі часам дамагаліся дробных уступак у галіне беларускай нацыянальнай культуры праз згоду з польскімі ўладамі.

У рабоце нацыянальна-вызваленчых і культурна-асветных арганізацый ( БСРГ, " Змаганне ", ТБШ ) , у выданні падпольных і легальных газет і часопісаў, у агульнадэмакратычных выступленнях удзельнічалі прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі.

Вялікі ўплыў на развіццё нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі мела творчасць беларускіх пісьменнікаў М. Танка ( Я. І. Скурко ), П. Пестрака, В. Таўлая, Л. Родзевіча, М. Васілька, А. Салагуба, М. Засіма, Н. Арсенневай, Х. Ільяшевіча, П. Карузы, М. Краўцова, А. Стаповіча, М. Машары, У. Самойлы ; публіцыстаў А. Альшэўскага, І. Канчэўскага, А. Луцкевіча, Я. Міська, А. Станкевіча, В. Харужай ; творчасць навукоўцаў Б. Тарашкевіча, С. Рак-Міхайлоўскага, І. Дварчаніна. З заходнебеларускай літаратурай звязана творчасць У. Жылкі, К. Сваяка, Г. Леўчыка, у 1920-я гады — М. Гарэцкага. У 1930-я гады пачалі сваю літаратурную дзейнасць беларускія пісьменнікі А. Іверс, Ф. Грышкевіч, А. Дубровіч, Я. Чабор, Н. Тарас, Г. Новік, П. Граніт, А. Клімовіч, С. Крывец, А. Мілюць, Я. Брыль ; украінскі А. Гаўрылюк ; польскія Г. Дэмбінскі, С. Ендрыхоўскі, Е. Путрамант і іншыя. Паэты, што групаваліся вакол " Беларускай газеты ", у канцы 1933 г. распачалі дзейнасць па стварэнні арганізацыі, каб аб'яднаць прагрэсіўных пісьменнікаў Заходняй Беларусі. Іх намаганнямі ў газеце была аформлена літаратурная старонка, надрукавана прынятая на нелегальным з'ездзе заходнебеларускіх пісьменнікаў ( снежань 1933 г. ) дэкларацыя, якая заклікала ўсіх пісьменнікаў " ад станка і плуга " гуртавацца дзеля творчай работы " для народа і разам з ім ". У студзені 1934 года ўлады забаранілі "Беларускую газету" і арыштавалі найбольш актыўных яе супрацоўнікаў. Значны ўклад у выяўленчае мастацтва Заходняй Беларусі зрабілі мастакі Я. Горыд, Я. Драздовіч, П. Сергіевіч, М. Сеўрук ; у музыкальную культуру — К. Галкоўскі, Л. Рагоўскі, М. Забэйда-Суміцкі. Плённую работу па стварэнні народных хораў і збору беларускіх народных песень правядзілі А. Грыневіч, Р. Шырма, Г. Цітовіч і іншыя.

Большасць грамадска-палітычных і культурна-асветных арганізацый Заходняй Беларусі ( у тым ліку выдавецтвы, школы, кнігарні і іншыя ) размяшчаліся ў Вільні. У Вільні выдадзены " Хрэстаматыя беларускай літаратуры. XI век - 1905 г. " М. Гарэцкага ( 1922 г. ), Хрэстаматыя новай

беларускай літаратуры ( ад 1905 г. ) " Дварчаніна ( 1927 г. ), зборнікі вершаў Родзевіча ( " На паняволеных гонях ", 1928 г. ), М. Танка ( " На этапах ", 1936 г. ; " Журавінавы цвет ", 1937 г. ; " Пад мачтай ", 1938 г. ; паэма " Нарач ", 1937 г. ) і іншыя. Выдаваліся таксама падручнікі для беларускіх школ С. Рак-Міхайлоўскага, С. Паўловіча, " Беларускі каляндар ", адозвы, адкрытыя лісты і прамовы дэпутатаў у сейме. ТБШ, БСРГ і " Змаганне " праз свае клубы, гурткі і бібліятэкі-чытальні вялі шырокую культурна-асветную работу сярод насельніцтва, стваралі гурткі мастацкай самадзейнасці, рыхтавалі канцэрты. У рэпертуары хораў пераважалі беларускія народныя песні. У драматычных калектывах найбольшай папулярнасцю карысталіся спектаклі " Паўлінка " і " Прымакі " Я. Купалы, " Антось Лата " Я. Коласа, " Модны шляхцюк " К. Каганца, " Атрута " Гарэцкага, " Збянтэжаны Саўка " Родзевіча, " Суд " У. Галубка, " Мікітау лапаць " М. Чарота, " Міхалка Далецкіх ", " У зімовы вечар " Э. Ажэшкі, а таксама шматлікія інсцэніроўкі.

Вечары з выступленнямі мастацкіх калектываў найчасцей ператвараліся ў сапраўдныя святы і былі своеасаблівым пратэстам супраць намераў польскіх улад задушыць роднае беларускае слова і народную культуру. Сродкі, сабраныя на спектаклях і канцэртах, ішлі пераважна на патрэбы культуры і развіццё асветы. Паліцыя часта арыштоўвала кіраўнікоў мастацкай самадзейнасці. У 1932 г. з 36 спектакляў, падрыхтаваных гурткамі мастацкай самадзейнасці Беласточчыны, 14 забаронены ўладамі.

Сярод найбольш выдатных дзеячаў нацыянальна-вызваленчага руху Заходняй Беларусі былі кіраўнікі БСРГ, " Змагання ", ТБШ, БРА і КПЗБ Тарашкевіч, Рак-Міхайлоўскі, Дварчанін, А. Луцкевіч, А. Станкевіч, А. Уласаў, П. Валошын, П. Мятла, М. Бурсевіч, Альшэўскі, М. Арэхва, Я. Бабровіч, С. Гарбуз, І. Дабрыян, А. Данілюк, М. Дворнікаў, С. Дубовік, Ф. Вальнец, Я. Гаўрылік, І. Грэцкі, П. Крынчык, Г. Муха-Мухноўскі, А. Лябецкая, Ф. Станкевіч, М. Пяткевіч, Паўловіч, М. Кепель, П. Кізевіч, А. Канчэўскі, І. Лагіновіч ( П. Корчык ), В. Ласковіч, І. Малец, С. Панкова, М. Маслоўскі, З. Паплаўскі, С. Пацяруха, М. Пеpавалоцкі, С. Прытыцкі, Родзевіч, І. Сяменікаў, А. Федасюк, Харужая, У. Царук, Л. Янкоўская і інш.

Пасля нападу фашысцкай Германіі на Польшчу ( 1.09. 1939 г. ) Чырвоная Армія паводле распараджэння ўрада СССР 17.09. 1939 г. перайшла граніцу Польшчы і ўзяла пад абарону насельніцтва Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны. Жыхары Заходняй Беларусі шчыра сустракалі армію як вызваліцельніцу, стваралі Часовыя ўпраўленні, вызвалялі палітвязняў, атрады Рабочай гвардыі падтрымлівалі правапарадак. Народны сход Заходняй Беларусі 1939 года ( Беласток, 28 — 30.10. 1939 г. ) прыняў Дэкларацыю пра абвяшчэнне савецкай улады і ўз'яднанне Заходняй Беларусі з БССР. 12.11. 1939 г. сесія ВС БССР прыняла законы пра ўз'яднанне Заходняй Беларусі з БССР. Гэтым было адноўлена нацыянальнае адзінства беларускага народа. Аднак паводле дамоўленасці ўрадаў СССР і Літвы ў кастрычніку 1939 г. Віленскі край і г. Вільня былі перададзены ў склад Літвы, а паводле савецка-польскай дамоўленасці ў

верасні 1944 г. Беластоцкая вобл. і некалькі раёнаў Брэсцкай вобл. перададзены ў склад Польшчы. У выніку новага адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу ( 4.12. 1939 г. ) на тэрыторыі Заходняй Беларусі былі ўтвораны 5 абласцей : Баранавіцкая ( 26 раёнаў ), Беластоцкая ( 24 раёны, з 20.09. 1944 г. Гродзенская вобл. , 15 раёнаў), Брэсцкая (18 раёнаў ), Вілейская ( 22 раёны, з 20.09. 1944 г. Маладзечанская вобл.), Пінская ( 11 раёнаў ).

**Іосіф Хаўратовіч.**

**ЗБІРАЛЬНІЦТВА** , адна з формаў гаспадарчай дзейнасці чалавека, якая заключалася ў збіранні гатовых дароў прыроды, у асноўным прадуктаў харчавання і лекавых раслін. Забяспечвала збалансаваным харчовым рацыёнам на ўсім працягу эвалюцыйнага развіцця чалавека. Мела сінкрэтычны характар, бо ўтрымлівала зародкавыя элементы рыбалоўства ( лоўля рукамі ракаў і рыбы ў норах, на мелях, у лужынах пасля спаду паводкавай вады ), палявання ( спажыванне птушанят з гнёздаў , лоўля птушак у час ліньні, збіранне яек балотных і баравых птушак ), пчалярства ( пошук мёду лясных пчол ).

Пра ўзнікненне збіральніцтва ў каменным веку сведчаць прымітыўныя прылады працы : касцяныя і рагавыя землекапалкі, пліткі і мялы для расцірання зярнят, адбіткі зярнят і сцяблоў дзікіх злакаў на сценках глінянага посуду, а таксама знаходкі шкарлупіння лясных і вадзяных арэхаў, жалудоў, ільнянога семя, ракавінак рачных малюскаў на тарфянікавых стаянках Асавец ( Бешанковіцкі раён ) і Галоўск ( Сенненскі раён ).

З развіццём палявання, рыбалоўства, бортніцтва, а пазней і земляробства збіральніцтва страціла сваё ранейшае значэнне і ператварылася ў дапаможны занятак, аднак у экстрэмальных умовах ( неўраджаі, стыхійныя бедствы, войны, эпідэміі ) людзей выратоўвалі менавіта здабыткі збіральніцтва.

Асноўны від збіральніцтва на Беларусі — нарыхтоўка лясных пладоў ( ягад, грыбоў, лясных яблыкаў і груш, арэхаў, шыпшыны, бярозавага соку і інш. ). Больш за ўсё збіралі чарніцы і журавіны ; маліны, ажыны, суніцы, чырвоныя і чорныя парэчкі спажывалі свежыя або гатавалі адвар. Сушылі галоўным чынам чарніцы ; журавіны зімою захоўвалі ў кадушках замарожанымі або залітымі вадой. Брусніцы мачылі, парылі або варылі з мёдам, грушамі. Яблыкі і грушы сушылі. Сярод грыбоў перавагу аддавалі баравікам, якія найчасцей сушылі, часткова прадавалі, іншыя грыбы спажывалі адвараныя або салілі на зіму.

У сакавіку - красавіку нарыхтоўвалі бярозавы або кляновы сок, заквашвалі яго соладам і захоўвалі ў бочках у склепе, назапашвалі таксама арэхі, жалуды, хмель, лекавыя расліны, губу ( драўняны грыб-чага на крэсіва ) і інш.

Збіральніцтва са старажытных часоў рэгламентавалася звычаёвым правам, якое вызначала агульны парадак і час збірання раслін і пладоў. Першы выхад звычайна ажыццяўляўся ўсёй вёскай ( грамадой ). Ахоўваліся ўчасткі з багатай расліннасцю, крыніцы з гаючай вадой і інш., якія мясцовымі людзьмі называліся *нерушам*.

На Беларусі здаўна існавала права свабоднага " уступу " ў лясы. Па меры развіцця феадальных адносін адбывалася пераразмеркаванне зямельнай уласнасці на карысць буйных землеўладальнікаў. Паступова сялянская грамада страчвала зямлю і лес, абмяжоўвалася права " уступу ". У канцы 15 - пачатку 16 ст. суды, асабліва гродскія, былі літаральна завалены скаргамі на самавольны захоп сялянскіх угоддзяў феадаламі. Так, сяляне Караеўскай воласці склалі спіс злоўжыванняў і скардзіліся на дзяржаўцу : " лес у нас забраў, ды крыўду нам робіць, а лес нам спрадвеку волен ".

Статут ВКЛ збіранне грыбоў і ягад спецыяльна не закранаў, забаранялася толькі з мэтай абмежавання браканьерства " из собою псов брати, ани рогатин, ани стрелбы ". " Устава на валокі " 1557 г. забараняла займацца збіральніцтвам толькі мужчынам, разглядаючы іх як патэнцыяльных браканьераў, але жанчынам, дзяўчатам, старым і малым дазвалялася збіраць грыбы, ягады, хмель, губу і інш. Дзеянне " Уставы " пашыралася толькі на вялікакняжацкія лясы, дзе быў рэжым запаведнасці. У прыватнаўласніцкіх лясах, як правіла, збіральніцтва не забаранялася і не абкладвалася падаткам, наадварот, калі селянін прыносіў па сваёй ініцыятыве кошык грыбоў або ягад свайму пану, то яму скасоўвалі пэўную частку паншчыны.

Пасля адмены прыгоннага права на збіральніцтва ўводзіўся натуральны ці грашовы падатак. З сялянскага двара спаганялася 2 фунты баравікоў. Калі жанаты сын жыў разам з бацькамі або калі ў сям'і былі 2 дарослыя жанчыны, даніна падвойвалася. У яе лік уваходзілі таксама 2, а пры добрым ураджаі 4 гарцы журавін, 0,5 - 1 гарнец арэхаў і інш. Жыхары Добруша плацілі за сезонныя квіткі 30 - 50 капеек серабром або адпрацоўвалі ўладальніку лесу 2 дні, незалежна ад велічыні сям'і.

Збіральніцтва не страціла свайго значэння і ў цяперашні час. Паводле прыблізных падлікаў насельніцтва Беларусі нарыхтоўвала грыбоў, ягад і інш. пладоў каля 100 тыс. тон штогод. Пасля чарнобыльскай катастрофы збор грыбоў і некаторых ягад ( у прыватнасці, чарніц ) рэзка скараціўся, бо яны найбольш акумулююць радыенукліды, а значныя тэрыторыі Беларусі цалкам выключаны з прыродакарыстання. Цэнтралізаванай нарыхтоўкай лясных пладоў займаецца Белкаапсаюз, а лекавых траў — Галоўнае аптэкакіраўніцтва Міністэрства аховы здароўя Беларусі.

**Станіслаў Цярохін.**

**ІДРЫСІ**, Ал - Ідрысі ( Абу Абдаллаг Мухаммед ібн Мухаммед ібн Абдаллаг аш-Шэрыфал-Ідрыс. 1099 або 1100 — 1161 або 1165 г. ), славуты арабскі географ. Паходзіў з арыстакратычнага роду, атрымаў дасканалыя веды ў Кардоўскім універсітэце. З 1139 г. працаваў у Палерма пры двары нарманскага караля Сіцыліі Ражэра ІІ. Да 1154 г. ( шаўвал 548 г. Хіджры ) завяршыў работу над складаннем каляровай карты свету ( Charta Rogeriana ) на 70 аркушах з суправаджальным тэкстам да яе на арабскай мове пад назвай " Kitab nuzhat al-mustak fi htirak al-afak " ( Кніга — забава для стомленага ў вандраваннях па




Да артыкула Алеся Белага "Ідрысі"

абласцях свету " ), вядомым пад назвай " Кніга Ражэра ". Згодна з арабскай традыцыяй, Charta Rogeriana арыентавана на поўдзень, а не на поўнач, як сучасныя карты.

Тэрыторыя сучаснай Беларусі прадстаўлена ў асноўным на аркушы 55 ( 5 секцыя VII клімату паводле класіфікацыі Ідрысі ). Паказаны г. Менск ( " Муніска " ) — першая выява горада на карце, " возера Тэрмі " — верагодна, Прыпяцкія балоты. Дняпро ( " Днабрус " ) пададзены ад вытокаў Бярэзіны ( " Бельцес " ). Ёсць падставы атаясаміць г. Бармунію ( аркуш 55 ) з Бярэсцем. Яшчэ шэраг аб'ектаў можна лакалізаваць у Беларусі гіпатэтычна, напрыклад, г. Барманза ля сутока Дняпра і Бярэзіны. Услед за іншымі мусульманскімі аўтарамі Ідрысі згадваў " тры віды русаў ", у т.л. Артанію, але другаснасць інфармацыі Ідрысі не дае магчымасць звязаць апошнюю з якім-небудзь пэўным рэгіёнам. Праца Ідрысі з'явілася вяршыняй класічнай арабскай картаграфіі і далёка пераўзыходзіла паўнатой і дакладнасцю вядомыя карты свету 12 — 13 ст.

**Алесь Белы.**

**КАГАЛ** ( старажытнагабрэйскае кахал — абшчына ), сход, у шырокім сэнсе — габрэйская абшчына, у больш ужывальным — форма яе самакіравання ( праўленне абшчыны ), у Польшчы і ВКЛ у 16 — 18 ст. , у Расійскай імперыі ў 1772 - 1844 гадах. Быў пасрэднікам паміж уладамі і габрэйскім насельніцтвам, якое як іншавернае было адчужана ад мясцовых хрысціян. Адказваў за збор падаткаў з усёй абшчыны і выконваў адміністрацыйныя функцыі, чым дапамагаў дзяржаўным органам кіравання. Існаванне кагалу адпавядала таксама інтарэсам гарадскіх магістратаў, бо кагал назіраў за выкананнем габрэямі дагавораў, заключаных з магістратам. Прававы статус і ўнутраны лад кагальнай арганізацыі нагадваў магдэбургскае права, таму самі габрэі былі зацікаўлены ва ўтварэнні кагалу.

Першыя кагалы на Беларусі ўзніклі ў гарадах, дзе ўжо існавалі магдэбургіі. Кагал выступаў як абшчынны інстытут, які прымаў пастановы, абавязковыя для ўсіх габрэйскіх жыхароў дадзенага населенага пункта. Маючы абавязак па юрыдычнай ахове рознабаковых інтарэсаў усіх габрэяў, кагал не заўсёды выконваў сваю місію. З пачатку 17 ст. амаль ва ўсіх кагальных статутах былі ўведзены параграфы, якія абмяжоўвалі праваздольнасць бедных рамеснікаў і дробных гандляроў на карысць багатых арандатараў і купцоў. Такім чынам кіраўніцтва кагала набыло алігархічны характар. Кагал вяршыў суд паміж габрэямі, наглядаў за цэнамі і гандлем, здзяйсняў дабрачынныя функцыі — забяспечваў рэлігійнымі кнігамі, клапаціўся пра хворых, сачыў за санітарным станам вуліц, ажыццяўляў догляд за сінагогамі і ўтрыманнем могілак, наймаў фельчараў і павітух і г.д.

Пастаянным клопатам кагалаў было забеспячэнне паспяховай эканамічнай дзейнасці членаў абшчыны, каб яны маглі выконваць грашовыя абавязацельствы перад уладамі і самой абшчынай. Колькасць членаў кагалу звычайна прапарцыянальная колькасці членаў

абшчыны, але не перавышала 35 — 40 чалавек. На чале кагалу стаялі 3 — 5 ( часцей 4 ) выбарных старшын ( р о ш ы м ), якія разам з 3 ганаровымі членамі ( т о в і м ) складалі правамоцную калегію кагалу і называліся " сямю ганаровымі членамі горада ".

Старшыны давалі прысягу на вернасць каралю. Ніжэй іх па службовых пасадах былі д а я н ы ( суддзі ) і г а б а н ( апекуны і старасты рэлігійных і выхаваўчых устаноў ). Рошым па чарзе на працягу месяца займалі пасаду п а р н а с а ( кіраўніка і скарбніка кагалу ). Выканаўчую ўладу ў кагале таксама ажыццяўляў ш к о л ь н і к (прыставў). Духоўным кіраўніком абшчыны быў р а б і н , які прызначаўся часцей за ўсё на шасцігадовы тэрмін, а ў выпадку працягу дагавору — яшчэ на 4 гады. Ён падпісваў рашэнні кагалу, кіраваў выбарамі, быў старшынёй на габрэйскім судзе, вёў рэгістрацыю актаў грамадзянскага стану, накладваў адлучэнне ад сінагогі ( х е р э м ), сачыў за школьным навучаннем. Звычайна кагал буйнога горада ( акруговы, галоўны кагал ) падпарадкоўваў сабе навакольныя дробныя кагалы мястэчак — п р ы к а г а л к і . Прадстаўнікі кагалаў і рабіны ў сваю чаргу стваралі вышэйшыя органы габрэйскага самакіравання ў ВКЛ і Рэчы Паспалітай — абласныя і цэнтральныя в а а д ы .

Пасля далучэння Беларусі да Расійскай імперыі ( 1772 — 1795 гады ) царскі ўрад захаваў інстытут кагалу, кіруючыся перш за ўсё фіскальнымі мэтамі. Кагалы былі падпарадкаваны магістратам гарадоў. Указам 1776 г. паўнамоцтвы кагалу абмяжоўваліся : габрэі ўсталі ўносіць у агульнагарадскія кнігі жыхароў, права судовага разбору паміж габрэямі было перададзена казённым судам. У кампетэнцыі кагалаў засталіся рэлігійныя пытанні, збор падаткаў пры захаванні кругавой парукі, а таксама выдача габрэям пашпартоў.

Падрабязна прававое становішча кагалу было вызначана Палажэннем аб габрэях ( 1804 г. ). З увядзеннем " натуральнай воінскай павіннасці для габрэяў " ( 1827 г. ) на кагал была ўскладзена адказнасць за своечасовую пастаўку рэкрутаў. Палажэннем 1835 г. ў *мяжы габрэйскай аселасці* ў асноўным адноўлена кагальная арганізацыя Рэчы Паспалітай, і кожны габрэй ( акрамя габрэяў-земляробаў ) павінен быў прыпісацца да гарадскога габрэйскага грамадства. Кагалы выбіраліся на 3 гады з зацвярджэннем губернскім праўленнем. У 19 ст. сярод членаў кагалаў усё часцей адбываліся злоўжыванні ( звычайна пры ўнутраным размеркаванні падаткаў ), якія павялічыліся з пастаўкай рэкрутаў.

Указам 1844 г. " Аб падпарадкаванні габрэяў у гарадах і паветах агульнаму ўпраўленню з скасаваннем кагалаў " іх адміністрацыйныя функцыі перададзены паліцэйскім установам, а гаспадарчыя і агульнападатковыя — гарадскім думам і ратушам. Фактычна збор падаткаў і пастаўка рэкрутаў заставаліся абавязкам габрэйскіх абшчын да Лютаўскай рэвалюцыі 1917 года.

Эмануіл Іофэ , Якаў Басін.

**КАМІЛ** , арабскае мужчынскае імя كامل , у перакладзе на беларускую мову абазначае дасканаласць.

**КАМІЛЯ**, арабскае жаночае імя كاملة — дасканалая.

**МУМІНУН**, А л ь М у м і н у н , 23-я сура з Кур'ана. Складаецца з 119 аятаў. Належыць да мекканскіх сур. Назва паходзіць ад слова з 2 аята мумінун — вернікі. Сура гаворыць пра праўдзівую веру, аб існаванні ўсемагутнага Творцы і адказнасці чалавека перад Аллагам. Падкрэсліваецца факт пастаяннага Божага кіравання людзьмі праз прарокаў, якія заклікалі людзей апамятавацца і прызнаць веру ў Бога Адзінага.

**НЕРУШ**, непарушаны прыродны аб'ект, які ніколі не апрацоўваўся, захаваў свой першабытны, натуральны стан. Нерушам называюць глухое малавядомае месца ў лесе ( лясныя нетры ), у балоце ( дзікае балота ), поле, якое ніколі не апрацоўвалася ( цаліна ), грыбное месца ( грыбоўнічa, шар ), багатую травамі сенажаць, возера з каштоўнай флорай, крыніцу з лекавай вадой, асацыяцыі лекавых траў. Нерушам часта называюць дзікую прыроду, некранутую паверхню снежных сумётаў ( цалік ). Такія мясціны ахоўваліся мясцовым насельніцтвам. Паводле традыцыі неруш нельга было чапаць, урабляць, змяняць ранейшы стан. Фактычна нерушы былі заказнікамі.

**Іван Яшкін.**

**СМІЛАВІЦКАЯ МЯЧЭЦЬ**, у гарадскім пасёлку Смілавічы Чэрвеньскага раёна, за 35 км ад Менска. Адкрыта 18.10. 1996 г. Пабудавана за кошт ахвяраванняў мусульманкі Нуры з Кувейта, іншых мусульман са Смілавічаў, Беларусі, блізкага замежжа, а таксама асабістага ўдзелу асобных вернікаў пры будаўніцтве.

Зруб памерам 6 на 7 метраў і прыбудова 5 на 6 метраў знадворку абфутраваны ( абкладзены ) сілікатнай цэглай, сцены знутры — вагонкай. Дах двухсхільны з абцынкаванай бляхі. На вуглу прыбудовы пастаўлены мінарэт вышынёй 9 метраў ад фундамента да паўмесяца. Ён мае балкон, з якога мязім можа заклікаць вернікаў на малітву. У мячэці зал для малітваў 5,6 на 6 метраў, вучэбны клас 3 на 5 метраў ( ён жа можа служыць памяшканнем для жанчын ў час малення ), два асобныя ўваходы ў храм — для мужчын і для жанчын, гардэробы для верхняй вопраткі, абутку. Зямельны ўчастак вакол мячэці мяркуецца добраўпарадкаваць ( абгарадзіць і азеляніць ).

У Смілавічах з 1856 да 1937 года была мусульманская мячэць, якая разбурана па загаду камуністычнай улады.

**СТРЭЧАННЕ**, С т р э ч а н н е Г а с п о д н я е , дванадзесятае праваслаўнае свята, адзначаецца 15 лютага ( па старому стылю — 2 лютага ). Гл. *Грамніцы.*

**ФАРД**, Ф а р з ( множны лік фуруд ; " абавязковае ", сінонім в а д ж ы б ), пастулкі і нормы паводзін, якія абавязковыя для чалавека як рэлігійныя запаветы, ў першую чаргу рытуальныя прадпісанні і выкананне асноўных норм набожнасці. Фарды падзяляюцца на фарды ал-

айн — галоўныя, абавязковыя для ўсіх без выключэння ( напрыклад, малітва і звязаныя з ёй дзеянні ) і фарды ал-кіфайа, невыкананне якіх можа быць выбачана абставінамі ( напрыклад, нясплачаны закят па прычыне беднасці, адмова ад паломніцтва па прычыне хваробы і да таго падобнае ). Злоснае невыкананне фарда робіць чалавека паганцам ( *фасік* ). У некаторых мазгабах фардам называюць толькі тыя прадпісанні, якія грунтуюцца на Кур'ане, тыя ж, якія вынікаюць з хадзісаў, называюцца сунна, а разам яны аб'ядноўваюцца пад агульнай назвай ваджыб — " павіннае ". Пытанні фарду былі найбольш поўна распрацаваны Аш-Шайбані ( 8 ст. ), пазней жа распрацоўкі толькі звужалі або пашыралі межы фарду ў залежнасці ад мазгабу і канкрэтных умоў.

**А. С. Багалюбаў.**

**ФАСІК** ( сінонім д ж а і р ), паганец, недастойны чалавек, які не выконвае асноўныя абавязкі ( *фард* ), заплямішы сябе з пазіцыі мусульманскай маралі, але які не выракся ад веры. Фасік з'яўляецца праваздольным толькі пры распараджэнні сваёй уласнай маёмасці. Ён можа таксама ўступаць у шлюб і заключаць гандлёвыя дамовы, але яго партнёры і кліенты маюць права патрабаваць ад яго гарантыю звыш звычайных, у прыватнасці засведчання ўсіх дамоў і здзелак сведкамі ( шахады ). Ні да якіх адміністрацыйных і выбарных пасад фасік не дапускаецца, але ён можа быць павераным чалавека, які паміраe, апекуном і да таго падобным, калі на тое была воля завяшчальніка. Чалавек перастае лічыцца фасікам, калі прынясе раскаянне ( тауба ) у сваім паганстве, пройдзе абрад (искупления — каффара ) і ачышчэння ( тахара ) ; праявіць сябе дастойным мусульманінам.

**А. С. Багалюбаў.**

**ХАМСУН**, х а м с і н , ( літаральна — пяцьдзесят ), моцны, гарачы і сухі вецер з поўдня, які бывае ў Егіпце з красавіка да чэрвеня, а таксама ўвосень у верасні і кастрычніку. Вее звычайна 10 дзён на працягу кожнага з гэтых месяцаў, сярэдняя сумарная працягласць яго 50 гадзін ( адсюль назва ). Тэмпература паветра тады раптоўна павышаецца ; звычайна разліў Ніла папярэднічае гэтаму ветру. Вецер нясе з пустынь Афрыкі і Аравійскага паўвострава вялікую колькасць дробнага пылу, які пагаршае бачнасць. Хамсун прыносіць шкоду земляробству ; адмоўна ўплывае на нервовую сістэму чалавека і жывёл. Ветры гэтага тыпу атрымалі розныя мясцовыя назвы : у Судане — габуб, ва ўсходняй Лівіі — джыблі, у Сірыі і Ліване — шлюк, у Саудаўскай Аравіі — самум, у Іране — сінум.

**Данута Мадэйска.**

**ХАШЫМІТЫ**, гл. *Гашыміты.*

МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
БЕЛАРУСКІ УНІВЕРСІТЭТ КУЛЬТУРЫ
БЕЛАРУСКІ РЭСПУБЛІКАНСКІ ФОНД ФУНДАМЕНТАЛЬНЫХ ДАСЛЕДАВАННЯЎ
МІЖНАРОДНАЯ АКАДЭМІЯ ВЫВУЧЭННЯ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ МЕНШАСЦЕЙ
РЭСПУБЛІКАНСКІ ЦЭНТР НАЦЫЯНАЛЬНЫХ КУЛЬТУР
БЕЛАРУСКАЕ ЗГУРТАВАННЕ ТАТАРАЎ-МУСУЛЬМАН " АЛЬ-КІТАБ "

**Трэцяя міжнародная навукова-практычная канферэнцыя**

**" ПРАБЛЕМЫ ВЫВУЧЭННЯ І ЗАХАВАННЯ КУЛЬТУРНАЙ СПАДЧЫНЫ ТАТАРСКАГА НАРОДА НА БЕЛАРУСІ ",**

**прысвечаная 600-годдзю татарскага асадніцтва на землях Беларуска-Літоўскай Дзяржавы**

# ПРАГРАМА КАНФЕРЭНЦЫІ

**27 — 28 сакавіка 1997 года**

Мінск 1997

## Парадак работы канферэнцыі

### 27 сакавіка

9.00 — рэгістрацыя ўдзельнікаў

10.00 — пачатак канферэнцыі

10.00 — 10.45 — прывітальнае слова да гасцей.
Выступленні гасцей.

### Даклады

11.00 — 13.00 — Агульна-тэарэтычныя праблемы.

14.20 — 16.45 — Гісторыя. Этналогія. Лінгвістыка.

17.00 — 19.00 — Гістарыяграфія і крыніцазнаўства.

### 28 сакавіка

9.00 — 11.00 — 1-ы круглы стол.
Гісторыя матэрыяльнай культуры.

9.00 — 11.00 — 2-і круглы стол.
Матэрыялы па асобных раёнах аселасці татар, літаратурна-мастацкія нарысы, успаміны.

11.10 — 11.50 — падвядзенне вынікаў.

12.00 — паездка ў Смілавічы.

### Рэгламент

Даклады — да 10 — 15 хвілін.

## Праграма

**27 сакавіка, ауд. 114.**

**10.00 — 10.45**

Адкрыццё канферэнцыі.

Прывітальнае слова рэктара Беларускага універсітэта культуры прафесара Грыгаровіч Я. Д.

Выступленні гасцей.

**11.00 — 13.00**

## Даклады

### Агульна-тэарэтычныя праблемы

1. Каўка А. К., доктар філалагічных навук. Інстытут сусветнай літаратуры імя А. М. Горкага Расійскай АН ( Масква ):

**" Татарская дыяспара ў кантэксце беларускай культуры ".**

2. Канапацкі І. Б., кандыдат гістарычных навук, чл.-кар. Міжнароднай акадэміі вывучэння нацыянальных меншасцей ( Мінск ):

**" Вывучэнне культурнай спадчыны беларускіх татар ".**

3. Думін С. У., кандыдат гістарычных навук, старшы навуковы супрацоўнік Цэнтральнага гістарычнага музея ( Масква ):

**" Геральдыка літоўскіх татар ".**

4. Філатава А., навуковы супрацоўнік Ін-та гісторыі АНБ ( Мінск ):

**" Сучасная польская гістарыяграфія аб літоўскіх татарах ".**

5. Сакалоў М. К., доктар гістарычных навук прафесар Беларускага педуніверсітэта ( Мінск ):

**" Гістарыяграфія нацыянальных меншасцей на Беларусі ў 20 ст. "**

6. Грыгор'ева В. В., кандыдат гістарычных навук, старшы навуковы супрацоўнік інстытута гісторыі АН РБ ( Мінск ):

**" Мусульманства ў кантэксце канфесійнай гісторыі 19 — 20 стст. "**

7. Землякоў Л. Я., кандыдат філасофскіх навук, саветнік-кансультант Камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу РБ па правах чалавека і нацыянальных адносінах ( Мінск ):

**" Сацыяльна-філасофскія аспекты адносін дзяржавы і канфесій у сучаснай Беларусі ".**

8. Яцкевіч С. А., доктар філасофскіх навук, прафесар, прэзідэнт міжнароднай Акадэміі вывучэння нацыянальных меншасцей ( Брэст ):

**" Нацыянальная самасвядомасць як аснова забеспячэння функцыянавання духоўнай культуры татарскага народа ў Беларусі ".**

9. Шур В. В., кандыдат філалагічных навук, дацэнт, дэкан факультэта педагогікі і методыкі пачатковага навучання Мазырскага педуніверсітэта ( Мазыр ) :
**" Да праблемы вывучэння і захавання духоўнай спадчыны беларускіх татараў у школах і ВНУ ".**

**14.20 — 16.45**

**Гісторыя. Этналогія. Лінгвістыка.**

1. Александровіч Х. М., доктар хімічных навук, вядучы навуковы супрацоўнік інстытута агульнай і неарганічнай хіміі АНБ ( Мінск ) :
**" Этнічныя працэсы ў жыцці беларуска-літоўскіх татар ".**

2. Гаммал Г. І., сябра Беларускага згуртавання татараў-мусульман " Аль-Кітаб " ( Мінск ).
**" Татары і караімы на беларускіх і літоўскіх землях ".**

3. Цітоў В. С., доктар гістарычных навук, прафесар, загадчык кафедры этналогіі і музеязнаўства Беларускага універсітэта культуры ( Мінск ) :
**" Татарскае насельніцтва Беларусі ў канцы 19 — пачатку 20 ст. ( паводле матэрыялаў Першага ўсеагульнага перапісу насельніцтва 1897 г. " .**

4. Байрашаўскайтэ Т., доктар гістарычных навук, навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі Літвы ( Вільнюс ) :
**" Некаторыя аспекты ваеннай службы татар у другой палове 18 ст. ".**

5. Смолік А. І., кандыдат гістарычных навук, дацэнт, прарэктар Беларускага універсітэта культуры ( Мінск ) :
**" Татары ў складзе войска Вялікага Княства Літоўскага ".**

6. Грыцкевіч А. П., доктар гістарычных навук, прафесар, загадчык кафедры філасофіі і гісторыі Беларускага універсітэта культуры ( Мінск ) :
**" Працэсы перасялення беларускіх татараў у гарады ( 18 — 19 стст. )".**

7. Токць С. М., выкладчык кафедры беларускай культуры Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта ( Гродна ) :
**" Беларускія татары на службе ў дзяржаўных установах Гродзенскай губерні ( 19 ст. ) ".**

8. Маліноўскі М. М., правадзейны член Геаграфічнага таварыства ( Баранавічы ) :
**" Пад Грунвальдам суровы экзамен здалі... " ( Татары і бітва пад Зялёным Гаем ).**

9. Бекцінееў Ш. І., кандыдат гістарычных навук, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АНБ ( Мінск ) :
**" Татарская нумізматыка : праблемы і задачы даследавання ".**

10. Мішкінене-Александровіч Г., доктар філалагічных навук, прафесар кафедры славянскай філалогіі Вільнюскага дзяржаўнага універсітэта ( Вільнюс ) :

**" Фальклорная спадчына літоўскіх татар на матэрыялах арабска-алфавітных рукапісаў сярэдзіны 17 ст. "**

11. Свяжынскі У. М. , кандыдат філалагічных навук, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АНБ ( Мінск ) :

**" Эвалюцыя моўнай свядомасці татар Беларусі ў 16 — 17 стст. "**

12. Жылуновіч А. А. , кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры беларускай мовы і літаратуры Беларускага універсітэта культуры ( Мінск )

**" Цюркскія запазычанні ў беларускай мове ".**

**17.00 — 19.00**

**<u>Гістарыяграфія , праблемы крыніцазнаўства.</u>**

1.Хазбіевіч С. , доктар навук, імам Гданьскай мячэці ( Гданьск ) :

**" Татары ў польскай мастацкай літаратуры ".**

2. Высоцкіс А. , доктар гістарычных навук, член Сойма Літоўскай рэспублікі ( Вільнюс ) :

**" Тэма крымскіх татар у нелегальным літоўскім друку ".**

3. Піваварчык С. А. , кандыдат гістарычных навук, дацэнт кафедры беларускай культуры Гродзенскага універсітэта ( Гродна ) :

**" Матэрыялы па гісторыі татар у фондах нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі ў Гродна ".**

4. Лыч Л. М. , доктар гістарычных навук, прафесар, вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АНБ ( Мінск ) :

**" Неапраўданае маўчанне ( Слова пра кнігу С. Думіна і І. Канапацкага " Беларускія татары ".**

5. Іоффэ Э. Р., доктар гістарычных навук, прафесар, акадэмік Акадэміі вывучэння нацыянальных меншасцей Беларусі ( Мінск ) :

**" Невядомыя старонкі жыццядзейнасці вучонага Бекіра Смольскага ".**

6. Грынчык М. М., доктар філалагічных навук, прафесар, загадчык кафедры беларускай мовы і літаратуры Беларускага універсітэта культуры ( Мінск ) :

**" Шляхі ў навуку : зігзагі лёсу ".**

7. Цішчанка І. К., кандыдат філалагічных навук, прафесар кафедры этналогіі і музеязнаўства Беларускага універсітэта культуры ( Мінск ) :

**" Адам Кіркор — даследчык беларускай міфалогіі ".**

8. Кіммель Я. А., літаратар ( Мінск ) :
**“ Акты пра яўрэяў і татар у выданнях Віленскай археаграфічнай камісіі “.**

9. Скалабан В. У., кандыдат гістарычных навук, намеснік дырэктара Навукова-даследчага і-та дакументазнаўства і архіўнай справы ( Мінск ) :
**“ Энцыклапедычны даведнік пра беларускіх татар : праблемы, магчымасці, перспектывы “.**

10. Герасімава І. П., кандыдат гістарычных навук, дырэктар адукацыйных праграм Ізраільскага культурна-інфармацыйнага цэнтра (Мінск) :
**“ Прынцыпы стварэння бібліяграфічнага даведніка па гісторыі нацыянальных меншасцей у Беларусі “.**

**28 сакавіка , ауд. 114.**

**9.00 — 11.00 — 1-ы круглы стол :**

**Гісторыя матэрыяльнай культуры .**

1. Лакотка А. І., доктар гістарычных навук, прафесар, намеснік дырэктара І-та мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АНБ ( Мінск ) :
**“ Помнікі дойлідства татар-мусульман у архітэктурнай спадчыне Беларусі “.**

2. Трусаў А. А., кандыдат гістарычных навук, дацэнт, дэкан факультэта бібліятэчна-інфармацыйных сістэм Беларускага універсітэта культуры ( Мінск ) :
**“ Мінская мячэць “.**

3. Байрашэўскі С. М., старшыня абшчыны татар-мусульман у Слоніме :
**“ Мячэць у Слоніме “.**

4. Шэгідэвіч А. А., старшыня абшчыны татар-мусульман у Навагрудку :
**“ Гісторыя мячэці ў Навагрудку “.**

5. Дубар Г., мастацтвазнаўца ( Узда ) :
**“ Мусульманскія мугіры Уздзеншчыны “.**

6. Квяткоўская А. В., кандыдат гістарычных навук, навуковы супрацоўнік аддзела археалогіі інстытута гісторыі АНБ ( Мінск ) :
**“ Да пытання аб пахавальных помніках татараў на Беларусі “.**

7. Шэгідэвіч В. І., імам Ашмянскай абшчыны татар-мусульман :

**" Захаванасць мусульманскіх мізараў ( магільнікаў ) у Ашмянскім і Смаргонскім раёнах ".**

**9.00 — 11.00 — 2-і круглы стол :**

**<u>Матэрыялы па асобных раёнах аселасці татар, літаратурна-мастацкія нарысы, успаміны.</u>**

1. Дарашэвіч Э. К., доктар філасофскіх навук, прафесар, акадэмік Міжнароднай акадэміі вывучэння нацыянальных меншасцей ( Мінск ) :
**" Сацыялагічныя даследаванні татарскага насельніцтва ў Іўі ".**

2. Тышкевіч Ян , доктар гістарычных навук, прафесар Варшаўскага універсітэта ( Варшава ) :
**" Ад Дэшт-і-Кіпчак да Ені-Шэгіра і Кырк-Татар ".**

3. Шаблюк В. У., кандыдат гістарычных навук, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АНБ ( Мінск ) :
**" Койданаўскія татары ".**

4. Цыхун А., заслужаны настаўнік РБ, член Рады гарадзенскай краязнаўчай асацыяцыі ( Гродна ) :
**" Ласасянскія татары-казакі ".**

5. Побаль Л. Д., доктар гістарычных навук, член-карэспандэнт Міжнароднай славянскай акадэміі ( Мінск ) :
**" Далятыцкія татары. Некропаль. ( Успаміны дзяцінства ) ".**

6. Багадзяж М., член Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, гістор публіцыст ( Мінск ) :
**" Глінскія. Праблемы генеалогіі ".**

7. Александровіч А. Б., член Саюза мастакоў Беларусі, старшы выкладчык Беларускай палітэхнічнай акадэміі ( Мінск ) :
**" Чаму польскі нацыянальны партрэт 17 — 18 стст. носіць назву сармацкага ? "**

8. Крыніцкі Ю., старшыня абшчыны татар-мусульман г. Гродна :
**" Сацькаўшчызна — адметная татарская вёска ".**

**11.10 — 11.50**

**Падвядзенне вынікаў. Прыняцце заключнага дакумента.**

**12.00**

**Паездка ў Смілавічы.**

# ЗМЕСТ